*«Ніколі не забывайма, што сапраўдная ўлада — гэта служэнне і што таксама Папа, каб здзяйсняць уладу, павінен усё больш уваходзіць у гэтае служэнне, светлая вяршыня якога знаходзіцца на крыжы; павінен спазіраць на пакорную і поўную веры паслугу св. Юзафа і гэтак, як ён, раскрываць свае абдымкі і атуляць увесь Божы люд, прымаючы з любоўю і ласкаю ўсё чалавецтва, асабліва самых бедных, слабых і безабаронных».*

Папа Францішак (з гаміліі падчас інаўгурацыі Пантыфікату, 19 сакавіка 2013 г.).



У нумары 2/2013

НАША ВЕРА



# Пантыфікат любові і служэння

13 чэрвеня мінула тры месяцы з таго часу, як адбылася значная падзея ў гісторыі Касцёла: на Пасад святога Пятра быў абраны аргентынскі кардынал Хорхе Марыа Берголіа. Для многіх ён адразу ж пачаў асацыявацца са словам «першы». Ён — першы Папа паходжаннем з Лацінскай Амерыкі, першы Папа езуіт, першы Папа, які выбраў сабе імя Францішак, першы Папа, якога пасля вялікага расколу 1054 года наведаў з афіцыйным візітам у Рыме Канстанцінопальскі патрыярх Барталамей І...

У першыя ж дні Пантыфікату папа Францішак здзівіў увесь свет сціпласцю і простасцю паводзінаў, пачынаючы з першых сваіх словаў «добры вечар!», з якімі ён звярнуўся да вернікаў з балкона базылікі святога Пятра, і таго, што распачаў прамову, папрасіўшы людзей памаліцца за яго самога і за яго папярэдніка Бэнэдыкта XVI, а не з традыцыйнага благаслаўлення люду Божага. Але гэтая сціпласць — зусім не дзіва для яго суайчыннікаў. Яшчэ як арцыбіскуп Буэнас-Айрэса папа Францішак адмовіўся жыць у біскупскім палацы, пасяліўшыся ў маленькай кватэры, і не стаў карыстацца персанальным аўто, аддаўшы перавагу аўтобусам і метро. Ён — сапраўдны аргентынец, які любіць танга і футбол, і пры гэтым — добры кіраўнік, чалавек строгі, здольны называць рэчы сваімі імёнамі і сур'ёзна вырашаць сур'ёзныя пытанні, пра што сведчаць яго супрацоўнікі.

У Аргентыне ён вядомы сваім шчырым стаўленнем да людзей і сапраўднай, не напаказ, любоўю да бліжніх, асабліва самых пагарджаных і прыніжаных. Напрыклад, у Вялікі чацвер у 2001 годзе ён наведаў хоспіс, дзе падчас літургіі Вячэры Пана абмыў і пацалаваў ногі 12-ці хворых на СНІД, патлумачыўшы гэта тым, што Хрыстус не аддаляўся ад пракажоных. А першую святую Імшу Вялікага чацвярга ў якасці Біскупа Рыма ён цэлебраваў у турме для непаўналетніх злачынцаў «Казаль дэль Марма», выклікаўшы гэтым вялікі розгалас.

Папа Францішак — сын італьянскага эмігранта-чыгуначніка, манах езуіт з Лацінскай Амерыкі, дзе жыве больш за палову католікаў свету. Ён нарадзіўся 17 снежня 1936 года ў Буэнас-Айрэсе, быў малодшым з 5-ці дзяцей. Хорхе Марыа Берголіа далучыўся да ордэну езуітаў у 22 гады, праз 10 гадоў атрымаў святарскае пасвячэнне. Вучыўся ў Аргентыне, Чылі і Германіі. Акрамя роднай іспанскай мовы, ён добра ведае таксама нямецкую і італьянскую. Ён быў выкладчыкам літаратуры, філасофіі і тэалогіі ў трох каталіцкіх каледжах Буэнас-Айрэса. З 1973 да 1979 года будучы Пантыфік быў правінцыялам ордэну езуітаў у Аргентыне, а з 1980 да 1986 года — рэктарам семінарыі св. Юзафа. У 1998 годзе ён быў прызначаны арцыбіскупам Буэнас-Айрэса. Вядома, што адным з выхавацеляў Хорхе Марыа Берголіа быў украінскі ўніяцкі святар Сцяпан Чміль — у часы студэнцтва будучы Папа прыслугоўваў яму падчас літургіі, такім чынам, ён добра знаёмы і з усходняй хрысціянскай традыцыяй. Як арцыбіскуп Буэнас-Айрэса Хорхе Марыа Берголіа быў ардынарыем для католікаў усходняга абраду.

У 2001 годзе папа Ян Павел ІІ надаў яму званне кардынала. Хорхе Марыа Берголіа ўваходзіў у Кангрэгацыю па справах духавенства, Кангрэгацыю Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў, Кангрэгацыю па справах Інстытутаў кансэкраванага жыцця і Таварыстваў апостальскага

жыцця, а таксама ў Камісію па справах Лацінскай Амерыкі і па справах сям'і. Ён — выдатны багаслоў, але акрамя гэтага мае таксама адукацыю хіміка-тэхнолага. Пра свайго кардынала каталікі Аргентыны казалі: «Ён ніколі не прамаўляе доўгіх казанняў, але ў некалькі сказаў укладае столькі значнага сэнсу, што яны надоўга застаюцца ў памяці».

На першай прэс-канферэнцыі Пантыфік адзначыў, што выбраў імя ў гонар Францішка Асізскага, «увасаблення ўбоства і супакою». Кардынал Хорхе Марыа Берголіа і раней клапаціўся пра тое, каб Касцёл займаў актыўную пазіцыю ў справе абароны бедных, бо «несправядлівае размеркаванне даброт нараджае сацыяльны грэх і абмяжоўвае магчымасць нармальнага жыцця для многіх нашых братоў».

У сваім блогу ў твітэры (*https://twitter.com/Pontifex*), які Папа вядзе з самага пачатку свайго Пантыфікату, ён працягвае звяртаць увагу вернікаў на тое, якім павінна быць хрысціянскае служэнне ў свеце: «Мы не павінны верыць зламу духу, які кажа, што мы нічога не ў стане зрабіць перад абліччам жорсткасці, несправядлівасці і граху» (24 сакавіка); «Кожны хрысціянін — місіянер у тых межах, у якіх ён дае сведчанне Божай любові. Будзьце місіянерамі Божай пяшчоты!» (5 мая); «Мы не павінны быць хрысціянамі на "няпоўны працоўны дзень"! Кожную хвіліну кожнага дня мы павінны імкнуцца жыць вераю» (16 мая); «Хрыстус заклікае нас усё больш і больш выходзіць за межы сябе саміх, каб аддаваць сябе і служыць іншым» (4 чэрвеня); «Клопат пра створаны свет — гэта не толькі тое, пра што Бог гаварыў на пачатку гісторыі: Ён даверыў гэты свет кожнаму з нас як частку Ягонага плану» (5 чэрвеня).

*Падрыхтавала Юлія Шэдзько.*




# Прамова папы Францішка
## да прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі 16 сакавіка 2013 года

Дарагія сябры!

Цешуся, што на пачатку майго служэння ў Пятровай Сталіцы я сустракаюся з вамі — тымі, хто працаваў тут, у Рыме, у гэты гарачы час, які распачаўся 11 лютага з нечаканай заявы, зробленай маім шаноўным папярэднікам Бэнэдыктам XVI. Сардэчна вітаю кожнага з вас.

Апошнім часам роля сродкаў масавай інфармацыі вырасла да той ступені, што без іх стала немагчыма перадаваць свету падзеі сучаснай гісторыі. Таму я асабліва дзякую вам за вашае важнае служэнне на працягу гэтых дзён, калі вочы ўсяго свету, не толькі каталіцкага, былі звернутыя на Вечны горад, і асабліва ў гэтае месца, цэнтрам якога з'яўляецца магіла святога Пятра. На працягу некалькіх тыдняў вы павінны былі гаварыць пра Апостальскую Сталіцу і Касцёл, пра яго рытуалы і традыцыі, яго веру і перадусім пра ролю Папы і яго служэння.

Я асабліва ўдзячны тым, хто здолеў убачыць і падаць гэтыя падзеі ў гісторыі Касцёла з той найбольш адпаведнай перспектывы, з якой іх трэба разглядаць, з перспектывы веры. Гістарычныя падзеі амаль заўсёды патрабуюць інтэрпрэтацыі з улікам усіх нюансаў, што часам павінна браць пад увагу і вымярэнне веры. Можна дакладна сказаць, што падзеі ў гісторыі Касцёла не такія складаныя і заблытаныя, як палітычныя і эканамічныя падзеі, але для іх характэрная адна асаблівая фундаментальная рыса: яны адпавядаюць мадэлі, што цяжка стасуецца з тымі свецкімі катэгорыямі, якія мы прывыклі выкарыстоўваць, таму іх цяжка інтэрпрэтаваць і распаўсюджваць сярод шырокай і вельмі разнастайнай супольнасці. Касцёл, з'яўляючыся, без сумневу, чалавечым і гістарычным інстытутам з усімі наступствамі, якія адсюль вынікаюць, па сваёй сутнасці мае, аднак, не палітычны, а духоўны характар: Касцёл — гэта народ Божы, святы народ Божы, які ідзе шляхам, што вядзе да сустрэчы з Езусам Хрыстом. Толькі з гэтай перспектывы можна цалкам зразумець дзейнасць і жыццё Каталіцкага Касцёла.

Хрыстус — гэта Пастыр Касцёла, але Яго прысутнасць у гісторыі ажыццяўляецца з дапамогаю чалавечай свабоды: з асяродку людзей выбіраецца адзін, каб служыць вікарыем Хрыста, пераемнікам апостала Пятра. Але цэнтрам застаецца Хрыстус, не пераемнік Пятра, а Хрыстус, Хрыстус з'яўляецца цэнтрам. Хрыстус — зыходная кропка, сэрца Касцёла. Без Яго Пётр і Касцёл не існавалі б і не мелі б



прычыны існаваць. Як часта паўтараў нам Бэнэдыкт XVI, Хрыстус прысутны ў сваім Касцёле і кіруе ім. Ва ўсім, што здарылася, абавязкова асноўнай дзейнай Асобай з’яўляецца Дух Святы. Ён паўплываў на рашэнне Бэнэдыкта XVI дзеля дабра Касцёла, Ён кіраваў кардыналамі ў малітве і выбары.

Шаноўныя сябры! Важна мець на ўвазе гэтую перспектыву інтэрпрэтацыі, гэтую герменеўтыку, каб адпаведным чынам распавядаць пра падзеі, якія адбываліся ў гэтыя дні. І таму я яшчэ раз мушу шчыра падзякаваць вам за вашую працу ў гэтыя вельмі складаныя дні і папрасіць, каб вы імкнуліся ўсё лепш пазнаваць сапраўдную прыроду Касцёла, як і яго шлях у гэтым свеце, з яго цнотамі і грахамі, а таксама пазнаваць духоўную матывацыю, якою Касцёл кіруецца і якая з’яўляецца найлепшым спосабам зразумець яго. Будзьце ўпэўненыя, што Касцёл са свайго боку высока цэніць і ўважліва ставіцца да вашай важнай працы. Вы маеце сродкі, каб пачуць і агучыць чалавечыя спадзяванні і намаганні, аналізаваць і інтэпрэтаваць падзеі сучаснасці. Вашая праца патрабуе руплівай падрыхтоўкі, уражлівасці, досведу, як і многія іншыя прафесіі, але таксама і асаблівага клопату аб тым, што ёсць праўда, дабро і прыгажосць. І гэта асаблівая лучыць нас, бо Касцёл існуе, каб распаўсюджваць менавіта гэтае: ўвасобленыя Праўду, Дабро і Прыгажосць. Павінна быць цалкам зразумела, што ўсе мы пакліканыя не дзеля таго, каб пашыраць звесткі пра саміх сябе, але пра гэтую экзістэнцыяльную трыяду, якую ўтвараюць праўда, дабро і прыгажосць.

Некаторыя хацелі ведаць, чаму Біскуп Рыма пажадаў называцца Францішкам. Некаторыя падумалі пра Францішка Ксавэрыя, Францішка Сальскага, а таксама пра Францішка Асізскага. Я раскажу, як усё адбывалася. Падчас выбараў побач са мною сядзеў арцыбіскуп Сан Паўла — былы прэфект Кангрэгацыі духавенства кардынал Клаўдыё Хуммес — мой добры сябра! Калі справа выглядала крыху небяспечнай, ён дадаваў мне адвагі. А калі колькасць галасоў дасягнула дзвюх трэцяў, як звычайна, пачаліся апладысменты з прычыны выбару Папы. Ён абняў мяне, пацалаваў і сказаў: «Не забывайся пра бедных». Я запомніў гэтыя словы: бедныя, бедныя. І тады адразу, думаючы пра бедных, я падумаў пра Францішка Асізскага. Пасля я думаў пра ўсе войны, якія вядуцца, пакуль працягваўся падлік галасоў, да самага канца. Францішак таксама быў чалавекам супакою. І таму ў маім сэрцы ўзнікла імя: Францішак Асізскі, які для мяне з’яўляецца чалавекам убоства, чалавекам супакою, які любіць і абараняе ўсё жывое, а сёння нашыя адносіны са створаным светам не вельмі добрыя, праўда? Ён — чалавек, які нясе нам дух супакою, убогі чалавек... Ах, як бы я хацеў, каб Касцёл быў убогім і для ўбогіх! «Ты павінен выбраць імя Адрыян, бо Адрыян VI быў рэфарматарам, нам патрэбныя рэформы!» Хтосьці іншы сказаў мне: «Не, не, ты павінен узяць імя Клімэнт». Але чаму? «Клімэнт XV — такім чынам ты адплаціш Клімэнту XIV, які забараніў Таварыства Езуса!» Такія былі жарты.

Я ўсіх вас вельмі люблю і дзякую вам за ўсё, што вы зрабілі. Я буду маліцца, каб вашая праца заўжды была лагоднаю і плённаю, і каб вы ўсё лепш пазнавалі Евангелле Езуса Хрыста і багацце жыцця Касцёла. Давяраю вас заступніцтву Найсвяцейшай Дзевы Марыі, Зоркі Евангелізацыі. Перадаю найлепшыя пажаданні вам і вашым сем’ям, кожнай вашай сям’і. Я сардэчна благаслаўляю вас. Дзякуй.

(*На заканчэнне Святы Айцец звярнуўся да сабраных у зале Паўла VI на іспанскай мове.*)

Я сказаў, што сардэчна благаслаўляю вас. Паколькі ж многія з вас не належаць да Каталіцкага Касцёла, іншыя ж з’яўляюцца няверуючымі людзьмі, я сардэчна благаслаўляю вас у цішыні, кожнага з вас, паважаючы сумленне кожнага чалавека, але ведаючы, аднак, што кожны з вас — Божае дзіця. Няхай Бог вас благаслаўляе!

*Пераклад Юліі Шэдзько.*
*Паводле матэрыялаў сайта www.vatican.va.*

# Ліцэнзія на збаўленне…

*Хадзіць у касцёл — значыць праслаўляць Адзінага Бога. Гэта мае сэнс толькі тады, калі ў жыцці мы не вызнаем іншых багоў.*

Гутарка з Веславам Давідоўскім OSA



**Веслаў Давідоўскі** — аўгустынец, тэолаг, святар, публіцыст. Нарадзіўся ў 1964 годзе. Кіраўнік англамоўнай душпастырскай супольнасці для замежнікаў у Варшаве і дапаможны старшыня Польскай рады хрысціянаў і юдэяў. Правінцыял Ордэну аўгустынцаў у Польшчы. Жыве ў Ламянках.

*— Калі лічыць, што па-за Касцёлам няма збаўлення, якія тады межы Касцёла? Дзе ён ёсць, а дзе яго ўжо няма?*

— На гэтае пытанне хацеў адказаць Другі Ватыканскі Сабор. У Дагматычнай канстытуцыі пра Касцёл «*Lumen Gentium*» мы чытаем, што Касцёл Хрыстовы трывае ў Каталіцкім Касцёле. І пра гэтае слоўца «трывае», па-лацінску «*subsistit*», ідзе спрэчка ў коле тэолагаў: ці трэба разумець яго ў інклюзіўным сэнсе і ўключаць у Касцёл вернікаў іншых канфесій, ці ў сэнсе эксклюзіўным, абмяжоўваючы магчымасці Касцёла выключна Каталіцкім Касцёлам. Толькі што ж было інтэнцыяй айцоў Сабору?

Бэнэдыкт XVI, калі быў яшчэ кардыналам Ратцынгерам, у дакуменце «*Dominus Jesus*» вельмі выразна акрэсліў, што «*subsistit*» азначае межы Каталіцкага Касцёла. Аднак жа сапраўдны тэолаг будзе спрачацца аб тым, што мае большае значэнне: навука Кангрэгацыі дактрыны веры ці навука Сабору.

*— Якая з канцэпцый бліжэй Вам: звужанага ці пашыранага Касцёла?*

— Я прыхільнік пашырэння межаў Касцёла, але не да межаў немагчымага!

*— Ва ўзгаданай Вамі Дагматычнай канстытуцыі пра Касцёл у 14 і 15 пунктах апісаныя ступені прыналежнасці да Касцёла: перш за ўсё гэта каталікі, пасля — іншыя хрысціяне, юдэі, мусульмане, вернікі іншых рэлігій і ўрэшце людзі добрай волі.*

— І адразу — папраўка. У гэтых пунктах канстытуцыі выразна гаворыцца аб прыналежнасці да народу Божага, а не да Касцёла. Дзве гэтыя рэаліі часта блытаюць. Божы народ — гэта больш шырокае паняцце, чым Касцёл, які з'яўляецца знакам, а не шляхам збаўлення.

*— Ён толькі прылада?*

— Менавіта так. Шляхам збаўлення з'яўляецца Хрыстус, а Касцёл паказвае на Яго. Канстытуцыя «*Lumen Gentium*» пачынаецца словамі «Хрыстус — святло народаў», а не Касцёл. Касцёл жа, як казалі яго айцы, гэта толькі месяц, які свеціць людзям уначы і дапамагае дачакацца світання. Калі мы ўсвядомім гэта, тады з'явіцца пытанне: дзе людзі атрымліваюць збаўленне?

*— Дык дзе ж людзі атрымліваюць збаўленне?*

— Нашая размова зводзіцца да тлумачэння формулы, якую вывеў у III стагоддзі святы Цыпрыян: «*Extra Ecclesiam nulla salus*» — «Па-за Касцёлам няма збаўлення». Але трэба памятаць, у якім кантэксце Цыпрыян сказаў гэтыя словы. Гэта быў час пераследу хрысціянаў, і многія пакінулі Касцёл, баючыся за сваё часовае жыццё. Цыпрыян агучыў яшчэ адну важную думку, якая многае тлумачыць: «Не можа мець Бога сваім Айцом той, хто не мае Касцёла сваёй Маці». Толькі, будзьце ўважлівыя, гэтыя словы датычаць не тых, хто знаходзіцца па-за Касцёлам, а тых, хто з'яўляецца яго часткаю. Праз сямнаццаць стагоддзяў канстытуцыя «*Lumen Gentium*» скажа, што да Касцёла належаць сэрцам, а не целам. І выразна акрэсліць: ёсць тыя, хто афіцыйна не далучыўся да Касцёла, але і так належыць да яго — гэта людзі, якія выконваюць закон Божы і дзякуючы гэтаму набліжаюцца да збаўлення. А ёсць і такія, хто трывае ў Касцёле толькі целам, а не духам, і яны (канстытуцыя выразна кажа пра гэта, цытуючы святога Аўгустына) збаўлення не атрымаюць. То бок, можна быць часткаю Касцёла і не атрымаць збаўлення. Гэта трагедыя, і перадусім трагедыя Бога, бо Ён не дае гвалтам збаўлення таму, хто гэтага не хоча.

*— Чым жа ёсць збаўленне?*

— Збаўленне — гэта шматзначнае паняцце. Гаворка ідзе пра перамогу над некім або нечым. З аднаго боку, гэта «*salus*» — здароўе, якое грунтуецца на лучнасці душы і цела. Маюцца на ўвазе паводзіны чалавека па

духу, а не паводле жаданняў цела.

*— Збаўленне такога кшталту мы атрымліваем ужо тут і цяпер?*

— Лепш сказаць, мы імкнемся да яго, змагаемся за яго. Але такое збаўленне таксама і падараванае нам. Святы Аўгустын так прамаўляе да Бога: «Дай тое, што наказваеш, і наказвай тое, чаго хочаш». Гэта значыць, што чалавек не можа выканаць таго, што Бог вымагае ад яго, без дапамогі Божай ласкі. Для таго, каб атрымаць збаўленне, мы павінны стаць паплечнікамі Бога.

Ёсць і другая рэалія збаўлення, якую разумеюць як шчасце, што распачынаецца тут і працягваецца ў вечнасці.

*— Як можна распазнаць знакі збаўлення ў штодзённасці? Як зразумець, што, кажучы простымі словамі, нам ужо цяпер адплаціцца за тое, што мы ходзім у касцёл?*

— Што значыць хадзіць у касцёл? Мы, хіба, не да канца гэта разумеем. Гісторыя збаўлення, якая знаходзіцца ў Бібліі, гэта апісанне дзвюх сітуацый: Бога, які шукае чалавека, і чалавека, які шукае Бога. Але не проста абы-якога бога, а Бога Адзінага! Гэта таямніца выбрання Ізраэля, які быў пакліканы пакланяцца Адзінаму Богу і быць Яго знакам у свеце. Аднойчы ў гісторыі збаўлення з'яўляецца Хрыстус, з якога вырастае Касцёл, дзе гаворка ідзе пра тыя самыя рэчы! У сваёй размове з самаранкаю Езус кажа, што праўдзівыя вызнаўцы будуць пакланяцца Богу ў Духу і праўдзе (пар. Ян 4, 21–23), і тое, што мы ходзім у касцёл, — менавіта пакланенне Адзінаму Богу. Гэта мае сэнс толькі тады, калі мы не маем у жыцці іншых багоў. У іншым выпадку мы толькі ставім галачку аб сваёй прысутнасці ў касцёле, нават тады, калі падчас Імшы пабожна прымаем святую Камунію. Вельмі істотна зразумець, што мы ідзем у касцёл, каб пакланіцца Адзінаму Богу ў супольнасці тых, хто верыць гэтак жа, як і мы. Калі святы Цыпрыян кажа, што «па-за Касцёлам няма збаўлення», гэта значыць, што чалавек не знойдзе шчасця па-за тым станам, калі пакланяецца Адзінаму Богу. Але гэта не так проста.

*— Калі Вы кажаце пра пакланенне, я адразу бачу пагрозу пустой абраднасці і мізэрнасці супольнасцяў, дзе адбываецца гэтае пакланенне.*

— Менавіта так! Адсюль трагедыя Езуса, які, паводле словаў святога Марка, увайшоў у Ерузалемскую святыню, добра ўсё агледзеў і адразу выйшаў з яе, бо ўбачыў маску абраднасці, пустыя рытуалы. Можа стацца так, што нашае пакланенне таксама будзе знешнім, перастане існаваць ад сэрца. Але ў мяне склалася ўражанне, што сёння, прынамсі ў некаторых колах, людзі нанава адкрываюць дух літургіі, — тое, што з'яўляецца сутнасцю нашай сустрэчы ў касцёле. Мы сустракаемся там, бо сустрэлі Адзінага Бога, Таго, з якога мы выйшлі і да якога вяртаемся. Усё больш людзей шукаюць сустрэчы з Богам у цішыні і гармоніі, а не ў гітарным шуме і мнагаслоўнасці малітваў.

*— І як тады прабываць у Касцёле, — заўважце, што я не сказала «хадзіць у касцёл», — каб атрымаць збаўленне?*

— Каб атрымаць дар збаўлення, дар штодзённага шчасця, і атрымаць, не забраўшы яго ў іншых людзей. Бо забіраць шчасце ў іншых або не дазваляць, каб побач з намі былі шчаслівыя людзі, — гэта таксама грэх. Усё канчаткова канкрэтызаванае ў запаведзі любові да Бога і бліжняга — у ёй заключаныя ўсе нашыя прагненні і пошукі.

*— Ойча, а што Вы думаеце пра традыцыяналісцкія рухі, якія адраджаюцца і развіваюцца ў Касцёле? Яны прапаноўваюць лепшы, больш эфектыўны шлях да збаўлення? А звычайнай прыналежнасці мала?*

— Збаўленне датычыць вельмі шырокай сферы чалавечага жыцця: адкуплення, выбаўлення чалавека ад граху, ад сітуацый канфліктаў сумлення, ад той трагедыі, калі мы разрываемся паміж розным выбарам. Яно паказвае, што чалавек можа дасягнуць шчасця, нягледзячы на пакуты, не таму, што пакуты нас узвышаюць, а таму, шо Бог уваходзіць у гэтыя пакуты ў асобе Езуса Хрыста. Традыцыяналісцкія рухі — гэта не шлях да лепшага перажывання збаўлення, а акрэсленая форма рэлігійнасці і рытуал яе практыкавання. Іх узнікненне, напрыклад, у ЗША, звязанае з абуджэннем усведамлення, што пасля Другога Ватыканскага Сабору нешта было страчанае, разам з вадою выплюхнулі і дзіця. Я чуў, як святары з ЗША распавядалі, што былі сведкамі таго, як цэлебрант падчас Імшы замяняў хлеб асноваю для піцы, а віно — кока-колаю. Зразумела, вернікі прыдумалі, як яму за гэта адплаціць: у наступную нядзелю яны склалі ў ахвяраванне гузікі замест манетаў.

*— Спадзяюся, гэта толькі анекдот.*

— Не, гэта факт. Таму не дзіўна, што вагальнік адхіліўся ў правы бок. Гэта рэакцыя на канкрэтныя злоўжыванні. Бэнэдыкт XVI кажа, што трыдэнцкая і паслясаборная (Паўла VI) Імшы — дзве раўнапраўныя формы літургіі, якія могуць існаваць побач. Істотна, каб тыя, хто прымае ў іх удзел, не глядзелі адзін на аднаго з пагардаю і пыхаю. Бо калі пакланенне Адзінаму Богу і магчымасць дасягнуць збаўлення абмяжоўваецца да пэўнай вузкай групы людзей, штосьці ў гэтым не так. Святы Павел казаў, што Бог прагне, каб усе атрымалі збаўленне (пар. 1 Цім 2, 4). Але людзі адрозніваюцца адзін ад аднаго, таму няма аднолькавага для ўсіх шаблону збаўлення. Калі б Бог стварыў нас усіх на адзін узор, гэта быў бы вельмі сумны Бог і вельмі нудны свет.

*— А можа, такая радыкальнасць — гэта спосаб захаваць Касцёл? Сацыёлагі кажуць, што найбольшыя шанцы маюць менавіта радыкальныя групы, якія прапануюць вельмі выразна акрэсленую тоеснасць.*

— Так, але сацыёлагі вельмі добра ведаюць спосабы вывучэння бачнай рэчаіснасці. А Касцёл — гэта і духоўная рэчаіснасць таксама. Ён жыве абяцаннямі, якія Езус даў Пятру: «Ты — Пётр скала, і на гэтай скале Я пабудую Касцёл Мой, і брамы пякельныя не перамогуць яго» (Мц 16, 18). Я калісьці сустрэў аднаго бізнесмена, які не ведаў, што я — святар. Ён спытаўся, дзе я працую. Я адказаў, што працую на карысць фірмы, якая дастаткова доўга існуе на рынку. Бізнесмен пачаў пералічваць нейкія назвы, я ж яму на гэта: «Не, я працую ў яшчэ лепшай фірме, мы існуем ужо дзве тысячы гадоў і маем гарантыю, што будзем існаваць да канца свету». Спачатку ён не зразумеў, а праз хвіліну сказаў: «А, у Касцёле!». Гэта анекдот з майго жыцця, але ж Касцёл сапраўды мае гарантыі ад Пана Езуса. Ён перажыў шмат бураў: заняпад Рымскай імперыі, ерасі, Рэфармацыю, часы Борджыя, асветніцкую рэвалюцыю ў Францыі, калючы дрот у Сібіры. І заўсёды выходзіў з гэтага жывым і ўзмоцненым. Гаворка не пра тое, што Касцёл мусіць захавацца ў нейкай жорстка акрэсленай, нязменнай форме. Істотна, што ён будзе трываць, вызнаючы веру ў Адзінага Бога, які, трэба дадаць, аб'яўляецца свету ў Езусе Хрысце. <...>

*— З таго, што Вы, ойча, кажаце, вынікае, што ў нашым жыцці і выбары, які мы робім, справа перадусім у Хрысце. Тады, можа, лепш было б замяніць дэвіз «Па-за Касцёлам няма збаўлення» на «Па-за Хрыстом няма збаўлення»?*

— Можа, гэта прагучыць як ерась, але справа не ў Хрысце, а ў чалавеку. Бог паслаў свайго Сына ў свет не дзеля...

*— ...Уласнай рэкламы?*

— Менавіта так! А дзеля выратавання чалавека. Місія Хрыста — гэта такая ратавальная аперацыя, кажучы словамі Клайва Стэйплза Льюіса, бо шатан уварваўся на тэрыторыю, якая належыць Богу, і Той адваёўвае гэтую тэрыторыю з дапамогаю свайго Сына.

Хрыстус і Касцёл — гэта два непадзельныя арганізмы. Касцёл — цела Хрыста, а асобнымі членамі гэтага цела з'яўляемся мы. Калі б мы адарвалі Хрыста ад Касцёла, Ён паўстаў бы перад намі як Буда, настаўнік прасвятлення, цудоўны філосаф, але не Бог, з'яднаны з чалавекам, салідарны з ім да межаў магчымага.

*— Дзе ж аб'яўляецца гэтая салідарнасць Езуса з чалавекам, як дасягнуць яе ў Касцёле?*

— Я займаюся душпастырствам супольнасці, у якой ёсць людзі, што належаць да розных грамадскіх колаў. Я ведаю іх саміх і ведаю, дзе яны працуюць. Падчас святой Камуніі аднолькавае цела Хрыста і аднолькавую Яго кроў прымае і багаты бізнесмен, і бедны студэнт з Нігерыі. Вось адно вымярэнне салідарнасці Хрыста з намі: Ён абагаўляе нас сваім жыццём. Другое — гэта ўзаемная падтрымка ў Касцёле. Я маю на ўвазе шматлікія справы міласэрнасці, якія чыніць Касцёл. Ён робіць гэта не таму, што мае статус дабрачыннай арганізацыі, а таму, што верыць, што ў гэтых бедных сапраўды прысутнічае Хрыстус. І тут з'яўляюцца перашкоды, бо Езус не абмяжоўвае сваёй прысутнасці толькі да ахрышчаных братоў. Ён прабывае ў кожным чалавеку, нягледзячы на расу, рэлігію, паходжанне. Ён заўжды апярэджвае нас. І менавіта таму — тут я вяртаюся да пачатку нашай размовы — вельмі цяжка дакладна акрэсліць межы Касцёла. Бо што атрымліваецца? Што няма Касцёла сярод праваслаўных, лютэранаў ці евангелістаў?

*— Вы даўно займаецеся хрысціянска-юдэйскім дыялогам. Ці не хацелі б Вы, ойча, каб Вашыя сябры пазналі Хрыста і пераступілі парог бачнага Касцёла?*

— Гэта складанае пытанне. Я сустракаюся з юдэямі не дзеля таго, каб іх навяртаць, хаця, калі яны пытаюцца пра маю веру, я заўжды адказваю словамі каталіцкага *Credo*. Больш істотнае тое, што дзякуючы сябрам юдэям змянілася якасць майго духоўнага жыцця, узмацнілася мая хрысціянская каталіцкая свядомасць. Я заўжды засмучаюся, калі нехта адыходзіць ад Каталіцкага Касцёла і прымае юдаізм, бо я ўпэўнены, што ў маёй веры Бог аб'яўляецца ў паўнаце. З іншага боку, я буду ўзрадаваны, калі які-небудзь юдэй скажа: «Я хачу стаць хрысціянінам». Цікава, людзі, якія пераходзяць з юдаізму ў хрысціянства і наадварот, лічаць, што ўступаюць у клуб людзей, якіх ненавідзіць цэлы свет.

Часам я думаю, што розніца паміж юдэямі і хрысціянамі трошкі падобная да розніцы паміж людзьмі, якія карыстаюцца рознымі аперацыйнымі сістэмамі на камп'ютары: адны — *Windows*, другія — *MacOS*, а патрэбнае ім адное і тое ж. І хрысціяне, і юдэі шукаюць збаўлення, выкарыстоўваючы аднолькавыя метады: здзіўляючыся свету, здзяйсняючы пэўныя ўчынкі, чытаючы Божае слова. Для мяне гэтым таямнічым словам з'яўляецца ўцелаўлёнае Слова — Хрыстус. Хіба, трэба разважаць так: існуе столькі шляхоў да збаўлення, колькі ёсць людзей у свеце. Але я веру — і гэта вера Касцёла — што канчаткова мы ўсе атрымаем збаўленне ў Хрысце.

*Размаўляла Ганна Сасноўская.*

*Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле штомесячніка «W drodze», 10, 2012.*



Айцец Віктар Бурлака OFM

# ЮБІЛЕЙНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ Ў БУДСЛАВЕ

## *Маналог святара*

Перэгрынацыя копіі цудатворнага абраза Маці Божай Будслаўскай трывае з кастрычніка 2012 года, распачаўшыся з мінскай архікатэдры. На сёння яна ўжо адбылася ў частцы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Віцебскай, Пінскай і Гродзенскай дыяцэзіях. Людзі вельмі ахвотна прыходзяць, каб даручыць сваё жыццё Пану Богу праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі падчас перэгрынацыі. У розных парафіях яна праходзіць па-рознаму: напрыклад, у Бабруйску падчас перэгрынацыі ўдзяляўся сакрамэнт хросту, але кожны раз, калі святар прыязджае ў парафію з копіяй цудатворнага абраза, адбываецца святая Імша ў інтэнцыі ўсіх парафіянаў.

Перэгрынацыя абраза, як і іншыя рэлігійныя практыкі, з’яўляюцца, як казаў мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, своеасаблівымі агульнадыяцэзіяльнымі рэкалекцыямі. Гэта час аднаўлення для парафіяў і парафіянаў. Я заўважыў, што, на якім узроўні вядзецца душпастырская праца ў парафіі, такім жа чынам адбываецца пасля і перэгрынацыя, столькі людзей і прыходзіць на яе. Вельмі шмат у парафіі залежыць ад працы душпастыра. Калі душпастырства ідзе належным чынам, людзей не трэба заахвочваць да ўдзелу ў пабожных практыках, яны самі ўсё ведаюць і самі прыходзяць у касцёл. Добрае душпастырства значыць, перш за ўсё, што людзі разумеюць важнасць рэгулярнага карыстання сакрамэнтам святой споведзі і святой Камуніі. Так і павінна быць, але здараецца, што да канфесіянала прыходзяць людзі, якія шмат месяцаў не былі ў споведзі без сур’ёзных прычынаў — проста ў парафіі няма такой магчымасці! Але калі душпастырская праца вядзецца належным чынам, людзей дастаткова проста праінфармаваць аб тым, што будзе адбывацца, напрыклад, перэгрынацыя копіі цудатворнага абраза, і ў вернікаў будзе натуральнае імкненне быць у касцёле і прымаць у ёй удзел.

Перэгрынацыя — гэта такі духоўны «выбух» для краіны, вялікае духоўнае ўзрушэнне. Шмат людзей, асабліва ў Гродзенскай дыяцэзіі, толькі цяпер адкрывае для сябе абраз Маці Божай Будслаўскай. Яны кажуць: «А мы нават і не ведалі, што ў нас у Беларусі ёсць такі абраз». Я лічу, што гэта вялікі духоўны пад’ём, які расплюшчвае вочы людзей на духоўныя багацці Беларусі. Абраз Маці Божай Будслаўскай за свае 400 гадоў у Беларусі быў сведкам і ўдзельнічаў ва ўсіх падзеях, што перажывалі нашыя продкі на гэтых землях. Гэты абраз увабраў у сябе ўсе радасці, усе трывогі і праблемы людзей, якія спакон веку тут жылі і жывуць. Без перабольшвання можна сказаць, што абраз Маці Божай Будслаўскай — сапраўдная святыня Беларусі, бо і перад гэтым абразом людзі маліліся ў часы праследаў і выпрасілі тую рэлігійную свабоду, якую мы маем цяпер, здабыўшы нарэшце духоўнае адраджэнне для краіны.

Езус Хрыстус дае нам збаўленне. Марыя — Маці нашага Збаўцы. Яна — Тая, хто дала нам Збаўцу, і няма іншага шляху, акрамя таго, якім Марыя вядзе нас да Хрыста. Удзел у справе вызвалення чалавека ад злога духа і збаўлення людскіх душаў — місія, пакліканне Найсвяцейшай Панны Марыі. Яна выканала яе, прыняўшы калісьці ў Назарэце словы Божага пасланца, і Яна рэалізуе гэтую місію і цяпер там, дзе мы жывем. І кожны раз, калі мы глянем на гісторыю Касцёла, у аб’яўленнях Дзевы Марыі людзям, ва ўсіх без выключэння, Найсвяцейшая Панна паказвае на Езуса Хрыста і заклікае людзей да на-

вяртання, каб яны прынялі Евангелле Езуса Хрыста. Яна сама стаіць нібы збоку, але накіроўвае тых, да каго звяртаецца, накіроўвае ўсіх людзей да свайго Сына.

Падчас падрыхтоўкі да юбілею абраза была распрацаваная і рэалізаваная трохгадовая праграма духоўнай падрыхтоўкі вернікаў: «Марыя — выбраная дачка Айца Нябеснага», «Марыя — святыня Духа Святога», «Марыя — Маці Збаўцы». У праграме паказана непарыўная сувязь Багародзіцы з трыма Асобамі Найсвяцейшай Тройцы, паказана роля Найсвяцейшай Панны Марыі ў гісторыі нашага збаўлення. І менавіта гэтыя Марыйныя тэмы закраналіся ў канферэнцыях, развагах, пропаведзях падчас падрыхтоўкі да юбілею прабывання цудатворнага абраза на Беларусі, каб яшчэ раз нагадаць нам пра тую ролю, якую Маці Божая выконвае ў нашым жыцці і збаўленні, — Яна вядзе нас да Езуса Хрыста, паказвае нам на Збаўцу. Апроч таго, кожны год падрыхтоўкі быў уключаны ў тэматыку літургічнага году: Году святарства, Году веры... Абраныя марыялагічныя дэвізы былі заўсёды ўплеценыя ў тэматыку кожнага душпастырскага году, які мы перажывалі.



Калі мы кажам пра 400-годдзе прабывання ў Будславе цудадзейнага абраза Маці Божай, у людзей заўсёды ўзнікаюць пытанні пра праявы гэтай цудадзейнасці. Асабіста я перакананы, што калі б Будслаў не быў сапраўды святым месцам, людзі не прыходзілі б сюды ў шматлікіх пілігрымках, не маліліся б перад гэтым абразом. Зразумела, можна прымусіць людзей нешта рабіць і некуды ісці, але сюды ідуць тысячы пілігрымаў, якія добраахвотна ахвяруюць час свайго адпачынку. Напэўна, людзі вельмі добра адчуваюць святасць гэтага месца і таму імкнуцца сюды, да цудатворнага абраза Маці Божай, каб занесці Богу свае малітвы, просьбы, падзякі. Што тычыцца цудаў, я б вызначыў дзве іх катэгорыі. Першая — гэта цуды духоўныя, якія адбываюцца ў сэрцы і душы чалавека, і мы іх не бачым: аздараўленне душы, навяртанне да Бога, ласка прабачэння. Яны невідавочныя, але ёсць шмат выпадкаў, бо людзі пакідаюць у касцёле памяткі пра гэтыя падзеі, воты. І другая катэгорыя — гэта цуды матэрыяльныя, калі так можна сказаць. Цудоўны ўжо сам факт, што касцёл і абраз зберагліся ў савецкія часы, што касцёл захаваў сваю першапачатковую форму і функцыю, не быў знішчаны ў час пераследу, калі мноства святыняў было разбурана, і падчас вайны, і пасля яе. Былі спробы ўзарваць святыню падчас адступлення савецкіх войскаў на пачатку вайны, і тады вернікі абаранілі касцёл. І ў савецкія часы касцёл заставаўся касцёлам, будслаўская святыня не была забраная ў вернікаў ніколі! З 1939-га да 1981 года ў ёй не было святара, аднак ключы ад касцёла былі ў людзей, і святары праездам маглі пакрыёма цэлебраваць святую Імшу і ўдзяляць сакрамэнты. Будслаўскі касцёл не быў выкарыстаны ні як завод, ні як склад. Найсвяцейшая Панна Марыя аберагала сваю святыню. Дзякуючы гэтаму захаваліся і фрэскі, і багатае ўбранне касцёла. Будслаўская святыня ўнесеная ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. Тут захаваліся вельмі каштоўныя фрэскі канца XVIII стагоддзя аўтарства Казіміра Анташэўскага, што можна таксама лічыць адной з праяваў святасці гэтага месца.

Зразумела, веру нельга знішчыць так проста, як будынак, бо яна жыве ў сэрцы чалавека, святыня ж дапамагае вытрываць у веры і развіваць яе, але важна не трапіць у падман, у пастку, думаючы, што муры касцёла даюць нам збаўленне. Касцёл дапамагае, але сапраўдная вера нараджаецца ў сэрцы, і такіх сэрцаў на Беларусі было шмат і ў савецкія часы, і не толькі ў Будславе. Дзякуючы гэтаму, дзякуючы трывалым малітвам вернікаў мы цяпер маем рэлігійную свабоду.

З 2004 года не спыняецца рамонт базылікі. Апошні рамонт адбываўся ў 1929 годзе, яшчэ перад вайною, і з 1981 года, калі ў Будславе пачаў працаваць ксёндз Францішак Грынкевіч, пачаліся працы па аднаўленні святыні. Замененыя вокны, падлога, электраправодка, цалкам завершаны рамонт даху.




Цяпер адбываецца рамонт фасадаў касцёла, умацаванне і гідраізаляцыя фундамента, што вельмі важна і патрэбна. Многае робіцца дзякуючы падтрымцы Мінскага аблвыканкама.

Пасля гэтых надзённых працаў, неабходных для захавання базылікі, можна будзе казаць і пра рэстаўрацыю фрэсак у касцёле, і пра рэстаўрацыю галоўнага алтара святыні. Цудатворны абраз Маці Божай ужо быў рэстаўраваны ў 1991-1992 гадах мінскім мастаком Віктарам Антонавічам Лукашэвічам, аднак галоўны алтар, дзе знаходзіцца абраз, яшчэ чакае рэстаўрацыі. У будслаўскім касцёле захаваліся таксама два званы з часу пабудовы святыні, 1783 года, адзін з іх разбіты, але другі цэлы. Добра было б аднавіць і арганы, якія знаходзяцца ў Будславе з канца XVIII стагоддзя. Старэйшыя людзі памятаюць, што і ў 60-я гады арганы яшчэ гралі, але пазней яны былі разбітыя і сёння таксама патрабуюць аднаўлення і рамонту. Зразумела, што гэта праца не на адзін год.

Дзякуючы падтрымцы Мінскага аблвыканкама сёлета рэстаўрацыя святыні і добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол касцёла ўключаныя ў інвестыцыйную праграму вобласці (выдзеленыя сродкі). Цяпер вядуцца працы ў парку, кладуцца тратуары і асфальт на тэрыторыі каля святыні, будуць зробленыя новыя сходы ў базыліку. Шмат чаго запланавана і робіцца, паглядзім, як з Божай дапамогай гэта атрымаецца.

Я вельмі радуюся слову «юбілей», але не хачу, каб рабіўся вялікі акцэнт на гэтым слове, таму што кожны раз, калі чалавек прыходзіць у святыню і атрымлівае ад Бога тое, чаго просіць (калі на гэта Божая воля), калі дзякуе Богу за атрыманае, — гэта ўжо вельмі вялікае свята. 400 гадоў абраз знаходзіцца ў Будславе, але самае галоўнае тое, што цяпер, як і 400 гадоў таму, людзі маюць магчымасць прыйсці ў гэтую святыню, даручыць сваё жыццё Богу праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай. Адбываецца шмат цудаў, і духоўных, і матэрыяльных, відавочных і ўкрытых у сэрцы чалавека, пра якія мы ніколі не даведаемся, і гэта — самае істотнае. Што да самога святкавання, ёсць пэўныя моманты, якія падкрэсліваюць юбілейны характар сёлетняй урачыстасці. Перш за ўсё, з намі будзе прадстаўнік Папы Рымскага Францішка, кардынал Жан Луі Таран, папскі легат. У гэтым годзе будзе прысутнічаць больш біскупаў, святароў, вернікаў не толькі з Беларусі, а таксама і з-за мяжы, з Польшчы, Украіны, Літвы, Расіі — краінаў, з якімі мы разам выходзілі з савецкага мінулага. У гонар сёлетняй урачыстаці Белпоштай падрыхтавана юбілейная паштовая марка, якая будзе пагашаная ў Будславе, а Нацбанк выпусціў юбілейную манету да 400-годдзя прабывання цудатворнага абраза Маці Божай у Будславе.

Набажэнствы падчас урачыстасцяў будуць адбывацца ў традыцыйным парадку: адбудзецца спецыяльная святая Імша для пілігрымаў увечары; акрамя Нешпараў і Акафіста, які праводзіць Грэка-каталіцкая Царква, будзе звернута ўвага на падрыхтоўку вернікаў да споведзі — рахунак сумлення, каб усе, хто прыходзіць у Будслаў, мелі магчымасць падрыхтавацца да шчырай споведзі і пасля прыняць святую Камунію (некаторыя святары спавядаюць па 9 гадзін без перапынку!).

Я ж сам чакаю ад урачыстасці таго, чаго чакаю кожны дзень, аб чым пастаянна малюся і на што спадзяюся: каб кожны чалавек, які прыходзіць у пошуках свайго шляху да Бога і знаходзіць яго праз абраз Маці Божай Будслаўскай, на гэтым шляху атрымаў патрэбныя яму ласкі, быў умацаваны Богам праз Найсвяцейшую Панну Марыю. Для мяне самы галоўны сэнс урачыстасцяў — і большых, і меншых, — каб чалавек заўсёды прыходзіў да Бога і не толькі прасіў Яго аб нечым у малітве, але і дзякаваў Яму за атрыманыя ласкі. Самыя большыя мае мары і спадзяванні — каб кожны чалавек абавязкова знайшоў дарогу да Бога.



Янусь МАЛЕЦ

## Беражы нас, Заступніца

Па-над Будславам бусел ляціць.
Гэта плаўная велічнасць буслава –
Заклік з вечнасці: з Богам нам жыць,
Шанаваць дух жыцця беларускага.
Пад блакітам задумнага неба,
Над палямі, цяжарнымі хлебам,
Быццам ветразь, касцёл усплывае,
А ў ім — Дзева Марыя Святая.

Ты ратуй, беражы нас, Заступніца,
Не дазволь, не давай абяздушыцца,
Уратуй ад цынізму і хамства,
Ад пагоні за брудным багацтвам,
Ад якога крывёй патыхае
І якое душу забівае.

Беларусь маю, ветлівы край,
Край лясоў і лугоў між азёрамі,
Ты пяшчотай сваёй ахінай
І зямельку лячы нашу хворую.
Хай Чарнобыля чорныя раны
Не азмрочваюць ліпеньскі ранак,
І над будслаўскім радасным фэстам
Нараджаюцца светлыя песні.

Па-над Будславам бусел ляціць.
Гэта плаўная веліч буслiная –
Заклік з вечнасці: з Богам нам жыць,
Ганарыцца сваёю Айчынаю.
Пад блакітам задумнага неба,
Над палямі, цяжарнымі хлебам,
Быццам ветразь, касцёл усплывае,
А ў ім — Дзева Марыя Святая.

Ты ратуй, беражы нас, Заступніца...

Ірына САМАТОЙ

## Роднае

Мая душа — здарожаны вандроўнік
На ўскраечку мінулага стагоддзя,
Дзе ўсё яшчэ ў спакоі і лагодзе —
Шчыруе мама і цвіце бульбоўнік,

Налівы напаўняюцца жывіцай
І падаюць зняможана ў разоры,
Бы высмяглыя жнівеньскія зоры
Шукаюць паратунку у крыніцах.

Над Сэрваччу плыве касцёл у вечнасць
Пад ветразем апекі Маці Божай.
Яе святы абраз у хаце кожнай,
Яе прысутнасць — сціпласць і сардэчнасць.

Аргана гукі — галасы жывыя,
Дзядоў унебаўзятых успамін,
Гармонія стагоддзяў і хвілін,
Адвечнага суладдзя панятыя...

Не пакідай мяне, анёл-ахоўнік,
На ўскраечку забытага стагоддзя,
Дзе тужыць аб палёце і свабодзе
Мая душа, здарожаны вандроўнік.

# Шлях у Будслаў праз пост і малітву

*Будслаў — святое і вельмі роднае месца для кожнага католіка ў Беларусі. Для таго, каб так сталася, нямала сілаў прыклаў пробашч касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. З адраджэннем веры ў Беларусі ў многім дзякуючы кс. Уладзіславу пачаў адраджацца і культ Маці Божай Будслаўскай. Аднавілася правядзенне фэстаў у Будславе, туды паехалі і пайшлі пілігрымкі. Восем гадоў таму ксёндз Уладзіслаў арганізаваў і ўзначаліў пакутную, альбо, як яе яшчэ называюць, посную пілігрымку ў Будслаў. Пяць дзён вернікі ідуць пехатою, спажываючы толькі хлеб і ваду, а большасць — увогуле толькі ваду. Што дае гэтая пілігрымка? Расказвае* ***кс. Уладзіслаў Завальнюк****.*

— Справа пілігрымкі — гэта, перш за ўсё, сведчанне веры тых, хто ў ёй ідзе. Мэта — абудзіць духоўнае жыццё ў Беларусі, каб людзі зразумелі, што нашае існаванне не абмяжоўваецца трыма сцежкамі: дом, праца, гастраном, каб адчулі патрэбу жыць з Богам, адчулі далонь Усемагутнага, якая благаслаўляе, натхняе, аберагае і вядзе да шчаслівай вечнасці.

Перад тым, як вырушыць у пілігрымку, раніцаю цэлебруецца святая Імша ў інтэнцыі нашай краіны і ў інтэнцыі кожнага суайчынніка, веруючага і няверуючага, праведніка і грэшніка. Мы ўсе — Божыя дзеці і, якімі б сцежкамі ні хадзілі, павінны выйсці на тую адзіную, што вядзе да Нябеснага Айца. Пілігрымы гэта добра разумеюць, таму ахвяруюць свае пакуты і пост у гэтых інтэнцыях. Вельмі радуе, што з кожным годам ідзе ўсё больш і больш людзей. У мінулым годзе было ўжо 68 вернікаў, а ў першай пілігрымцы ішло ўсяго толькі 13.

Людзі збіраюцца з усёй нашай краіны, і гэта вельмі важна, бо такім чынам ахопліваецца ўся Беларусь. Калі мы бліжэй знаёмімся, пілігрымы гавораць: «Я іду за свой горад, я — за свой рэгіён, а я ахвяруюся за сваю малую радзіму...» Гэта вельмі кранае. Узрост пілігрымаў ад 16 гадоў да 86-ці! І, што цікава, усе даходзяць. Людзі, якія скаштавалі смак асаблівай ласкі пілігрыма-пакутніка, вельмі яе цэняць. У канцы са здзіўленнем усклікаюць: «Шкада, што так хутка ўсё скончылася!». Потым яны цэлы год жывуць у чаканні наступнай пілігрымкі.

Многія з нас раней ішлі і ў звычайнай пілігрымцы, і мы добра адчуваем розніцу. Там дух, так бы мовіць, вайсковага маршу — адпаведны тэмп, гучныя спевы, воклічы. У нас пераважае цішыня. Ідзём паволі. Адну частку Ружанца з разважаннямі молімся каля дзвюх гадзінаў. У цішыні вучымся слухаць голас Бога, і навакольная прыгажосць гэтаму вельмі спрыяе. Ідзём пераважна па лесапаласе. Водар кветак, чысціня паветра, блакіт нябёсаў, птушыныя спевы... Усё гэта радуе душу, дае супакой і адчуванне сапраўднага шчасця, свабоды.

Першыя гады мы ішлі па асфальце, несучы на сабе ўсе свае рэчы ў цяжкіх заплечніках. Потым вырашылі, што мікрааўтобус будзе давозіць нашыя рэчы да пункту начлегу. Зразумелі і тое, што трэба змяніць маршрут. Наш пілігрым Ганна Дубовік, маці ксяндза Дзмітрыя Дубовіка, распрацавала карту новага шляху (яна па прафесіі картограф). Спачатку гэты маршрут апрабавалі на машынах і роварах, а потым смела пайшлі.



Пілігрымка — гэта не толькі сведчанне веры, а яшчэ і евангелізацыя. Калі мы прыходзім у вёску на начлег, людзі цікавяцца, хто мы і для чаго так далёка ідзём. Усе вельмі здзіўляюцца, што мы ідзём галодныя. Многія задумваюцца і пра свой пост. Разыходзячыся потым па дамах, нашыя пілігрымы дапазна размаўляюць з людзьмі пра веру, пра Бога...

А цяпер — пра тое, з чаго ўсё пачалося. У нашай парафіі склалася традыцыя падчас Вялікага посту перажываць сераду, пятніцу і суботу на хлебе і вадзе. Хтосьці так пасціцца адзін дзень, хтосьці два, а не-



каторыя і тры. Каля алтара стаіць асвечаная вада, людзі бяруць яе, атрымліваючы благаслаўленне на такі пост. Спачатку было ўсяго тры-чатыры тысячы чалавек, а цяпер даходзіць і да сямі тысячаў тых, хто хоць адзін дзень на тыдзень посціцца на хлебе і вадзе. І я падумаў, а чаму б нам і ў пілігрымцы да Будслава не пасціцца вось так. У пілігрымцы па Святой Зямлі я трываў у шчырым посце 9 дзён! Выпадковых людзей у гэтай справе няма. Да пакутнай пілігрымкі трэба рыхтавацца і духоўна, і фізічна.

Выношваю ідэю зрабіць яшчэ адну пілігрымку ў Будслаў, якая б спажывала толькі свежавыціснутыя сокі. Гэта для тых, хто не падрыхтаваны ісці толькі на вадзе альбо на хлебе і вадзе. Аднак пакуль што дактары не дазваляюць гэтага рабіць.

Хачу запрасіць усіх вернікаў далучацца да нашай пілігрымкі.

Дарэчы, 5 чэрвеня, на дні святарскай сустрэчы, наш арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч сказаў: «Аб'яўляйце вернікам, каб загадзя запісваліся ў пешую пілігрымку ў мінскай катэдры, бо кухня там можа абслугоўваць не больш за 400 чалавек. Тыя, хто спозняцца, няхай ідуць у галодную пілігрымку з ксяндзом Уладзіславам Завальнюком». Так што чакаем! Да сустрэчы!

*Запісала Галіна КАЛЕВІЧ.*



# ЗАМАЛЁЎКІ З ПОСНАЙ ПІЛІГРЫМКІ

*З Чырвонага касцёла г. Мінска ўжо сем гадоў запар адпраўляюцца вернікі ў пілігрымку да Маці Божай Будслаўскай.*

*Для таго, каб ісці некалькі дзясяткаў кіламетраў у дзень, патрэбны смеласць і ўпэўненасць у сваіх сілах. І цікавасць — а я здолею? А яшчэ трэба мець вялікае жаданне змяніць звыклы бег штодзённых зямных справаў на нейкае новае, сваё, асабістае перажыванне. Як бы пасля звычайнага руху й хады палезці на стромкую драбіну. Але яшчэ большая смеласць і рашучасць — згадзіцца на працягу ўсёй пілігрымкі ўжываць толькі ваду. О, які тады выключны смак у гэтае вады! Здаецца, проста вясковая студня, а для нас — жыццядайнасць і магчымасць доўгачаканага адпачынку.*

**Начная малітва**

Далікатная постаць гэтай дзяўчыны ўразіла мяне яшчэ ў мінулай пілігрымцы. Было ў ёй нешта моцнае і адначасова хвалявітае, што праглядала падчас хады. Ды яшчэ ў руках Таццяна, так звалі тое дзяўчо, амаль заўсёды трымала то фотаапарат, то нават і кінакамеру. А каб выбраць лепшы ракурс, зрабіць



якасны здымак, трэба альбо забегчы наперад групы, альбо паспецыь зайсці недзе збоку. І гэта ёй удавалася, адкуль толькі сіла бралася (ды ведама, адкуль – з Неба!).

Пазалетась, падчас маёй першай пілігрымкі ў Будслаў, мы з ёй начавалі ў вёсцы Стайкі ў хаце Сакалоўскіх. А праз год, 4 ліпеня 2012 года, мы зноў вечарам дайшлі да гэтай вёскі, і пры размяркоўванні, дзе хто будзе начаваць, мы з Таццянай не турбаваліся — пойдзем да нашых гаспадароў. Але чакалі, што скажуць кіраўнікі. І калі многія ўжо разышліся адпачываць, нам сказалі, каб дзесяць чалавек ішлі ў хату з жоўтымі веснічкамі.

Гэта была дагледжаная, пафарбаваная хата Сакалоўскіх. Стары бацька памёр, дзеці з горада не прыехалі, таму гасцінная гаспадыня запрасіла так многа падарожных. Пакояў многа, усе размеркаваліся. У падрыхтаванай лазні вады гарачай хапіла таксама ўсім. Нас ужо не так настойліва запрашалі за стол, бо ведалі пра нашы звычкі.

Моладзь мае больш сілы, і дзяўчаткі доўга яшчэ гаманілі, а я ў суседнім пакоі ўладкавалася адпачываць. Апоўначы падхапілася, агледзелася, прыслухалася: ва ўсіх пакоях было ціха, але з-пад дзвярэй прабівалася святло. Ціхенька прайшла туды. У гэтым пакоі ўсе спалі, Таццяна таксама спала, але седзячы за сталом, — галоўка падпертая рукой з ружанцам у далоні, вусны раскрытыя, як бы ў яе ідзе размова з Небам. Стомленае цела знерухомела ў сне, а малітва адляцела ў неба...

**Патрэбная думка, альбо святаяннік**

Мы йшлі далей... Па маіх назіраннях, другі дзень пілігрымкі самы цяжкі, бо вялікая стомленасць першага дня за летнюю ноч не сыходзіць.

Нашы кароткія адпачынкі заўсёды ладзіліся ў вельмі прыгожых мясцінках. На гэты раз маляўнічая палянка вабіла вока жоўтацвеццем святаянніку. І хто не паленаваўся, у каго былі яшчэ сілы рухацца, сабралі прыгожыя сонечныя букецікі. Па камандзе: «Пад'ём!» усе рушылі зноў у далейшы шлях. Сонца ўжо пачало пячы, стомленасць нарастала.

Калі ідзеш доўга, пачынаеш глядзець часцей пад ногі. Побач убачыла ў руцэ маладой дзяўчыны, якая ішла перада мною, пук гэтай лекавай травы. Якраз той дзяўчыны, якая ноччу заснула за сталом з малітваю на вуснах, падняўшы галоўку ўгару, як птушаня, калі яно прагне ежы.

У мяне ёсць у запасе пакет, паціху на хаду дастаю яго. Пакуль выцягвала той пакет, крыху затрымалася і апынулася збоку групы, каб не замінаць нікому ў хадзе. З пакетам у руцэ азіраюся з жаданнем знайсці гэту дзяўчыну, але пазіраю толькі на рукі. Заўважаю ў руцэ святаяннік. Зрабіўшы крок, прапаную пакет, а пілігрым – са здзіўленнем бачу, што гэта зусім іншая жанчына, здзіўлена-радасна на мяне глядзіць і гаворыць, што ў яе якраз цяпер і з'явілася думка: «Вось бы пакет для святаянніку знайсці!». А тут адразу яго прапаноўваюць. Выдатная матэрыялізацыя думкі!

Далей мы пайшлі побач, і Алена, так звалі гэту жанчыну, распавяла, што ўчора ў яе таксама адбылося нешта падобнае. У яе ў заплечніку была даволі тоўстая кніжка, як ні як — вага, што пры хадзе становіцца адчувальнай. І калі з'явілася думка — жаданне пазбавіцца ад гэтага груза, падыходзіць кс. пробашч Уладзіслаў і пытаецца, ці ёсць у яе гэта кніжка.

Ісці далей становіцца лёгка і радасна. Калі мы ўважлівыя да сябе і да іншых, радасць не міне нас.

**Вада пані Тэрэзы**

Вёска Крупнікі стаіць крыху воддаль ад нашага шляху. Студня таксама далекавата. Але ў гэтай вёсцы жыве жанчына, якая ўжо некалькі гадоў выносіць вядро вады, каб напаіць пілігрымаў.

Вось што яна нам распавяла:

— Летась вынесла ваду. Падыходзіць група пілігрымаў. Моладзь ад радасці пачынае каля вады танцаваць. А я ім сурова кажу: «Я хацела ад вас малітвы, а вы мне танцуеце». І выліла тую ваду.

Жанчына падалася мне вельмі суровай, але разам з тым у ёй праглядалася глыбока схаваная дабрыня.



Ядвіга Рай падчас пілігрымкі.

Потым я дапытвала сваіх паплечнікаў, што яны думаюць наконт гэтага. І мы прыйшлі да высновы, што не маем права асуджаць нікога. У кожнага сваё перажыванне.

**Анёл на дарозе**

Ідзем ужо трэці дзень. Змарыліся. У такім стане пачынаеш больш углядацца пад ногі, каб не спатыкацца. Пад нагамі грунтавая дарога. Каля самай дарогі, нават на яе, прабіваюцца расліны. А ў сярэдзіне лета многія цвітуць. Крышачку воддаль цвітуць васількі ды рамонкі.

Гляджу пад ногі. Заўважаю, як нага дзяўчыны, якая ідзе перада мною, наступае на цікаўны васілёк, што вылез проста на дарогу. Але праз імгненне, калі пілігрым робіць наступны крок, кветка раптам распрамілася, выпрасталася і ківае сваёй галоўкай, як бы махае ўслед.

Уражанне незвычайнае: ці то расліна такая моцная, ці то дзяўчына ідзе, нібы анёл, нічога не парушаючы.

Дагнала потым дзяўчо, спытала, як завуць. У адказ: «Таццяна». Вось такія ў нас пілігрымы.

**Пчолы**

Ідзем ужо не першы дзень. Кожную хвіліначку перад намі адкрываецца нешта новае. Не бывае на нашым шляху аднолькавых даляглядаў. Палявыя і лясныя дарогі рэдка бываюць прамымі.

Вось і на гэты раз, калі мы толькі пачалі выходзіць з лесу, у вочы нечакана кінулася жаўцізна неабсяжнага поля. Здзіўляемся і радуемся сонечнаму колеру, адчуваем новыя пахі, а слых ловіць нейкі роўны новы гук.

У нашай групе больш за 50 чалавек, мы расцягнуліся на даволі вялікай адлегласці. Мне падабаецца ісці ў ліку першых, здаецца, што так лягчэй. Непадалёку ад мяне ішоў кс. пробашч Уладзіслаў. Ён высокага росту. Раптам чую ягоны заклапочаны ўсклік: «Ого!». Углядаемся: наперадзе, недалёка ўжо ад нас, проста на дарозе стаяць два трактарных прычэпы, на якіх роўненькімі радамі адзін на адным пастаўлены вуллі. Ужо добра было чуваць многагалоссе працавітых пчолаў.

Наш кіраўнік сказаў, што разумны ў гару не пойдзе, ён яе абыдзе, і павёў групу ў абход. А мне не хацелася вяртацца, ды яшчэ з'явілася жаданне праверыць сябе, «дамовіцца» з пчоламі. Так і сказала Раі, з якой ужо добра пазнаёмілася. І я пайшла далей, не зварочваючы з дарогі. Злева — неабсяжнае поле квітнеючага рапсу, справа, побач — можа сотня вулляў. Ішла спакойна. Не рабіла рэзкіх рухаў, малілася. Пад нагамі ўбачыла мноства пчолаў, якія з невядомай прычыны згубілі сваю знакамітую працаздольнасць. Надта ж многа іх ляжала пад нагамі, некаторыя яшчэ варушыліся, як бы хацелі зноў узляцець і працаваць. Мне стала іх шкада. Раблю наступны крок, і ў гэты момант на шыі адчуваю пчолку. Змахваю яе рукой, думаю, у чым справа, чаму яна мяне ўкусіла? Вуллі засталіся ззаду.

Як толькі падышла ўся група, падала Раі сцяблінку, каб яна дастала з майго вуха макулінку серы ды змазала тое месца, дзе ўкусіла пчала. Спадарожніца са здзіўленнем выканала маю просьбу. Яна не ведала гэтага спосабу лячэння. Напружанне на шыі знікла, болю не было. Гэта самы выдатны сродак, які заўсёды з намі.

По дарозе настойліва думала, чаму мяне ўкусіла пчала. І зразумела, што не шкадаваць трэба было, а проста любіць. Калі толькі шкадаванне — яно прыніжае іншую істоту, няхай нават і пчалу. А любоў — яна ўзвышае, дадае сілы...

*Ядвіга Рай.*
*Фота Алы Невяровіч.*



# Карл Брулоў. АПОШНІ ДЗЕНЬ ПАМПЕІ



Карціна Карла Брулова пра лакальную катастрофу ў гісторыі старажытнага свету — адзін з агульнавядомых і вельмі папулярных твораў рускага жывапісу. Калі б са спадчыны мастака не засталося больш нічога, ягонае імя ўсё роўна вечна жыло б у гісторыі мастацтва. Каласальнае палатно хвалюе ўжо многія пакаленні людзей, якім, здавалася б, не трэба каментаваць сюжэт і рабіць падрабязны фармальна-вобразны аналіз твора. Яго мова настолькі ясная, а драма настолькі агульначалавечая, што прачытанне жывапісу для многіх не ўяўляе складанасці. Але тым не менш людзі кожнага гістарычнага часу адкрываюць у карціне вялікага мастака нешта новае. Гэта азначае, што твор працягвае жыць, быць актуальным і патрэбным людзям.

Карл Брулоў (1799–1852) нарадзіўся ў Санкт-Пецярбургу ў сям'і акадэміка Імператарскай Акадэміі мастацтваў Паўла Бруло, скульптара і гравёра французскага паходжання. З ранняга ўзросту ён фармаваўся ў атмасферы Акадэміі, ужо ў 1809 г. пачаў рэгулярныя заняткі малюнкам і жывапісам, да 1821 г. навучаўся пад кіраўніцтвам выдатнага майстра класіцызму Андрэя Іванава. Адзін з лепшых студэнтаў свайго пакалення, Карл Брулоў атрымаў залаты медаль і быў накіраваны ў Італію, дзе распачаўся плённы перыяд яго творчасці. Мастак працаваў над малюнкамі і палотнамі, падарожнічаў па Еўропе.

У 1836 г., пасля падарожжа па Грэцыі і Турцыі, мастак вяртаецца ў Расею. Мяркуецца, што вяртанне Брулова было звязана з шумным поспехам яго карціны «Апошні дзень Пампеі» ў Італіі і Францыі. Палатно было выстаўлена ў Луўры, і да яго імкнуліся натоўпы. У Пецярбургу карціну і аўтара чакаў трыумф. Паэты прысвячалі палатну вершы, у хуткім часе яно было падоранае Мікалаю I (які пазней падарыў яго Акадэміі мастацтваў). Мастака прымалі і завязвалі з ім сяброўства выдатнейшыя людзі тае пары: А. Пушкін, В. Жукоўскі, І. Крылоў. Да 1849 г. Карл Брулоў прафесарствуе ў пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, малюе шмат партрэтаў, удзельнічае ў размалёўцы Ісаакіеўскага сабора. Але ў халодным горадзе ў яго абвастраецца хвароба (залатуха). Ён назаўжды пакідае Расію — выязджае лекавацца на востраў Мадэйру, потым пераязджае ў любімую Італію, дзе памірае ў мястэчку Манцыяна пад Рымам.

Малады мастак зацікавіўся гісторыяй гібелі Пампеі ў 1828 годзе. Ён паехаў туды з Рыма разам з многімі іншымі цікаўнымі людзьмі, якія даведаліся, што зноў задыміў Везувій. Але тэма Пампеяў жыла ў свядомасці еўрапейцаў ужо амаль 70 гадоў, з часу выпадковага адкрыцця антычнага горада (менавіта горада, а не яго руінаў), пахаванага пад тоўстым слоем лавы і попелу. Пампейскія фрэскі, сам вобраз горада — равесніка Рымскай імперыі — сталі прычынай новага прыліву захаплення антычнасцю ў еўрапейскай культуры. Гэтым захапленнем жывіліся класіцызм і ампір.

Пецярбургскі мастацтвазнаўца Аляксей Савінаў (некаторы час ён працаваў у Мастацкім музеі Беларусі ў Мінску) так напісаў пра шэдэўр Карла Брулова: «Захапляльнасць аповеду, разнастайнасць характарыстык, пластычная прыгажосць формаў, багатыя па сілуэтах групоўкі фігураў, іх кампазіцыйнае адзінства надаюць карціне выразнасць і мастацкую сілу. Традыцыі строгага, звернутага да антычнасці класіцызму Брулоў спалучаў з новымі тэндэнцыямі рамантычнага жывапісу, з пачуццём сапраўднасці падзеі, увасобіўшы ў ясным па пабудове палатне ідэю гібелі антычнага свету»[1].

Матывам для карціны паслужыла трагедыя горада, разме-

шчанага непадалёк ад Неапаля, які загінуў у выніку вывяржэння Везувія ў 79 г.н.э. Хаця «загінуў» — гэта не зусім адпаведнае слова. Воляй лёсу Пампеі захаваліся ў сваім першасным выглядзе, у той час як антычныя парэшткі Неапаля глыбока загнаныя ў культурны слой. Наш любімы прафесар Абрам Кагановіч (нараджэнец беларускага Рагачова) жыва перадаў нам свае ўражанні з месца падзеяў: «Я стаў на тым месцы, дзе стаяў Карл Брулоў, і зразумеў, што задума карціны проста не магла не нарадзіцца ў яго свядомасці. Людзі кінуліся ў браму на левым баку вуліцы, але пачалася паніка, бо ад удару землятрусу мармуровая канструкцыя здрыганулася... Аднак брама ўстаяла, яна стаіць і цяпер». Праз дзесяцігоддзі я таксама стаў пасярод гэтай вуліцы і бачыў далёка на фоне грамадзіну Везувія. Сапраўды, Карл Брулоў стварыў несмяротны помнік старажытнаму гораду і яго жыхарам.

На першым плане кампазіцыі мастак разгарнуў цэлую галерэю вобразаў, якія ўражваюць сваёй чалавечнасцю і драматызмам. Юнак трымае ў руках сваю загінуўшую каханую. Маці просіць сына пакінуць яе і ратавацца самому. Афіцэр легіёнаў у жалезным шлеме нясе на руках пажылога бацьку, які са страхам засланяецца рукой ад бязлітаснай стыхіі. У левай частцы палатна гэтая галерэя працягваецца ў кампактнай групе маладой сям'і з дзіцем, што накрываецца ад гарачага попелу адной драпіроўкай, і ў самым левым ніжнім куце кампазіцыі напалоханыя маці і дзеці, якія моцна абняліся ў жаху. Роўна пасярэдзіне кампазіцыя расколатая напалам. У гэты правал нясуцца насустрач смерці ашалелыя коні, павозка перакульваецца, і чалавек падае. Гэтая група — самая аддаленая на першым плане карціны. А пачынаецца кампазіцыйны разлом фігурай маладой маці, якая бездыханная ляжыць на бруку і не чуе плачу свайго дзіцяці. Мастак доўга працаваў над гэтым ключавым фрагментам кампазіцыі. Ён пайшоў на дысторцыю выявы (але мы ніяк не заўважаем гэтага!). Калі б жанчына ажыла і ўстала, то яе трохметровая постаць гігантычна перавышала б усе іншыя фігуры. А. Кагановіч распавёў нам, як Карл Брулоў вельмі доўга, ад эскіза да эскіза, не мог знайсці канчатковае рашэнне карціны. Шматфігурная кампазіцыя не трымалася разам. І вось у наступным эскізе ён даў рэзкае, яркае асвятленне на цэнтральную частку. Усё адразу злучылася ў адно цэлае. Гэта было геніяльнае рашэнне, якое завяршыла агульны вобраз.

Сярод ахопленых страхам людзей каля брамы Брулоў змясціў і свой аўтапартрэт — малады чалавек з трывогаю, але і цікаўнасцю ўглядаецца ў вогненную зеўру вулкана, трымаючы на галаве скрынку з мастакоўскімі прыладамі. Імкнецца да гэтай групы людзей і ахутаны белай тогай, напалоханы служка паганскага культу з сваімі рытуальнымі бразготкамі пад пахаю.

І толькі адзін чалавек не ведае страху пасярод катастрофы. У левым ніжнім куце кампазіцыі мы бачым пажылога, але моцнага мужчыну з паходняй у правай руцэ (левай ён сціскае прадметы рэлігійнага рытуалу). Яго фігура вырываецца з цемры, прымаючы на сябе некалькі яркіх блікаў святла з цэнтра кампазіцыі. Чырвоная мантыя, у якую ён ахутаны, гучыць водгукам полымя вулкана. На яго шыі ўсплеск святла кантрасна выдзяляе сілуэт крыжа. Гэта святар пампейскай хрысціянскай супольнасці. Ён — з пакалення першых апостальскіх вучняў і прыняў паходню веры з рук святых Пятра і Паўла; ён слухаў іх казанні. Хрысціяніна не палохае дзікая стыхія, ён бачыць у ёй Божы гнеў, пагібель старога свету і пачатак новай эры.

Археолагі былі здзіўленыя тым, што́ яны знайшлі ў Пампеях, горадзе раскошных вілаў рымскай арыстакратыі, дзе эліты адпачывалі і аддаваліся розным радасцям. Аказалася, што горад быў поўны прытонаў і публічных дамоў, сцены якіх размаляваны сцэнамі распусты. Па колькасці гэтых установаў «на душу насельніцтва» Пампеі супернічаюць з Вавілонам — біблейскім сімвалам граху. У мясцовым амфітэатры (ён захаваўся амаль некрануты часам) рымляне з задавальненнем назіралі за гладыятарскімі баямі і расправамі над хрысціянскімі сем'ямі. Раскоша імперыі грунтавалася на цяжкай працы паняволеных народаў і мільёнаў бяспраўных рабоў.

«Куміры падаюць...» — напісаў у вершы, прысвечаным карціне Карла Брулова, Аляксандр Пушкін. Валяцца мармуровыя статуі, ламаюцца калоны порцікаў, разбураюцца знакі пыхі і паганства. Вогненная лава імкнецца па адхонах вулкана, разрывае змрочную цемру і, здаецца, гатовая выпаліць усю зямлю ад краю да краю. Але паслядоўнікі Хрыста ведаюць: Бог не пакінуў чалавецтва, Ён вядзе людзей да праўды і збаўлення.

*Валеры Буйвал*

[1] История русского искусства. Под ред. В.И. Плотникова. — Москва, 1980. — С. 95.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Мікола Гракаў



# ЯК У РЫМЕ З'ЯВІЛАСЯ ХРЫСЦІЯНСТВА

У Год веры, які працягвае перажываць Каталіцкі Касцёл, позіркі і сэрцы ўсіх вернікаў скіраваныя на антычны і заўсёды малады Рым — Вечны горад, дзе і сёння, літаральна на нашых вачах, пішацца новая старонка вялікай хрысціянскай гісторыі, што вызначыць далейшы лёс Касцёла ва ўсім свеце. Усё змяняецца пад небам, і толькі Рым, як і два тысячагоддзі таму, з'яўляецца горадам Папы, бачнага кіраўніка паўсюднага Касцёла. Але якім чынам гэтай даўняй паганскай сталіцы, дзе на арэнах дзеля пацехі забівалі тысячы людзей, дзе амаль тры сотні гадоў сурова пераследавалі паслядоўнікаў «шкоднага забабону» — вучэння Езуса Хрыста, дзе было закатавана мноства хрысціянскіх мучанікаў, сярод якіх апосталы Пётр і Павел, наканавана было назаўжды стаць сусветным цэнтрам хрысціянства?

Вядома, што касцёльная традыцыя лічыць заснавальнікамі хрысціянскай супольнасці ў Вечным горадзе менавіта святых Пятра і Паўла. Як жа Добрая Навіна дасягнула Рыма — сталіцы самай вялізнай і магутнай імперыі старажытнага свету? На падставе новазапаветных тэкстаў Святога Пісання і гістарычных дадзеных мы паспрабуем прасачыць пачаткі з'яўлення хрысціянскай веры ў Рыме.

Гістарычна пацверджаны факт, што Рым быў адным з першых гарадоў, дзе з'явілася хрысціянства. Сталіца імперыі пачула імя Хрыста значна раней, чым Евангелле было абвешчана ва ўсіх прамежкавых краінах, падобна да таго, як вяршыня найвышэйшай гары асветлена ўжо ў той час, калі даліны, што ляжаць паміж ёю і ўзыходзячым сонцам, усё яшчэ ахінутыя цемраю.

Хрысціяне былі ў Рыме яшчэ да таго, як туды прыбылі апосталы Пётр і Павел. Фактычны заснавальнік (або заснавальнікі) першай рымскай хрысціянскай супольнасці засталіся невядомымі. Калі б ім быў апостал Павел, ён не мог бы не згадаць пра гэта (пар. *Рым* 1, 6.7; 16, 17). Сапраўды, супольнасць у Рыме ўжо існавала да прыбыцця туды Апоста-

---

**Мікола Гракаў** — клерык Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя Т. Аквінскага ў Пінску. Закончыў Мінскі інстытут замежных моваў. Перакладае з французскай, італьянскай і польскай моваў.

ла язычнікаў і, па ўсёй верагоднасці, складалася з габрэяў і празелітаў, якія прынялі веру[1]. Гэтая супольнасць не была наўпрост заснаваная і апосталам Пятром, хоць менавіта ён першы абвяшчае Хрыста юдэям, якія прыбылі ў Ерузалем на свята з Рыма, а таму толькі ўскосна можа лічыцца яе заснавальнікам (пар. *Дз* 2, 10–14).

У грэцкім рамане *Recognitiones*, або па-грэцку «Гаміліі», напісаным у II або III стагоддзі, аўтарства якога калісьці прыпісвалася святому Клімэнту (адсюль найбольш распаўсюджаная назва — «Клімэнціны»), гаворыцца пра тое, што Касцёл у Італіі быў заснаваны святым Барнабам, але гэтаму сцвярджэнню не надаецца ніякага гістарычнага значэння[2].

Як лічыць вядомы расейскі праваслаўны бібліст Міхаіл Эмануілавіч Пасноў, рымскія габрэі і празеліты, якія паверылі ў дзень Пяцідзясятніцы дзякуючы пропаведзі апостала Пятра (*Дз* 2, 10, пар. таксама 36–42), не маглі ў хуткім часе абвяшчаць Добрую Навіну ў Рыме. Бо яны, на думку даследчыка (якую ён, на жаль, ніяк не абгрунтоўвае), былі не проста цікаўнымі наведвальнікамі святыні, а людзьмі, якія затрымаліся ў Ерузалеме і склалі асяродак першапачатковага ерузалемскага Касцёла. Разам з тым, як зазначае сам М. Э. Пасноў, са зместу Паслання да Рымлянаў зусім не вынікае, што рымская супольнасць складалася з securely навернутых. Наадварот, словы Апостала: «Цяпер бліжэй да нас дзень збаўлення, чым тады, калі мы паверылі» (пар. *Рым* 13, 11), даюць падставу меркаваць, што прынамсі ядро гэтай супольнасці складалі тыя, хто паверыў у Хрыста адначасова з самім Паўлам, а менавіта ў 30-я гады. Аднак, калі ўлічыць жывыя кантакты, якія існавалі паміж рымскім габрэйствам і Палестынаю, няма нічога неверагоднага ў тым, што таксама без дзейснага ўдзелу пакліканых місіянераў у Рыме, падобна да таго, як раней у Антыёхіі, праз юдэа-хрысціянаў, якія перасяліліся туды з Палестыны (*Дз* 11, 20; 13,1; *Рым* 16, 13; *Мк* 15, 21), хрысціянская вера знайшла ў тамтэйшым юдэйстве сваю першапачатковую глебу, не выключаючы потым празелітаў і паганцаў[3].

Такой самай думкі прытрымліваецца і вядомы французскі пісьменнік і бібліст Жазэф Эрнэст Рэнан[4]. У сваёй кнізе, прысвечанай святому Паўлу, ён піша, што распаўсюджванне хрысціянства далёка не заўсёды адбывалася шляхам паслядоўнага абвяшчэння і праз прапаведнікаў, падобных да сённяшніх місіянераў, якія спецыяльна дзеля гэтага хадзілі з горада ў горад. Толькі Павел, Барнаба і іх паплечнікі часам рабілі так, а ўсё астатняе — справа працаўнікоў на ніве Панскай, імёны якіх засталіся нам невядомымі. Акрамя тых апосталаў, якія сталі славутымі, было і іншае, пакрыёмае апостальства, дзеячы якога не былі прафесійнымі веравучыцелямі, але якое пры гэтым было не менш плённым[5].

«Габрэі ў тыя часы былі вельмі схільнымі да падарожнага ладу жыцця. Гандляры, найміты, дробныя рамеснікі, усе яны вандравалі па вялікіх гарадах узбярэжжа, займаючыся сваімі прафесіямі. Актыўныя, працавітыя, сумленныя, яны неслі з сабою свае перакананні, добрыя прыклады, самаадданасць і валадарылі над насельніцтвам, якое адчувала сябе ў параўнанні з імі прыніжаным у сэнсе рэлігіі, як заўсёды адчувае сябе абыякавы натоўп у прысутнасці энтузіяста. Адэпты хрысціянскай секты падарожнічалі падобна астатнім габрэям і неслі з сабою Добрую Навіну. Гэта было своеасаблівае прыватнае прапаведніцтва, значна больш пераканаўчае, чым усялякае іншае. Лагоднасць, весялосць, добры настрой, цярплівасць прыхільнікаў новай веры забяспечвалі ім паўсюль гасцінны прыём і прыцягвалі да іх сэрцы. (...) Зычлівасць да ўсіх, радасць спачынку са справядлівымі, дапамога бедным, чысціня звычаяў, прыемнасць сямейнага жыцця, пакорнае прыняцце смерці, што лічылася сном, — вось пачуцці, якія выказваюцца ў габрэйскіх надпісах з тым асаблівым адценнем замілавання, рахманасці, непахіснай надзеі, якой вызначаюцца хрысціянскія эпітафіі»[6].

Рым сапраўды быў месцам сцячэння ўсіх усходніх культаў, пунктам Міжземнамор’я, з якім у Сірыі (маецца на ўвазе рымская правінцыя з такою назваю, часткаю якой з’яўлялася ў тыя часы таксама і Палестына) былі найбольш ажыўленыя зносіны. Сірыйцы прыбывалі сюды вялізнымі натоўпамі. Разам з імі з’яўлялася ў Рыме мноства грэкаў, азіятаў, егіпцянаў, якія ўсе размаўлялі па-грэцку. Рым у літаральным сэнсе быў двухмоўным горадам. Моваю габрэйскага і хрысціянскага свету ў Рыме на працягу трох стагоддзяў была грэка. Грэцкая мова была тут моваю ўсеагульнаю, моваю добрых і злых, ніжэйшых і вышэйшых слаёў насельніцтва. Рытары, граматыкі, філосафы, славутыя настаўнікі, слугі, махляры, артысты, рамеснікі, прапаведнікі, рэлігійныя дзеячы — усе размаўлялі па-грэцку. Старадаўняе рымскае грамадства ўсё больш паглыналася гэтым наплывам чужынцаў. Цалкам верагодна, што яшчэ ў 50-я гады нейкія сірыйскія габрэі, ужо навернутыя ў хрысціянства, прыбылі ў сталіцу імперыі і занеслі сюды Добрую Навіну пра Хрыста[7].

У апостальскія часы ў Рыме

жыло, як мяркуецца, каля 20–30 тысяч габрэяў, а агульная колькасць насельніцтва перавышала мільён чалавек. Габрэі мелі ўласны квартал, дзе было сем сінагогаў. Некаторыя з іх былі старызнікамі, іншыя — лекарамі і банкірамі, некаторыя нават мелі доступ у палац, але наогул усе яны былі прадметам кпінаў з боку рымскіх пісьменнікаў[8]. Так, захаванне шабату і габрэйскіх святаў з'яўляецца ў Гарацыя прыкметаю чалавека прыдуркаватага, аднаго з натоўпу — *unus multorum*[9].

Вельмі маляўніча апісвае жыццё габрэйскага кварталу тагачаснага Рыма Эрнэст Рэнан. Квартал гэты пераважна знаходзіўся за Тыбрам, у самай беднай і бруднай частцы горада, верагодна, непадалёк ад Партовай брамы (*porta Portese*). Там знаходзіўся рымскі порт: тое месца, куды дастаўляліся тавары, што везлі з Остыі на барках. Гэта быў квартал габрэяў і сірыйцаў — «народаў, народжаных для рабства», па словах Цыцэрона[10].

Першапачатковае ядро габрэйскага насельніцтва ў Рыме насамрэч склалі вольнаадпушчаныя, пераважна нашчадкі тых, каго прывёў сюды ў якасці палонных Пампей пасля захопу Ерузалема ў 63 г. да Н.Х.[11] Аднак няволя ніякім чынам не паўплывала на іх рэлігійныя перакананні і звычаі. У юдаізме выклікае здзіўленне тая прастата веры, дзякуючы якой габрэі, нават перанесеныя за тысячы міляў ад сваёй радзімы, і праз некалькі пакаленняў застаюцца добрымі юдэямі. Адносіны рымскіх сінагогаў з Ерузалемам ніколі не спыняліся, і першапачатковая калонія атрымала падмацаванне ў асобе шматлікіх перасяленцаў. Гэтыя небаракі сотнямі прыбывалі ў рымскі раён Рыпа, жылі разам у кварталах па суседстве з Затыбрыем і былі насільшчыкамі, займаліся дробным гандлем, абменам запалак на бітае шкло або проста жабравалі. Рымлянін, які сябе паважаў, ані нагою не ступаў на гэтыя агідныя ўскраіны. Гэта было штосьці накшталт прадмесця, аддадзенага пагарджаным слаям насельніцтва, якое займалася непрывабнымі рамёствамі: тут былі дубільні і гарбарні, майстэрні канатаў з кішок і тачыльні. Небаракі жылі дастаткова спакойна ў гэтым непрыкметным закутку, сярод цюкоў з таварамі, корчмаў ніжэйшага гатунку і пераносчыкаў насілак (*Syri*), якія мелі тут сваю галоўную «рэзідэнцыю». Паліцыя з'яўлялася тут толькі тады, калі сутычкі станавіліся крывавымі і паўтараліся занадта часта. Няшмат было ў Рыме такіх вольных кварталаў, дзе анікому не было справы да палітыкі. Звычайна не толькі культавыя практыкі не сустракалі тут аніякіх перашкодаў, але можна было свабодна весці нават любую прапаганду.

Пад покрывам пагарды, якую яны выклікалі, не звяртаючы пры гэтым зашмат увагі на кпіны свецкіх людзей, габрэі Затыбрыя вялі такім чынам вельмі насычанае рэлігійнае і грамадскае жыццё. У іх былі школы *хакамім*, прычым нідзе абрадавы, фармальны бок Закона не захоўваўся настолькі старанна, як тут. Сінагогі мелі найбольш поўную арганізацыю, якая толькі вядомая, а тытулы «айца або маці сінагогі» былі вельмі ганаровымі. Багатыя празеліткі прымалі біблейскія імёны і разам з сабою навярталі ў юдаізм сваіх рабоў, наймаючы вучоных, каб тлумачылі ім Пісанне. Яны будавалі малітоўныя дамы і вельмі ганарыліся сваёю значнасцю, якую набывалі такім чынам у гэтым маленькім свеціку. Жабрачка-габрэйка, просячы дрыжачым голасам міласціны, ухітралася шапнуць на вуха вялікасвецкай рымскай даме некалькі словаў з Закона і часта дакарала матрону, якая працягвала ёй руку з дробнымі манетамі.

Былі, што праўда, габрэі і ў вялікім свеце, багатыя і ўплывовыя, такія, як, напрыклад, Тыберый Аляксандр, які здабыў ганаровыя пасады ў імперыі і часам мог уплываць на дзяржаўныя справы. Ірады, хоць і рабілі ў Рыме шмат шуму адносна захавання свайго культу, таксама далёка не былі сапраўднымі юдэямі, хоць бы з увагі на свае пастаянныя зносіны з паганцамі. Беднякі, якія захоўвалі рэлігію продкаў, лічылі гэтых заможных людзей адступнікамі.

Такім чынам, на несамавітай набярэжнай, заваленай таварамі з усяго свету, хваляваўся цэлы свет ідэяў, але ўсё гэта гублялася ў мітусні вялізнага горада. Напэўна, поўныя гонару патрыцыі, якія, шпацыруючы па Авенціне, кідалі позірк на той бок Тыбра, нават не падазравалі, што ў гэтай грамадзе бедных хацінак ля падножжа Янікульскага пагорка, спее будучыня[12]. Менавіта ў такім асяроддзі паўстала першая хрысціянская супольнасць у сталіцы імперыі.

Першая згадка пра рымскую хрысціянскую супольнасць сустракаецца ў Святонія ў сувязі з вядомым загадам імператара Клаўдыя ад 54 года адносна выгнання габрэйскага насельніцтва з Рыма. Тады, відавочна, хрысціяне ў богаслужбовых адносінах аддзяліліся ад юдэйскіх сінагогаў. Тацыт, чыя згадка пра хрысціянаў адносіцца да 64 года, ведае іх як ужо адасобленую супольнасць (*Аналы* XV, 44)[13].

Неўзабаве хрысціянаў у Рыме стала настолькі шмат, што яны ўжо маглі шырока абвяшчаць тут Добрую Навіну. Гэта

выклікала супрацiў артадаксальных габрэяў і шырокія хваляванні, што і прымусіла Клаўдзія выдаліць габрэяў з Рыма. Святоній і Дзеі Апосталаў (*Дз* 18, 2) сведчаць пра тое, што тады былі выгнаныя ўсе габрэі, хоць гэта цяжка дапусціць. Хутчэй за ўсё, былі выгнаныя толькі юдэахрысціяне, прыхільнікі нейкага невядомага рымскай уладзе «Хрэста». Клаўдзій наогул прыязна ставіўся да габрэяў, і нават цалкам магчыма, што тое выгнанне хрысціянаў было падбухторана самімі габрэямі, напрыклад, уплывовымі Ірадамі. Да таго ж, падобныя выгнанні зазвычай бывалі часовымі і ўмоўнымі, таму спыненая на пэўны час плынь увесь час узнаўлялася. У любым выпадку, мера Клаўдзія не мела значных наступстваў: Юзаф Флавій наогул пра яе не згадвае, а ў 58 годзе ў Рыме зноў была хрысціянская супольнасць[14].

Заснавальнікі першага хрысціянскага Касцёла ў Рыме, знішчанага па загадзе Клаўдзія, засталіся невядомымі. Але мы ведаем імёны двух габрэяў, выдаленых тады з Рыма. Гэта пабожныя сужэнцы Аквіла, габрэй з Понта, і ягоная жонка Прыска, або Прысцыла (пар. *Дз* 18, 2). На выгнанні яны апынуліся ў Карынце, дзе неўзабаве сталі блізкімі сябрамі і руплівымі супрацоўнікамі апостала Паўла, з якім іх аб'ядноўвала таксама аднолькавае рамяство. Такім чынам, Аквіла і Прысцыла з'яўляюцца першымі вядомымі нам прадстаўнікамі хрысціянскай супольнасці ў Рыме[15].

Разам з тым, нельга аспрэчваць і вялізнай ролі святых апосталаў Пятра і Паўла ў развіцці рымскага Касцёла. Хоць яны і не былі яго заснавальнікамі ў прамым сэнсе, аднак сталі яго духоўным падмуркам, прыняўшы мучаніцкую смерць у Вечным горадзе. Пра гэта выразна сведчыць і Традыцыя Касцёла: так лічаць святы Ірэнэй, святы Геранім, Арыген, чые звесткі пераказвае айцец гісторыі Касцёла Эўзэбій.

Першае наведванне Рыма святым Пятром касцёльная традыцыя звязвае з перыядам ад 43 (44) г. да 49 (50) года. Як згадваецца ў Дзеях Апосталаў, у гэты час Апостал, цудам вызвалены Анёлам з цямніцы, «пайшоў у іншае месца» (пар. *Дз* 12, 1–17). Святы Геранім сцвярджае, што Пётр упершыню прыйшоў у Рым у другі год панавання Клаўдзія, а менавіта ў 42 г. (*De viris illustribus*, c. I). Да таго ж, калі храналагічна супаставіць Дзеі Апосталаў з Паўлавымі пасланнямі і прасачыць за дзейнасцю апостала Пятра пасля Пяцідзясятніцы, то можна знайсці некалькі перыядаў, калі яго месцазнаходжанне дакладна невядомае. Ці мог Пётр у гэты час сапраўды быць у Рыме? Дакладна сказаць немагчыма, хоць вышэйзгаданыя факты з'яўляюцца своеасаблівым *argumentum e silendo* (маўклівым доказам), што дае магчымасць так меркаваць[16].

Аднак нават самыя вялікія скептыкі, у тым ліку і М. Э. Пасноў[17], прызнаюць бясспрэчным факт мучаніцкай смерці святога Пятра ў Рыме падчас панавання Нерона. Ускосныя сведчанні пра гэта знаходзім ужо ў пасланні святога Клімэнта Рымскага (5 раздзел), у пасланні да Рымлянаў святога Палікарпа і інш.

Што ж датычыцца святога Паўла, дык ён, занёсшы святло Евангелля на ўсход ажно да Ілірыі (*Рым* 15, 19), меў намер скіраваць сваю місіянерскую дзейнасць на захад: праз Рым у Іспанію (*Рым* 15, 24, 28; 1, 13). Але ў Рым апостал Павел трапіў не як вольны місіянер, а як падсудны рымскай улады. Аднак, як падае святы Лука, ён абвяшчаў у Рыме Добрую Навіну «з усёю адвагаю і беспераашкодна» (пар. *Дз* 28, 31). Падчас другога арышту ў Рыме ён быў забіты мячом у 67 годзе.

...Ішлі гады, шмат вады выцекла ў Тыбры з тых далёкіх часоў, шмат драматычных момантаў зведала хрысціянства на працягу сваёй гісторыі, але апостальская вера, гарантам якой з'яўляецца наступнік святога Пятра, надалей жыве і прыносіць плён, нараджаючы ўсё новыя і новыя пакаленні хрысціянаў для Божага Валадарства. Непарушна стаіць Касцёл, заснаваны на трывалым камені — Пятры, на падмурку Апосталаў, змацаваным крывёю шматлікіх мучанікаў, і якія б навальніцы і віхуры над ім ні шалелі, брамы пякельныя ніколі яго не пераможуць.

---

1 Э. Нюстрем. Библейский словарь. — Торонто, 1982, с. 374.
2 М. Э. Поснов. История Христианской Церкви. Деятельность ап. Павла после Апостольского Собора. Прибытие его в Рим.
3 Тамсама.
4 J. E. Renan. Saint Paul. — Paris, 1869.
5 J. E. Renan. Saint Paul. — Paris, 1869, c. 96.
6 Тамсама, с.96–97, с. 106.
7 Тамсама, с. 97–98.
8 Э. Нюстрем. Библейский словарь. — Торонто, 1982, с. 373–374.
9 J. E. Renan. Saint Paul. — Paris, 1869, c. 106.
10 Тамсама, с. 101–102.
11 Э. Нюстрем. Библейский словарь. — Торонто, 1982, с. 373.
12 J. E. Renan. Saint Paul. — Paris, 1869, c. 102–108.
13 М. Э. Поснов. История Христианской Церкви. Деятельность ап. Павла после Апостольского Собора. Прибытие его в Рим.
14 J. E. Renan. Saint Paul. — Paris, 1869, c. 110–111.
15 Тамсама, с. 111–112.
16 М. Э. Поснов. История Христианской Церкви. Деятельность ап. Павла после Апостольского Собора. Прибытие его в Рим.
17 Тамсама.

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

VIII. БОЖЫЯ ЯКАСЦІ

Замест класічнага тэрміну «акт» мы карысталіся словам «здзяйсненне». Не будзем ужываць словаў у лацінскім гучанні: «патэнцыя» і «акт», але ўвядзем замест іх «магчымасць» і «здзяйсненне». Вось жа, Бог — гэта поўнае здзяйсненне, само здзяйсненне. Класічная формула гучыць гэтак: Бог — *actus purus,* гэта значыць, што Бог — гэта чыстае здзяйсненне, паўната здзяйснення, паўната скончанасці (слова «дасканаласць» паходзіць ад словаў «даканчваць», «сканчваць»). І мы можам зрабіць пэўныя высновы з гэтых самых асноўных сцвярджэнняў. Калі Бог — паўната здзяйснення, то ў Ім няма ніякай магчымасці. Мы кажам тут пра магчымасць не ў тым значэнні, што Бог можа гэта альбо тое. Гаворка ідзе пра магчымасць, разуметую як канстытутыўны чыннік кожнага створанага быту. У гэтым значэнні ў Богу няма магчымасці. Затое, калі ідзецца пра існаванне, св. Тамаш кажа ясна: *In Deo... non est potentia ad esse (C. gent.* I, 16, 1) — у Богу няма магчымасці існавання; у Ім *esse*, існаванне ёсць ва ўсім сваім здзяйсненні. Так з усімі якасцямі Бога. Як самаіснае існаванне Бог павінен быць бытам максімальна дасканалым, бо *secundum modum quo res habet esse est suus modus in nobilitate* — годнасць, дасканаласць быту залежыць ад спосабу, якім дадзены быт існуе (*C. gent.* I, 28, 2). Паколькі Бог — само існаванне, існаванне самаіснае, поўнае, таму Ён і найдасканалейшы быт.

Для св. Тамаша-філосафа не падлягае сумневу, што існаванне раўнавартае з дабром. Гэта важнае сцвярджэнне. Усё, што ёсць, — добрае без ніякіх выняткаў. Без аніякіх выняткаў! Таму Бог, як самаіснае існаванне, павінен быць максімальна добрым. Ён — само дабро. У Платона — наадварот: у яго Бог — дабро і дабро перадусім. У Тамаша ж Ён дабро таму, што Ён — існаванне. Існаванне тут прычына дабра. Бог таксама — праўда, бо праўда, насуперак усёй сучаснай еўрапейскай філасофіі, звязаная значна больш з рэчамі, з існаваннем, чым з пазнаючай чалавечай думкаю. Праўда — гэта адпаведнасць думкі рэчаіснасці, але праўда ёсць у рэчаіснасці, а значыць — у існаванні. Таму, калі Пан Езус кажа пра сябе: «Я — дарога, і праўда, і жыццё» (Ян 14, 6), Ён выказвае самую квінтэсэнцыю Божых якасцяў: дарога — гэта дабро, а разам з дабром яна — праўда і жыццё. Чаму дарога — гэта жыццё? Бо дабро — гэта тое, да чаго ўсё кіруецца.

Адсюль шэраг высноваў, якія св. Тамаш выводзіць з гэтых вельмі простых палажэнняў, якія прымае. Як чыстае здзяйсненне, як *actus purus* Бог не можа быць складаны, адсюль вынікае Яго абсалютная прастата. Тут зноў выяўляецца ўжо згаданая тэалагічная цяжкасць; гаворка ідзе пра спалучэнне абсалютнай прастаты з множнасцю Асобаў у Тройцы. Бог мусіць быць дасканала просты, Ён не можа рэальна быць складаным, бо складанасць выступае толькі там, дзе ёсць і магчымасць, і здзяйсненне, дзе сутнасць адрозная ад існавання. Але калі Бог абсалютна просты, то Ён мусіць быць Духам, «Бог ёсць Духам», кажа Пан Езус самаранцы (Ян 4, 24). Тут мы зноў маем *revelabile,* філасофскую праўду, якая ёсць таксама праўдаю аб'яўленаю.

Усялякі цялесны быт — складаны. Створаны дух, як мы пабачым, таксама — паводле св. Тамаша — складаны, але менш складаны, чым цела. Бог абсалютна просты, таму ў Ім — верх духовасці. Тое, што мы пазнаем у рэчах як простае і духовае, — толькі далёкае адлюстраванне гэтых Божых справаў. Мы ўжо казалі, што такія асобы, якіх мы бачым у свеце, — гэта толькі далёкае адлюстраванне асобы Бога. Жывёла — не асоба, але асобаю з'яўляецца чалавек, і больш ці менш мы ўсведамляем, чаму кажам пра чалавека, што ён — асоба. Гэтак жа сама, сцвярджаючы ў чалавеку праяву духовага пачатку, мы кажам, што бачым у ім адбітак таго, што максімальна і поўна здзяйсняецца ў Богу. На гэтай падставе мы можам сказаць, што Бог у бясконца велізарнай меры мусіць валодаць тым, што складае сутнасць духу, а сутнасць духовага жыцця палягае ў тым, каб пазнаваць і любіць. Таму — паводле св. Тамаша — Богу ўласцівыя тры асноўныя якасці, якія былі названыя ў выказванні Хрыста: «Я — дарога, і праўда,

*Працяг. Пачатак у 3 за 2011 г.*

і жыццё». Гэта тры фундаментальныя якасці Бога. Уражвае лагічнасць і паслядоўнасць у гэтых палажэннях св. Тамаша. Калі найпрасцейшыя, найпершыя палажэнні будуць прынятыя і прадуманыя, то з іх павінна вынікаць выснова, якая з'яўляецца каментарам да прыведзеных вышэй словаў Хрыста.

Здольнасць пазнання ў Бога мусіць быць найбольшай. У *«Суме тэалогіі»* (I q.14 a. 1 c.) чытаем: *Cum Deus sit in summo immaterialitatis sequitur quod ipse est in summo cognitionis* — паколькі Бог ёсць вяршыняй *(in summo)* нематэрыяльнасці, духовасці — таму таксама Ён і вяршыня пазнавання. Мы ўжо ўзгадавалі вышэй, што для св. Тамаша сутнасцю духовага жыцця з'яўляецца пазнаванне і жаданне, а таму таксама — чым вышэйшая ступень духовасці, тым вышэйшая ступень пазнання. Жывёлы часам маюць высокую здольнасць пазнання, але не маюць (мы ўбачым, у чым гэтая розніца) таго духовага пазнання, якім валодае чалавек. Калі вера кажа нам, што існуюць анёлы, то духовы быт, анёл мусіць мець пазнанне нашмат магутнейшае, чым чалавек. Бог, будучы *in summo immaterialitatis,* — ёсць якраз *in summo cognitionis* — будучы на вяршыні духовасці, Ён таксама і на вяршыні пазнання. Першы прадмет пазнання для Бога — Ён сам. Паколькі з Яго як самаіснага існавання, як з дзейнай прычыны вынікае ўсё, таму Бог, пазнаючы сябе, мусіць пазнаваць да самай глыбіні ўсе рэчы.

У часы св. Тамаша дзейнічалі вызнаўцы арыстоцелізму, якія інтэрпрэтавалі Арыстоцеля цалкам інакш, чым св. Тамаш. Разважалі яны прыкладна гэтак: калі Бог — гэта Дух (для Арыстоцеля Бог як чысты Акт мусіў быць Духам), то як Дух Ён пазнае толькі тое, што духовае, а значыць не пазнае асобных, канкрэтных і цялесных рэчаў, не можа прыніжаць сябе пазнаннем усёй гэтай дробязнай, матэрыяльнай блытаніны. Вызнаўцы Арыстоцеля, якія інтэрпрэтавалі яго ў духу Авэроэса (вялікага арабскага філосафа, які тады ўваходзіў у лацінскі свет як каментатар Арыстоцеля і каментары якога шмат у чым былі несумяшчальныя з хрысціянскай верай) сцвярджалі, што Бог не можа пазнаваць усяго, але абмяжоўвае сваё пазнанне родамі і відамі. Гэта значыць, што Бог пазнае і апякуецца чалавечым родам, але не апякуецца асобнымі людзьмі, апякуецца жывёламі наогул, але Яго не цікавяць асобныя жывёлы. Св. Тамаш цалкам інакш, чым Арыстоцель, прызнаў існаванне сутнасцю Бога. Паколькі для св. Тамаша Бог — існаванне і крыніца ўсіх існаванняў, а існаванне заўсёды асобнае, канкрэтнае, а не агульнае, то Ён мусіць пазнаваць усё, што існуе, што ад Яго залежнае існавальна, а значыць пазнаваць якраз усе канкрэтныя быты, быты найменшыя, наймізэрнейшыя. Усё мусіць быць прадметам пазнання Бога, таму што Бог — не толькі мэтавая прычына свету, як казалі таксама і авэраісты, але таксама — прычына дзейная, крыніца існавання. Таму, кажа св. Тамаш, Бог павінен быць Провідам, бо Провід апякуецца светам не толькі ўвогуле, але і ўсімі найменшымі падзеямі ў гэтым свеце. Усё падлягае Божаму пазнанню і Божай волі. Провід — гэта дэталёвы план, а таксама клопат пра кожную найменшую частку гэтага плану. Мы вернемся да гэтага пытання пры разглядзе праблемы зла.

Бог пазнае ўсё адразу. Тут мы закранаем надзвычай глыбокую праблему часу. Вечнасць — гэта не час, які не мае канца: вечнасць — гэта пазачасавасць. Гэта нам трэба вельмі глыбока ўсвядоміць. Гэтая справа, як мне здаецца, вельмі істотная нават для ўнутранага жыцця. І таму — паколькі Бог знаходзіцца ў пазачасавасці, Ён трымае нейкім чынам у сабе і абдымае адразу ўвесь час, усё, што адбываецца на працягу мільярдаў гадоў, усё гэта ёсць у Богу адразу, разам, Ён бачыць усё гэта адначасна. Ён пазнае таксама ўсё, што ёсць, што існуе, што праіснавала хаця б найменшы адцінак часу, бо яно існавала ў Богу як у сваім корані і крыніцы. У гэтым крыецца і вялікае суцяшэнне: чалавек, які будзе ўдзельнічаць у вечнасці, знойдзе абсалютна ўсё ў Богу; нічога не гіне, няма аніякіх рэчаў страчаных, аніякіх успамінаў, якія ўжо назаўсёды прамінулі. І тут спраўджваюцца словы Апакаліпсіса пра тое, што не будзе ані слёзаў, ані крыку, ані енку. Бо ўсё кепскае — гэта нябыт, і перастае існаваць; застаецца толькі тое, што ёсць, і ёсць непрамінальным у Богу (пар. Ап 21,4).

Вось жа Бог пазнае ўсё адразу ў нерухомай вечнасці. Бог не складаны, але абсалютна просты. З гэтага вынікае, што Ён — Дух. Добра разумеем, што мы самі складаныя. Мы ведаем, што нечым іншым з'яўляецца нашае пазнаванне, а нечым іншым — жаданне. Пазнаванне вынікае з нейкай асобнай кіроўнай крыніцы, якую мы называем інтэлектам, а жаданне з'яўляецца справаю волі. Паміж воляй і інтэлектам у нас ёсць розніца. Хаця гэта я, які пазнае і жадае, але я разумею, што ўва мне ёсць складанасць. У Богу гэтага няма. Бог не мае гэтых уласцівасцяў, не мае інтэлекту і волі, хаця ў Старым Запавеце Бог не раз прадстаўлены вельмі па-чалавечы: што Бог хоча, што шкадуе пра тое, што вырашыў, мае пачуцці, гневаецца, не жадае і г.д. Усе гэта — метафарычныя ўяўленні. Бог сам ёсць пазнаннем і жаданнем. Моваю філасофіі гаворыцца, што ў Богу пазнанне і жаданне субстанцыяльныя, альбо што яны атаясам-

ляюцца з Ім самім. Мы ведаем таксама, што Бог перадусім мусіць пазнаваць сябе, Ён сам для сябе — прадмет пазнання, а ў сабе пазнае ўсё. Тое ж самае і з Божым жаданнем.

Бог мусіць жадаць ці мусіць любіць перш за ўсё самога сябе, але ў сабе любіць усё. Св. Тамаш узнімае прыгожы матыў платонаўскай філасофіі, што дабро разліваецца само з сябе. Бог, жадаючы дабра, ці любячы сябе, хоча ўдзяліць сябе бытам. Гэта асноўная прычына стварэння. Мы да гэтага вернемся, калі будзе гаворка пра адносіны Бога да свету. Бог не можа жадаць, а праз гэта самае і любіць рэчаў супярэчных, гэта значыць рэчаў немагчымых. Супярэчныя рэчы, напрыклад, квадрат, які адначасна з'яўляецца кругам, штосьці, у чым дзве спрэчныя рысы паядноўваюцца, не могуць быць прадметам жадання ці любові Божай. Затое ўсё, што існуе, без аніякіх выняткаў, Бог любіць, бо Ён гэтага жадае. Трэба таксама падкрэсліць важную рэч: св. Тамаш нагадвае, што Бог любіць рэчы, створанні не таму, што яны добрыя, а таму рэчы існуюць і таму добрыя, што Бог іх любіць. Бог праз сваё жаданне, праз сваю любоў спрычыняе дабро рэчам, спрычыняе ім існаванне.

Тут ізноў адкрываецца новае *revelabile*, новая *sublimis veritas,* як кажа св. Тамаш, новая захапляючая, дзівосная праўда: Бог атаясамляецца з праўдаю і любоўю. У гэтых разважаннях св. Тамаша набывае выразнае гучанне выказванне з Паслання св. Яна (1 Ян 4,8) — *Deus caritas est* — Бог — гэта любоў. Як Бог ёсць праўдаю, гэтак жа сама Бог ёсць любоўю і праз сваю любоў абумоўлівае існаванне ўсяго. Тут няма аніякіх выняткаў: нават злы дух не існаваў бы, калі б не быў прадметам Божай любові. Злы дух, дух узбунтаваны, злы маральна, але ў той ступені, у якой з'яўляецца бытам, ён ёсць добры, ёсць прадметам Божай любові, бо іначай не існаваў бы[1]. Значыць, усе быты без вынятку з'яўляюцца прадметам Божай любові, Бог праз сваю любоў робіць іх добрымі, як у парадку прыроды, гэтак і ў парадку ласкі: гэта два парадкі, у якіх дабро ёсць вынікам Божай любові.

Калі будзем разважаць пра гэтыя тры прадметы: дабро, праўду і жыццё, то, уласна кажучы, усё, што можна сказаць пра Божае жыццё, з'яўляецца вынікам таго, што ўжо было сказана. Часта мы маем плыткае і павярхоўнае разуменне жыцця, а трэба памятаць, што паўната жыцця — гэта не толькі сукупнасць нашых біялагічных і пачуццёвых функцыяў, але жыццё перш за ўсё магчымае як найдасканалейшая дзейнасць тых дзвюх функцыяў, якія характэрныя для духовага жыцця, а менавіта: пазнання і любові. Гэта — паўната жыцця.

Ужо св. Аўгустын стараўся паказаць у сваіх разважаннях над Тройцаю, як уласнае жыццё Тройцы пульсуе ў пазнанні і любові. Св. Тамаш таксама ўзнімае гэтую тэму. Дзеянне ў гэтых двух кірунках, гэта значыць рэалізацыя пазнання і любові адным цалкам нескладаным імпульсам, а не асобнымі, паслядоўна надыходзячымі адно за адным дзеяннямі, найпаўнейшым чынам здзяйсняецца ў Богу. Таму, калі мы кажам, што ў Богу ёсць поўнае завяршэнне, абсалютнае здзяйсненне, гэта не значыць, што ў Богу ёсць застой, наадварот — у Ім максімум дынамізму. І гэта таямніца, як гэты дынамізм можа рэалізавацца не нейкімі этапамі, што надыходзяць адзін за адным, але нібы ў адным выбуху, які абсалютна адзін і нескладаны.

Гэтыя разважанні прыводзяць св. Тамаша да вельмі прынцыповага сцвярджэння, што, рэалізуючы вышэй згаданыя якасці, якія відавочна атаясамляюцца з Ім самім, а менавіта: пазнаванне і любоў, Бог у сваёй сутнасці шчаслівы, Ён — шчасце і адзіная прычына шчасця для ўсяго, што створана.

Тамаш кажа: *Deus per essentiam suam beatus est quod nulli alii competere potest* (C. *gent.* I, 102, 4) — Бог у сваёй сутнасці шчаслівы, што не можа быць уласцівым нікому іншаму. Ніхто ў сваёй сутнасці не можа быць шчаслівым, можа быць шчаслівым толькі ў той меры, у якой набліжаецца да Бога, да Таго, які — само шчасце, бо ёсць *per essentiam beatus,* гэта значыць: у сваёй сутнасці ёсць шчасцем; альбо Бог, як дарога, праўда і жыццё атаясамляецца са шчасцем. Таму меў таксама рацыю св. Аўгустын, калі казаў у сваёй *«Споведзі»*, што, калі чалавек шукае хаця б аскепка шчасця, то насамрэч ён шукае Бога, хоць гэтага не ўсведамляе. Вось жа, нават калі б чалавек шукаў гэтага шчасця на найбольшай бездаражы і самым аблудным чынам, то ў прынцыпе ён шукае Бога, бо кожны драбок шчасця ёсць водбліскам Бога, які ў сваёй сутнасці — само шчасце. Таму, калі б хтосьці нават не меў пра гэта ніякага паняцця, і хоць бы быў атэістам і ворагам Бога, то, шукаючы шчасця, ён па сутнасці шукае Бога. Гэтую думку развіў св. Аўгустын у *«Споведзі»*.

[1] Гл. на тэму існавання зла: Garrigues, Jean-Miguel. *Dieu sans idée du mal.* — Paris, 1982. Гэтая славутая кніга з'яўляецца каментарам да словаў св. Тамаша: ... malum non habet in Deo ideam... (S.th. I q.15 a.3 ad 1) — Бог не мае ідэі (паняцця) зла. Кніга выйшла ў выдавецтве «W drodze» пад назваю: *Bóg, w którym nie ma idei zła*. — W drodze: Poznań, 1996. — *Заўв. перакл.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Алеся Жлуткі.*

Алесь Жлутка

# Шлях да Слова:
## ад Канстанціна Філосафа да Канстанціна Прэслаўскага

Час — гэты «пажыральнік усяго», як казалі старажытныя, шмат што змяняе, шмат перайначвае. Ён робіць плыткаю і няўлоўнаю саму тканіну быцця, змешваючы падзеі, рэчы, імёны, постаці. Так адбылося і з дзвюма часава, духова і творча блізкімі асобамі — настаўніка і вучня: святога Канстанціна (у манастве Кірыла), празванага Філосафам, і ягонага малодшага векам аднайменніка Канстанціна, які пазней будзе названы Прэслаўскім. Смугою вякоў іх аблiччы замгліліся, імёны змяшаліся, лёсы перапляляліся...

Канстанцін Прэслаўскі належаў да кола вучняў таго Канстанціна, які разам са сваім братам Мятодам здабудзе вянок святасці. Яны будуць светачамі хрысціянства і, аднойчы зазззяўшы ў Вялікай Маравіі, якая стане калыскаю славянскага абраду, азораць усіх славянаў Еўропы святлом Хрыстовай веры. Невядома, адкуль паходзіў гэты іх вучань і калі нарадзіўся. Мы не ведаем нават, ці быў ён ужо на свеце, калі ў 863 г. вялікамараўскі князь Расціслаў запрасіў братоў у сваю краіну. Можам толькі здагадвацца, ці не атрымаў ён свайго імя ад імя славутага настаўніка. Пра яго ж настаўнікаў вядома больш. Паходзілі яны з ваколіц македонскага горада Салуня (сёння Салонікі на поўначы Грэцыі), дзе насельніцтва было славянскім (раннія крыніцы згадваюць у гэтым рэгіёне славян другавітаў), і з дзяцінства павінны былі валодаць мясцовай славянскай мовай. Браты атрымалі выдатную адукацыю. Канстанцін, які будзе празваны потым Філосафам, стаў прафесарам візантыйскага ўніверсітэта і належаў да інтэлектуальнай эліты з атачэння патрыярха Фотыя. Старэйшы брат Мятод быў дасведчаным адміністратарам і прэфектам адной з правінцый недалёка ад Салуня. Абодва былі людзьмі вялікага таленту і палымянай веры, напоўненыя духам адзінства ўсіх хрысціянаў у Хрысце і прагаю несці праўду Евангелля паганскім народам. У Вялікай Маравіі асветнікі знайшлі ўжо часткова падрыхтаваную для гэтага глебу: яшчэ ў VIII ст. тут працавалі ірландскія і шатландскія бэнэдыктыны, якія, магчыма, паклалі пачатак і стварэнню першай славянскай азбукі — глаголіцы. А ў час прыходу братоў у краі пашыралі веру баварскія місіянеры з Пасаўскай дыяцэзіі, падлеглай Зальцбургскай мітраполіі, якія выкарыстоўвалі ў сваёй працы тэксты на славянскай мове, пісаныя лацінкаю. Частка краіны была ўжо хрысціянізаваная.

Для місіі ў дзяржаве Расціслава Канстанцін Філосаф распрацаваў альбо дапрацаваў глаголіцу. Салунскія браты, паяднаўшы грэцкую і рымскую літургічную традыцыі ды ўвёўшы ў набажэнства славянскую мову, стварылі сваю адмысловую славянскую літургію, якую іх вучні прынеслі потым у Балгарскае царства, да славянаў на поўдні, поўначы і ўсходзе. Канстанцін і Мятод пераклалі на мову асноўныя богаслужбовыя тэксты, а таксама часткі Святога Пісання. Разам з пашырэннем веры разгортвалася асветніцкая дзейнасць місіі. Асветнікі выхавалі і далі належную адукацыю цэламу шэрагу вучняў, якія потым пашырылі славянскую пісьмовасць, славянскую літургію і славянскі абрад далёка за межы Вялікай Маравіі ды сталі апосталамі веры і асветы для іншых народаў. Дзякуючы ім славянскі абрад быў прыняты і яшчэ доўга захоўваўся ў Чэхіі, на поўдні Польшчы, на землях Украіны і Беларусі, дзе пратрываў да сярэдзіны XIII ст. і толькі пазней паступова быў заменены візантыйскім абрадам, але з славянскай богаслужбовай мовай. Яшчэ даўжэй, відаць, ён існаваў у паўднёвых славянаў, сербаў і харватаў; у апошніх яго з часам замяніў лацінскі абрад са славянскай богаслужбовай мовай. Богаслужбовыя кнігі на глаголіцы выдаваліся ў Харватыі яшчэ ў сярэдзіне XX ст., а на некаторых астравах Далматыйскага ўзбярэжжа арыгінальны славянскі абрад з выкарыстаннем глаголіцы захоўваўся да самага апошняга часу.

Місія славянскіх апосталаў у Вялікай Маравіі раўніва і варожа была сустрэтая ў суседняй Баварыі, у Пасаўскай дыяцэзіі, якой тэрыторыя краіны падлягала ў адміністрацыйна-касцёльных

---

**Алесь ЖЛУТКА** — кандыдат філалагічных навук (абараніў дысертацыю па лацінскай паэзіі Беларусі эпохі Асветніцтва). Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Заполле на Магілёўшчыне. Падрыхтаваў да выдання кнігу дакументаў і сведчанняў «Міндаў — кароль Літовіі» (Мінск, 2005). У яго перакладзе на беларускую мову друкаваліся паэзія Гарацыя, байкі Эзопа і творы анакрэотыкаў. Займаецца даследаваннем ранняй гісторыі Касцёла на Беларусі, беларускай анамастыкай.




Кірыл і Мятод з папам Адрыянам ІІ нясуць у працэсіі рэліквіі святога мучаніка папы Клімэнта.

адносінах. Нямецкае духавенства выступіла супраць славянскага пісьма і славянскага абраду, абвяшчаючы іх ерассю, і запатрабавала, каб літургія правілася толькі на лацінскай мове. У гэтых умовах стала немагчымаю далейшая місійная праца ў краі і высвячэнне на святароў і дыяканаў вучняў, падрыхтаваных за гэты час Канстанцінам і Мятодам. Таму, каб абараніць лёс славянскага абраду і будучыню хрысціянства ў Вялікай Маравіі, у 867 г. на запрашэнне папы Адрыяна ІІ браты вырушылі ў Рым. Па дарозе ў Венецыю яны ў знакамітым дыспуце з прадстаўнікамі «трыязычнай ерасі», якія прызнавалі кананічнасць толькі трох моваў — габрэйскай, грэцкай і лацінскай, адбілі ўсе аргументы праціўнікаў славянскага абраду, прывёўшы шэраг цытатаў з Бібліі, у якіх усе народы заклікаюцца хваліць Бога на сваіх мовах. У Вечны горад славянскія апосталы прынеслі свой дар — рэліквіі св. папы Клімэнта, якія яны адкрылі яшчэ раней, у 861 г., падчас місіі да хазараў у крымскім Хэрсанэсе (Корсуні).

Нягледзячы на перашкоды немцаў, браты былі вельмі прыхільна прынятыя папам Адрыянам ІІ, які прызначыў Мятода арцыбіскупам на Маравію, а многія з вучняў славянскіх асветнікаў былі кансэкраваныя на святароў і дыяканаў. Але брат Мятода Канстанцін не вярнуўся ў Маравію, а пастрыгся ў манахі пад імем Кірыла і, застаўшыся ў Рыме, ідаць, прысвяціў сябе перакладу Святога Пісання і богаслужбовых кніг. На жаль, праз два гады ён цяжка захварэў і 14 лютага 869 г. памёр (пахаваны ў базыліцы св. Клімэнта). Перад вяртаннем у Маравію св. Мятод атрымаў ад Папы булу «Gloria in altissimis Deo» з зацвярджэннем славянскай мовы як літургічнай. Пазней ён быў намінаваны Папам мітрапалітам на адноўленую колішнюю Сірмійскую мітраполію ў Вялікай Маравіі.

Аднак гэта яшчэ больш узмацніла нападкі з боку нямецкага духавенства. Мятод быў кінуты ў вязніцу, і толькі рашучае ўмяшанне новага папы Яна VIII прынесла яму вызваленне. Баварскія біскупы палічылі прызначэнне Мятода ўмяшаннем у свае правы і зноў пачалі абвяшчаць славянскі абрад ерассю. Папа выклікаў Мятода ў Рым і склікаў сінод, які цалкам апраўдаў і пацвердзіў усе яго правы, а Пантыфік абараніў яго новай булаю «Industriae tuae».

Пасля смерці папы Яна VIII у 882 г. абставіны змяніліся не на карысць славянскага абраду. Вялікамараўскі князь Святаполк ужо не меў такой прыхільнасці да славянскага хрысціянства, як яго папярэднік Расціслаў. Не меў яе і суфраган Мятода, біскуп Віхінг, які пачаў дзейнічаць супраць яго на карысць баварскага духавенства. Смерць Мятода ў 884 г. сталася пачаткам катастрофы. Віхінг і баварскія біскупы звінавацілі яго ў няправільным прызначэнні перад смерцю сваім наступнікам Горазда, а славянскі абрад і яго стваральнікаў — у арыянстве. Грунтуючыся на гэтых звінавачваннях, новы папа Стэфан VI адхіліў ад улады Горазда і сваімі лістамі, у тым ліку і да Святаполка, забараніў славянскі абрад. У выніку ўсю духовую ўладу над Вялікай Маравіяй атрымаў Віхінг з правам увесці лацінскае богаслужэнне, а князь Расціслаў прагнаў славянскіх святароў, вучняў Кірыла і Мятода, з краіны. Некаторыя з іх нават былі прададзеныя ў рабства. Сярод прададзеных апынуўся, відаць, і вучань славянскіх апосталаў Канстанцін, пазней названы Прэслаўскім. На яго долю выпалі не толькі ўсе нягоды апошніх часоў славянскага хрысціянства ў Маравіі, але і ганебная няволя, з якой ён з іншымі вучнямі быў выкуплены толькі стараннем аднаго з візантыйскіх саноўнікаў. Пазней аддзяленне Чэхіі і венгерскае нашэсце ў канцы IX – пачатку X ст. паклалі канец існаванню самой вялікамараўскай дзяржавы.


тишасѧвьси :·
Людиѥтвои на
рещисѧхотѧще :·
Милоститвоѥѩ·
бепросѧтъзѣло :·
Нъмънѣнꙑинѣ·
пространослово
дажды :·
Отьсьне·ипрѣстꙑ
наше :·
Просѧщоуоумоу·
помощнѡтебе :·
Роуцѣбосвоигорѣ
бъздѣюприсно :·
Сиоупонѧти·и
моудростьоуте
бе :·
Тꙑбодаюши·до
стоинномъси
моу :·
Упостасьже·вьсѧ

коуюцѣлиши :·
Фараошамалзъ
лобꙑизбави :·
Херовьскоумн·
мꙑсльноумъ
дажды :·
Оцьстьнаѩ·прѣ
стаѩтроице :·
Печальмоюнара
достьпрѣложи :·
Цѣломоудрьно·
данатьноупь
сати :·
Юдеса твоѩ·прѣ
дивьнаѩзѣло :·
Шестькрилатъси
лоуkъспрнимъ :·
Шьствоуюнꙑ
нѣ·послѣдоуоу
чителю :·
Наменниѥю·надѣлоу

Старонка з часткаю Азбучнай малітвы.

Пачатак Проглacу да Евангелля (публікацыя А. Ф. Гільфэрдынга, 1858 г.).

Вучні салунскіх святых, якія не трапілі ў няволю, разышліся па ўсіх славянскіх краях, несучы на новыя абшары асвету і святло Евангелля ў зразумелай і блізкай мове. Адным з такіх прыстанішчаў славянскага абраду стала Балгарскае царства, утворанае прышлымі з усходу цюркамоўнымі качэўнікамі булгарамі, якія змяшаліся з тубыльцамі славянамі. Тут ужо было прынятае хрысціянства з Візантыі. У 864 г. падчас візантыйскага нашэсця мясцовы хан Барыс быў ахрышчаны і прыняў імя Міхаіл у гонар тагачаснага візантыйскага імператара. Барыс павёў палітыку, скіраваную на ўтварэнне незалежнай ад Візантыі царкоўнай арганізацыі. У 886 г. ён урачыста, з вялікай пашанаю прыняў у сваю дзяржаву прагнаных з Маравіі вучняў Кірыла і Мятода — Клімэнта, Навума і Ангелярыя. Пазней да іх далучыўся выкуплены з няволі Канстанцін. Асцерагаючыся прызначаных у край візантыйскіх святароў, Барыс не адважыўся пакінуць вучняў славянскіх асветнікаў у сваёй сталіцы — Плісцы, а паслаў у іншыя гарады. Клімэнт апынуўся ў македонскім Охрыдзе, а Канстанцін — у балгарскім Прэславе. Дзякуючы іх ахвярнай працы быў выхаваны цэлы шэраг выдатных дзеячаў славянскага хрысціянства, былі ўзноўленыя пачатыя ў Маравіі пераклады Святога Пісання і літургічных кніг, створаныя шэдэўры арыгінальнай літаратуры на царкоўнаславянскай мове. Узніклі два самыя славутыя цэнтры славянскай кніжнасці — Охрыдская і Прэслаўская кніжныя школы. Сам Клімэнт Охрыдскі стаў адным са складальнікаў пашыранага жыцця св. Кірыла, аўтарам службы св. Кірылу, шэрагу Павучэнняў і Пахвальных словаў для вернікаў. У Охрыдзе ўся пісьмовасць існавала ў форме, прынесенай з Маравіі, — на глаголіцы.

У Прэславе, куды праз нейкі час была перанесеная сталіца царства, паўстаў другі славуты цэнтр хрысціянскага асветніцтва і культуры балгарскага і ўсіх славянскіх народаў IX–X стст. Тут працягвалася праца над перакладам Бібліі і літургічных кніг, пісаліся арыгінальныя хрысціянскія творы, ствараліся творы мастацтва, выхоўваліся святары і манахі. У Прэславе плённа развілася творчасць Канстанціна Прэслаўскага. Ён стаў укладальнікам гэтак званага «Вучыцельнага Евангелля» — збору, у які ўваходзіла Азбучная малітва — вершаваны твор на славянскай мове, дзе кожны новы малітоўны радок пачынаўся з назвы чарговай паводле алфавіту славянскай літары, а таксама больш за пяцьдзясят Гутарак святых айцоў і казанняў на евангельскія тэмы. Па сутнасці «Вучыцельнае Евангелле» стала першым у славянскай пісьмовасці сістэматызаваным зборам казанняў. Як лічаць цяпер многія даследчыкі, Канстанцін быў таксама і стваральнікам новага славянскага алфавіту — кірыліцы, хоць нямала і тых, хто перакананы ў прыярытэце ў гэтым яго настаўніка, святога Канстанціна-Кірыла, ад імя якога яна быццам бы і атрымала сваю назву. У 893 г. сын Барыса цар Сімяон склікаў царкоўны сабор у новай сталіцы дзяржавы Прэславе, на якім быў абраны першы балгарскі епіскап, а славянская мова была абвешчаная афіцыйнай моваю дзяржавы і Царквы. Магчыма, на гэтым саборы і было пастаўленае пытанне пра неабходнасць распрацоўкі ці ўвядзення новай, кірылічнай, азбукі. Відаць, не паўсюль у Балгарскім царстве, дзе ў адміністрацыі і Царкве выкарыстоўвалася грэцкая мова і служылі візантыйскія святары, была прыхільна прынятая глаголіца. Пасля абвяшчэння славянскай мовы афіцыйнаю ні дзяржаўны апарат, ні Царква не

Старонка харвацкага глаголічнага выдання з XX ст.

змаглі б хутка і бесперашкодна перайсці на глагалічную графіку. Таму кірыліца стала своеасаблівым кампрамісам паміж славянскім абрадам і пісьмовасцю ў глагалічнай «апратцы» і традыцыямі візантыйскага абраду і справаводства на грэцкай мове. У аснову новай кірылічнай азбукі быў пакладзены грэцкі алфавіт, а літары для перадачы адмысловых славянскіх гукаў былі альбо цалкам запазычаныя з глаголіцы, альбо стылізаваныя на грэцкі лад.

Але бадай самым славутым арыгінальным паэтычным творам, які таксама звязваюць з імем Канстанціна Прэслаўскага, стаў Проглас (Прадмова) да Евангелля. Ён захаваўся ў некалькіх пазнейшых кірылічных спісах XIV–XVI стст., а ўпершыню быў адкрыты славістам А. Ф. Гільфэрдынгам (1858 г.) у адным з сербскіх манастыроў, ад назвы якога рукапіс названы Печскім. Навукоўцы падзяляюцца ў меркаваннях пра аўтарства Азбучнай малітвы і Прогласу. Вельмі часта іх прыпісваюць Канстанціну Прэслаўскаму, але традыцыя і большасць сучасных даследчыкаў лічаць, што іх творцам быў сам Канстанцін Філосаф — святы Кірыл. Абодва творы з'яўляюцца першымі ластаўкамі сілабічнай паэзіі на славянскай мове. Напісаныя дванаццаціскладовым памерам з цэзурай пасля пятага склада, яны звязаныя адною тэмаю, якая асабліва выразна выяўляецца ў Прогласе, — велічным гімне Кнізе і Слову, якое на поўны голас прамаўляе ў Евангеллі. Каб умець чуць і спасцігаць, што кажа нам Бог, душа найперш павінна ўспрыняць пачаткі кніжнай мудрасці, засвоіць грамату, каб, навучыўшыся складаць літары ў словы, убачыць за імі само Слова. Гэтая ж думка: праз літару да Духу, зашыфраваная, — як мяркуюць некаторыя мовазнаўцы, — і ў славянскай азбуцы, якую ўсё часцей спрабуюць прачытваць як адно завершанае пасланне: «Аз буки веди. Глаголи: добро есть» і г.д. Азбука, Азбучная малітва і Проглас успрымаюцца як адзінае цэлае, паяднанае адной ідэяй і створанае адною асобаю. Натхнёна гучыць у Прогласе заклік да ўсіх славянаў увайсці ў святло Божай праўды праз авалоданне граматай і кніжнымі ведамі адначасна з прыняццем Евангелля і на яго аснове. Мова і пісьмо ўспрымаюцца як сакральныя з'явы, як знакі прысутнасці Найвышэйшага. Твор прасякнуты вераю ў вялікую моц і дзейснасць пісьмовасці, кніжнага навучання і выхавання для духовай перамены чалавека, для навяртання і збаўлення. Водгалас гэтых думак і ідэй, выказаных у ім, мы знойдзем потым у прадмовах да кніг Святога Пісання Францішка Скарыны. А пакуль што ўслухаймася ў голас творцы, магчыма, самога святога Кірыла, які прамаўляе да нас у Прогласе Евангелля, перakазаным беларускім бардам і паэтам Алесем Камоцкім.

Канстанцін Прэслаўскі

# ПРОГЛАС

Да святога Евангелля тут прадмова —
Згодна з даўнім абяцаннем ад пракрокаў,
Што Хрыстос ідзе да нас збіраць народы,
Асвятляючы Сабою ўвесь Сусвет.
Прыпадае на наш век Яго сустрэча.

І сляпыя неўзабаве будуць бачыць,
І глухія слова кніжнае пачуюць,
Ў гэтым свеце мусіць Бога ведаць кожны.
І таму кажу я — слухайце, славяне, —
Гэты дар усім належыць з Божай ласкі.

Дар Божы тым, хто прагне толькі праўды,
Дар Божы тым, чыя душа не згіне,
І ў якой заўжды жыве ўдзячнасць.
І гэта Марк, Лука, Мацвей і Ян
Казалі ўсім краям і іх народам:

Хто душу яднае з прыгажосцю,
Хто ўмее шчырым сэрцам усміхнуцца,
Каб абмінуць і грэх, і цемрашальства,
Ды каб паўстаць над паўсядзённым смеццем,
І каб ісці ў райскія прасторы.

Каб з агнём, што нішчыць грэшных, не сустрэцца,
Каб на мудрасць кіраваць уласны розум,
Гэта слова для цябе, народ славянскі,
Богам дадзена на ўсе твае часы
Гадаваць спакой у светлых душах.

Уладарыць слова розумам і сэрцам,
І вядзе яно да спасціжэння Бога.
Як няможна быць у радасці без сонца,
Што дае магчымасць кожнаму пабачыць
Дасканаласць, створаную Богам,

Так душа, што ў словы літар не складала,
Не спасцігне сэнсу Божага закону,
Што ў Запавеце захаваны
І вароты Раю адчыняе.
Так і той, хто грому не пачуе,

Як смірэнна ён паўстане перад Богам?
Не адчуўшы водару, што маюць кветкі,
Як аддасць належнае здзіўленню?
Калі вусны не ўспрымаюць болей слодыч,
Вельмі проста з камянём зраўняцца.

(IX—X стст.)

# ДА ЕВАНГЕЛЛЯ

Так душы няўтульна непісьменнай,
Бо жыццё яна не дорыць целу,
Бессэнсоўным толькі поўніць існаваннем.
Мы ж гатовыя прыйсці на дапамогу
Тым, хто хоча ў жыцці сваім пазбегнуць

Развіцця свайго грахоўнага пачатку.
Бо калі пачуе розум непісьменны
Слова Божае, нібы чужую мову,
Толькі звон спазнае ён, і больш нічога.
Вам усім навука ад святога Паўла:

Перш за ўсё, калі узносіцца малітва,
Дастаткова колькі словаў, каб данесці
Знічкі сэнсу ў невыказныя вышыні,
А не ў безлічы выслоўяў адмысловых
Пажаданае згубіць паразуменне.

І таму, хто не за мудрасцю імкнецца,
Не знайсці ў свеце ясны накірунак,
Не спасцігшы моцы праведнага слова,
А ягоныя здабыткі — тлен і попел —
Не ўратуюць у апошнюю хвіліну.

Прагне цела кожны дзень здаровай ежы,
А душа не можа жыць, як не пачуе
Слова Божага з надзённым запаветам,
Каб схаваць яго ў сэрца трапяткое.
Дык паслухайце ж яшчэ адну навуку:

Хто расце ў бязмежжы Боскага Закону
І другім жыцця падобнага жадае,
Добра ведае адвечнай праўды сутнасць —
Тое зерне, што патрапіла ў глебу,
Атрымаць павінна дождж. Таксама ж сэрца.

Божых літараў дажджы яно прымае.
І прыходзяць яму словы ўраджаем.
Каб у прыпавесці іх складаць і кнігі,
Без якіх народ жыве ў цемры.
Самы моцны голас хто пачуе?

Нават калі ён у розных мовах — прагучыць
Ён не мацней мінулага імгнення,
І толькі ў кнізе атрымае сілу.
Краіна без пісьменства — не краіна,
Народ, які не мае кнігі, — не народ.

Як без зброі будзе войска несапраўдным,
Так і душа неабазнаная, слабая
Не знойдзе спосаб ратавацца ад праклёну,
А калі кляты вораг ужо блізка,
І ў бойцы лютай трэба толькі перамога,

Хай розум прыадчыніць тыя дзверы,
Якімі ў душы вашы прыйдзе зброя,
Каваная з непераможных літар,
Каб змусіць д'ябла развітацца з галавою.
Апорай быць спасцігшаму пісьменства.

А, праз Хрыста засвоеная, мудрасць
Асвеціць розум і душу ўмацуе.
І будзе з вамі слова перамогі —
Апосталы святыя і прарокі
Яго трымаюць ворагу на згубу.

Ахвяруйце ж перамогу гэту Богу,
Уздымайцеся над тленам і знішчэннем,
І згіне грэх, нібыта сон, чароўным раннем.
Упэўнена прадстаньце перад Панам,
Каб без сораму глядзець Яму ў вочы.

Праваруч вам быць пры Божым троне,
Калі будзе Ён судзіць усе народы.
І з анёламі ў радасці спрадвечнай
Вечнай літасці Яго хвалу ўзнесці
Словам кніжным, праспяваным шчырым сэрцам.

У бязмежжы чалавекалюбства
Апявайце веліч Божай славы.
Гонар і хвала Айцу і Сыну,
паяднаным у Вялікай Тройцы
Са Святым і Усюдыісным Духам,
Ад усіх, на вечныя вякі.

Амэн.

*Пераказаў Алесь Камоцкі.*

Аркадзь Шпунт

# ПРЫВІТАННЕ З ТАГО СВЕТУ

## *Нататкі рэстаўратара*

*«У жыцці быў для Вас прыяцелем — шчырым і адданым, тым больш застануся ім пасля смерці...»*

Слуга Божы Зыгмунт Лазінскі

...дазвол на рэстаўрацыю алтароў у касцёле падаваўся збоем у функцыянаванні дзяржаўнай машыны. Збоі ў працы маўленчых органаў пры ўтварэнні гукаў змушалі задумацца не толькі пра артыкуляцыю мовы, але і пра тое, што называюць (хто б мог падумаць!) артыкуляцыяй палітычных інтарэсаў, дакладней — выказваннем грамадзянамі сваіх патрэбаў і патрабаванняў ураду.

З патрэбамі неяк змірыліся, а аб патрабаваннях нават і не марылі. Бюст генсека нагадваў упрыгожаны зоркамі фюзеляж пераможнага знішчальніка. На беларускіх могілках з'явіліся зробленыя за кошт ваенкаматаў фанерныя абеліскі — таксама з зоркамі. Кожнаму па адной — бляшанай. Але заслужанай. Толькі па тэлевізары пра гэта не паведамлялі.

Інстынкт самазахавання змушаў не задумвацца...

...а ксёндз пераканана і гучна сцвярджаў, што хутка ўсё зменіцца, што камуністам засталося нядоўга панаваць, што імперыя дажывае свае апошнія дні...

Не верылася.

Крамольныя выказванні ксяндза тады здаваліся мне амаль вар'яцкімі. Ён і савецкая ўлада ўзаемна выключылі свае адносіны, але перада мною быў не мастацкі вобраз, а рэальны благадушны антысаветчык. Я не мог уявіць жыцця гэтага «выключанага», як зрэшты, і заключанага. Я толькі разумеў, што ён быў з тых, для каго не існавала ніякага выбару.

...рыцар ва ўбранні каталіцкага святара, ён жа — садавод, які пеставаў усялякія расліны на апрацаваным сваімі рукамі кавалку зямлі і размаўляў з імі, а таксама з птушкамі і сабакамі, як і належыць настаяцелю хоць і былога, але францішканскага касцёла. Штаб Ваенна-марскога флоту ў келлях кляштара, карлінскі хасід Баал Шэм, які таксама меў «свяшчэнную звычку» размаўляць з жывёламі і разумеў мову птушак і дрэваў, — усё змяшалася ў маёй савецкай галаве. Да таго ж, слухаць ксяндза было небяспечна. Зрэшты, ён і не настойваў. Так, між іншым, кіне часам слова сваім адметным тэмбрам, які нагадваў мне... трэшчыну ў габоі.

І сёння здзіўляюся прадбачанню ксяндза Казіміра і сваёй слепаце. Але гэта сёння...

...а тады, калі я ўпершыню ўвайшоў у брамку касцёльнай агароджы, ён рухава каціў насустрач мне цяжкую тачку, напоўненую бітаю цэглаю.

Трэба сказаць, што ён каціў тачку са звыклым спрытам, але сваім аблічам зусім не нагадваў прафесійнага чорнарабочага. Складкаю вуснаў і выступаючым падбародкам ён хутчэй нагадваў Дантэ Аліг'еры з вядомага партрэта работы Рафаэля. Зрэшты, ксёндз Казімір (як я даведаўся пазней) пабываў у такім пекле, што Дантэ і не снілася, і менавіта там дасканала засвоіў майстэрства ваджэння тачкі.

«Дантэ» быў апрануты ў выцвілую блакітную тэніску, кароткія рукавы якой не хавалі моцных загарэлых рук. Цэгла ў тачцы была са сцяны касцёла, у якой ксёндз Казімір і яго адданы памочнік Юзаф Каліноўскі хавалі труну біскупа Лазінскага, які, нават лежачы ў труне, чамусьці не даваў спакою пільным ахоўнікам дзяржаўнай бяспекі. Але пра гэта тады ніхто не ведаў...

Ксёндз Казімір не быў падобны да «тутэйшага» жыхара. Ён падаваўся іншаземцам. Магчыма, справа была ў цвёрда-дапытлівым паглядзе яго вачэй за шкельцамі акуляраў, у адчуванні вольнай энергіі, якая праменілася ад яго ўсмешкі. Магчыма, у заўважным акцэнце. А можа, у лёгкай, колеру хакі, курткі з пагончыкамі. Не знешне, але гэтаю курткаю, сваёй абаяльнасцю і шчырасцю ён нагад-

**Аркадзь ШПУНТ —** мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000), «Тире» (2012) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

ваў мне персанажа фільма Анджэя Вайды. Ён здаваўся мне састарэлым Мацекам, які цудам пазбегнуў смерці на звалцы, выжыў у засценках і лагерах, ацалеў, не страціўшы веры. Але, у адрозненне ад героя Вайды, не «заблукаўшы на вайне», ён не шукаў выбару і ні на хвіліну, нават пад страхам смерці, не сумняваўся ў праваце сваёй веры.

Я, зрэшты, як і многія, не мог не паддацца абаяльнасці гэтага «адмоўнага персанажа» — адмоўнага ў вачах савецкай улады, якая так і не займела над ім сваёй улады. Рамантычны арэол лунаў нават у пазалоце непаслухмяных кудзерак над лысінаю ксяндза Казіміра. А як ён смяяўся, калі была нагода, — цалкам падзіцячаму, узахлёб...



KAZIMIERZ CARDINALIS ŚWIĄTEK
ADMINISTRATOR APOSTOLICUS
DIOECESIS PINSCENSIS

Szanowny Pan
Arkadij Samuiłowicz Szpunt

Składam Panu serdeczne podziękowania za profesjonalizm, fachowość i talent, jakim wykazał się Pan przy konserwacji i restauracji unikalnych pomników białoruskiej architektury oraz malarstwa sztalugowego i ściennego. Jestem bardzo wdzięczny, że dzięki Pana pracy zostały zakonserwowane następujące obiekty zabytkowe na Białorusi: a) wszystkie ołtarze Pińskiej Katedry, b) sceny z życia Św. Franciszka w Pińskim Seminarium, c) odkrycie i konserwacja polichromii w Mińskiej Katedrze, d) pełna konserwacja cudownych obrazów Matki Boskiej Łagiszyńskiej, Komajskiej oraz wielu innych dzieł. To dzięki Panu ocalone zostały unikalne świadectwa historii Białoruskiej Kultury. Serdecznie za wszystko dziękuję. Pasterskim Błogosławieństwem darzę Pana, Jego Rodzinę i wszystkich bliskich. Szczęść Wam Boże!

Arcybiskup Metropolita Mińsko-Mohylewski
Apostolski Administrator Diecezji Pińskiej

Mińsk-Pińsk 21 X A.D 2010

*«Из пепла нам блеснул алмаз».* Азірніцеся і задумайцеся, што пакінуў пасля сябе на зямлі і ў людскіх душах першы ў гісторыі Беларусі ксёндз кардынал Казімір Свёнтэк.

...часам, затрымаўшыся на рыштаваннях перад пачаткам святой Імшы, я назіраў, як збіраліся на набажэнства бабулькі, пажылыя жанчыны, і думаў: што адчувае ён, энергічны, быццам з заведзенай тугой спружынай унутры, калі бачыць сваю нешматлікую паству, — гэткае бесперспектыўнае зборышча...

Касцёл дзіўна абуджаўся. Няўлоўнае рэха скрыпаў, крокаў, шорахаў, шэптаў і ўздыхаў раставала пад высокім скляпеннем. Быццам самі па сабе запальваліся свечы...

Аднойчы, звярнуўшы ўвагу на нязвыклы гук, я ўбачыў, як ад самых дзвярэй касцёла жанчына на каленях перасоўвалася ад алтара да алтара. І ёй, думаў я, напэўна ж, не чужая ўся гэтая прыгажосць, напэўна ж, радуе велічнасць барока і сэрца напаўняе захапленне ад буяння пазалочанай разьбы, але, лабызаючы бліскучыя драўляшкі дэкору, яна, безумоўна, і не памышляе ні пра якія стылі і нават не памятае пра тое, што ксёндз прасіў жа не дакранацца да свежай пазалоты, каб не папсаваць яе. Жанчыне, разумеў я, не да дробязяў, нават калі яны і шэдэўры мастацтва, — яна моліцца... І я ёй нават пазайздросціў, не ўсведамляючы добра, чаму зайздрошчу...

Мне хацелася быць у касцёле не староннім, а сваім і, апрача таго, што я сам бачыў і разумеў, хацелася бачыць і разумець яшчэ і вачыма, розумам і душою веруючага чалавека. Як бы я ўспрымаў прыгажосць сакральнага мастацтва, калі б быў веруючым? — думаў я.

*«Искания мои привели меня в смятение»*... Святы Аўгустын адрозніваў два пачуцці: жаданне прыгожага і страх, што эстэтычная асалода запануе над поўным пашаны малітоўным настроем.

Жаданне прыгожага заўсёды было не чужым мне, эстэтычная асалода — таксама, але страх мяне не палохаў... бо малітоўны настрой быў мне невядомы.

Пакутліва разумеючы гэтую сваю павярхоўнасць, сваю няпоўнасць, я, назіраючы ксяндза Казіміра, намагаўся пранікнуць і зразумець... хоць я і сёння добра не ведаю, што я хацеў зразумець. Проста прыглядваўся і ні пра што не пытаўся... бо недзе прачытаў і ўнутрана пагадзіўся з думкаю пра тое, што досвед веры не перадаецца.

З лёгкай бояззю праходзячы каля змрочных канфесіяналаў, я ўсё ж асмельваўся зазірнуць скрозь разьбу кратаў, што прапускалі людскую праўду да вушэй святара ў прыцемкі, якія, здавалася, яшчэ больш згушчаліся ад перапаўняўшых іх шэптаў. Гледзячы на ксяндза, я не мог зразумець, як можна гэтак весела і ласкава кантактаваць з людзьмі, захоўваючы ў сабе іх тайны, грахі і пакаянні. Ён здаваўся вельмі дасведчаным, разумным, мудрым і надзвычай адукаваным чалавекам, і я не разумеў, што ў яго агульнага з цёмнымі, аджыўшымі свой век бабулькамі.

Мае сумненні ў яго шчырасці, за якія мне сорамна і сёння, хутка зніклі, але, нават сумняваючыся, я не пераставаў захапляцца святаром, убраным у залататканыя адзенні, якія пераманялі яго да непазнавальнасці і рабілі яго фігуру падобнаю да аднаго з паліхромных упрыгожанняў алтара. Вякамі нязменныя строі натуральна ставілі яго ў святарскія шэрагі, пачатыя тысячы гадоў назад.

...Мне падабаліся дзеці, апранутыя ў асляпляльна белыя карункавыя комжы, якія надавалі ім нешта анёльскае. Падабаўся гук званочка, які абвяшчаў пачатак святой Імшы, — ён ліўся, быццам з нябёсаў. Падабаўся водар язміну ў прыцемках касцёльнай прахалоды — белыя кветкі таксама пераўтвараліся, упрыгожваючы алтар. Самыя простыя расліны раптам набы-

валі дзіўную боскасць, перад якою згасала рукатворнае майстэрства старажытнай разьбы па дрэве і жывапісе.

Мне падабалася бачыць, як шызы дым кадзіла адрываецца ад разгайданых на ланцужках кадзільніцаў і, падхоплены гукамі арганаў, узносіць малітвы парафіянак да выгнутых скляпенняў, у недасяжную вышыню.

Падабаўся абмен знакам супакою з незнаёмымі людзьмі.

Каталіцкая абраднасць вабіла мяне. Няведанне польскай мовы не перашкаджала спасцігаць значнасць таго, што адбывалася на маіх вачах. Магчыма, нават садзейнічала. Не паглыбляючыся ў сутнасць словаў, я паглыбляўся ў хрысціянскую сімволіку, у мелодыку і рытміку святой Імшы, адчуваючы подых часу, які страчваў сваю хуткасць у ззянні барока. Мне здавалася, што я чую паланэз, пад гукі якога белая прасціна, прыціснутая Мацекам да грудзей, афарбоўвалася крывёю. У чорна-белым фільме чорнае падавалася чырвоным... але гэта «так і між іншым», як казаў ксёндз Казімір Свёнтэк...

Эстэтыка запаланіла мяне.

...не назаву сябе добрым католікам, і ніхто не назаве. Маё месца сярод катэхуменаў, бо падчас набажэнства мне больш звыкла проста слухаць голас святара, хрысцячыся на рыштаваннях пад столлю касцёла, у той час як парафіяне, укленчыўшы, моляцца перад алтаром. Але і сярод катэхуменаў для мяне прыдатнае месца, бо і яго магло не быць і жыў бы я за дзвярыма касцёла, магчыма, нават не шкадуючы пра сваё няведанне.

Прынцыповасць і стаўленне да веры Казіміра Свёнтка не дазваляюць мне перасекчы мой *limbus*, перайсці мяжу нартэкса.

...Ведаю, што ва ўласцівай яму манеры, іранічна скрывіўшы куточак вуснаў, ён бы выказаў сваё стаўленне да маёй нерашучасці і ляноты, да маіх квяцістых развагаў пра лімбы і нартэксы... аднак гэтак і ёсць, а ён больш за ўсё не выносіў ханжаства. Перад ім не трэба было імкнуцца ствараць пра сябе добрае ўражанне, тое, што сёння называюць іміджам. Трэба было проста заставацца сабою з усімі сваімі слабасцямі і неразумнасцю. Зрэшты, гэта не так проста, як здаецца, але затое можна было без аглядкі аддавацца сваёй справе, не сумняваючыся ў тым, што яна будзе справядліва ацэненая. Добрая праца выклікала ў яго шчырае захапленне і радасць. Здавалася, што іншай узнагароды і не трэба. Аднак ён не забываўся, што ў час развітага сацыялізму ўсялякая праца ацэньвалася грашыма.

...настаў і мой час, і я па волі Божай сказаў у сэрцы сваім: няхай станецца воля Твая, Божа! І пераканаўся, што досвед веры сапраўды не перадаецца. І прыняў сакрамэнт хросту сярод рыштаванняў амаль адроджанага касцёла, і атрымаў права посахам ці мечам крэсліць на зямлі рыбу — таемны знак першых хрысціянаў. Каб пазнаваць адзін аднаго. Каб ён пазнаваў мяне... Дарэчы, пра рыбу: ён быў вельмі азартным і ўдалым рыбаком.

Вярнуўшыся ў Пінск пасля дзесяцігадовай адсутнасці, згаладаўшыся ў зоне вечнай мерзлаты па благадаці беларускай зямлі, ён, здаралася, прападаў на Ясельдзе. Прывыкаў да адзіноты вольнага чалавека. Цешыўся яднаннем з прыродаю ў чаканні добрага ўлову. Здаралася, у рыбацкім азарце вылоўліваў столькі, што спыняўся толькі тады, калі перапоўненая ляшчамі, яршамі, плоткамі, акунямі, карасямі і шчупакамі лодка пачынала чэрпаць бартамі ваду... і што загадаеце потым рабіць з гэтаю рыбаю?

Мяхі з уловам ён перакідваў праз сядзенне свайго матацыкла, і ўсе насельнікі вуліцы Шаўчэнкі тыдзень харчаваліся свежаю рыбаю... але гэта «так і між іншым», як любіў часам гаварыць ксёндз Казімір пра ўсё, што не тычылася інтарэсаў Касцёла і веры.

...падманваючы сябе, уяўляю, што ён ненадоўга з'ехаў у Рым ці ў Парыж... ці ў Баранавічы (усё роўна не відаць і не чуваць). І думаю, а чаму не ўявіць (калі ўжо пачаў уяўляць), што ён на Небе, «на высакосцях»? Таксама ж не ўбачыць і не пачуць, як за мяжою, дзе я ніколі не бываў... дзе галінкі дрэваў поўныя залатымі пладамі, якія прыводзяць яго ў дзіцячае захапленне, бо растуць проста над галавою, насычаючы залатое паветра сваім тонкім водарам аж да самага неба.

...І быццам аднекуль адтуль, дзе вечнае існаванне пануе ў гармоніі з усім стварэннем, дзе няма зла, пакутаў і хваробаў, да мяне раптам прыйшло... яго прывітанне. Нечаканае прывітанне з іншага вымярэння, пастырскае благаслаўленне мне і маім блізкім. Унукі змогуць ганарыцца... некалі потым. Бо мая праца ўзнагароджаная яго падзякаю, засведчанай яго подпісам: з яго архіваў мне раптам перадалі ад яго грамату...

...і «я відушчым бачу зрокам», як знаёмая рука з шырокім запясцем, заплямленая крапам старасці, спазнаўшая цяжкую працу і невыносны холад, упрыгожаная пярсцёнкам, які з даўніх часоў сімвалізуе адданасць Касцёлу і кардынальскую годнасць, быццам раскручваючы спружыну, вымалёўвае подпіс почыркам, які сфармаваўся больш за 75 гадоў назад за партаю Пінскай духоўнай семінарыі.

Уласнаручны росчырк кардынала Казіміра Свёнтка і яго пячатка, узятыя ў рамку на дарагім для мяне дакуменце, цяпер упрыгожваюць сцяну ў маёй майстэрні, і я быццам адчуваю дабратворную прысутнасць яго асобы.

Працягваю, як і раней, гаварыць пра яго і размаўляць з ім, бо ён... застаўся для мяне прыяцелем і пасля смерці.

І часам ён нават адказвае мне...

Ева ЛЯВОНАВА

# «АНЁЛЫ Ў ПОШУКАХ ЦЯБЕ...»

## КАНЦЭПТ *«АНЁЛ»* У ПАЭЗІІ РАЙНЕРА МАРЫЯ РЫЛЬКЕ: СЕМАНТЫКА, ПАЭТЫКА, МАСТАЦКІ КАНТЭКСТ

*Неабходна цярплівасць анёла, каб усё апынулася на сваіх месцах.*
Вім Вендэрс

Пяцьдзясят адзін год пражыў геніяльны аўстрыйскі мастак слова Райнер Марыя Рыльке (1875–1926), і ўсё яго жыццё было асвечана роздумамі пра Бога. Нядзіўна, што нават смерць паэта, якая сталася вынікам невылечнай хваробы — лейкеміі, бачылася некаторым яго сучаснікам як своеасаблівы пераход на «новае месца», як здабыванне «новага гуку» і «новага рэха», як «новае пасвячэнне». *«В небе лестница, по ней с Дарами... // С новым рукоположеньем, Райнер!»* – пісала Марына Цвятаева ў сваім вершы-рэквіеме, вершы-плачы «Навагодняе»[1].

У асобе Рыльке Бог, бясспрэчна, знайшоў аднаго са сваіх найвялікшых песняроў і непараўнальных суразмоўцаў. Адметнасць звернутай да Бога рылькеўскай паэзіі, у прыватнасці, у тым, што яна не была апалогіяй канкрэтнай рэлігійнай догмы. Невыпадкова суайчыннік Рыльке, вядомы аўстрыйскі пісьменнік Роберт Музіль у сваёй «Прамове пра Рыльке» гаварыў: «Ён быў у пэўным сэнсе самым рэлігійным паэтам пасля

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.

Наваліса, аднак я не ўпэўнены, ці была ў яго наогул якая-небудзь пэўная рэлігія» (цыт. па: 2, 251). Ёсць сведчанні (напрыклад, Штэфана Цвэйга), што амаль неад'емнымі атрыбутамі ў інтэр'еры пакоя Рыльке, дзе б ён яго ні здымаў, звычайна былі і руская ікона, і каталіцкі крыж. Рэлігійнасць аўстрыйскага паэта — гэта, хутчэй, пэўны стан душы, шукальніцы і пакутніцы, які можа быць аднолькава ўласцівы любому хрысціяніну, наогул любому верніку, і зусім не абавязкова каардынуецца з цалкам канкрэтнай канфесіяй.

Вячаслаў Іванаў, расійскі паэт, філосаф і гісторык літаратуры, пісаў у свой час пра тое, што толькі на першы погляд рэлігійная праблема «ўяўляецца дваякай: праблемаю аховы рэлігіі, з аднаго боку, праблемаю рэлігійнай творчасці — з іншага. Насамрэч яна застаецца адзінай. Без унутранай творчасці жыццё рэлігіі захаваным быць не можа — яна ўжо мёртвая» (3, 162). Калі ўнутраную рэлігійную творчасць разумець не толькі як адданасць пэўным канонам, але — і найперш — як свядомае тварэнне Бога ў сабе і сябе для Бога, як духоўнае будаўніцтва, маральнае самаўдасканальванне, як здабыванне гармоніі з хаосу навакольнага свету, тады мы гэтае адзінства знойдзем менавіта ў Рыльке. Спрабуючы суцешыць свайго адрасата, паэта і вайскоўца ў адной асобе, Рыльке раіць: «...запытайцеся ў сябе, мілы N., ды ці сапраўды Вы Бога — згубілі? А што калі Вы Яго яшчэ ніколі не знаходзілі? Бо — калі ж гэта магло быць? Няўжо Вы думаеце, што дзіця можа Яго абняць, Яго, якога мужы нясуць з цяжкасцю?.. Няўжо Вы думаеце, што, насампраўдзе Яго знайшоўшы, можна згубіць Яго, як каменьчык?.. Чаму Вы не думаеце, што Ён — ад веку наступны, Той, хто мае адбыцца, будучы, канечны плён дрэва, лісце якога — мы. Што Вам перашкаджае перакінуць Яго нараджэнне ў будучыню і жыць сваё жыццё як балючы і цудоўны дзень у гісторыі вялікай цяжарнасці? Ці ж не бачыце, як усё, што здараецца, заўсёды здараецца спачатку... і які сэнс мелі б мы, каб Той, каго мы прагнем, ужо быў?» (4).

У сваім «Фларэнційскм дзённіку» 6 ліпеня 1898 г. малады Рыльке робіць наступны глыбока метафарычны запіс: «Якім шляхам іншыя далёкія светы будуць спец да Боскасці – я не ведаю. Але я ўпэўнены, што для нас дарогай да яе з'яўляецца мастацтва, бо сярод нас ёсць мастакі, Вялікія Згаладалыя, якія ўбіраюць у сябе ўвесь сусвет і бесперапынна мяняюцца, якія ніколі не будуюць сабе дому, але, заглядзеўшыся ў вечнасць, над дахамі дамоў прасякаюць стагоддзі... Цяпер я ведаю, што мы — продкі Бога і што толькі мы ў нашай найглыбейшай адзіноце, крок за крокам рухаючыся наперад, скрозь тысячагоддзі ідзем пакрысе да Яго вытокаў» (цыт. па: 5, 376).

Паэт неаднойчы прызнаваўся ва ўласнай набожнасці, якая ад самага пачатку праяўлялася ў яго творчасці, імкнулася, кажучы яго словамі, «набыць сваё імя». Біблія была адным з яго ўлюбёных чытанняў. Цягам усёй сваёй творчасці Рыльке будзе зноў і зноў чэрпаць са скарбніц яе духоўнасці, з назапашаных у ёй эстэтычных адкрыццяў, з яе, нарэшце, вобразнасці, адным з найважнейшых складнікаў якой з'яўляецца, бясспрэчна, ангелары, анёларый. Анёлы — адна з выразных дамінантаў мастацкага свету Рыльке, невыпадкова яны часта згадваюцца нават у пакінутых сучаснікамі паэта вызначэннях яго асобы. «Анёлы не былі для яго аздобай верша або паэтычным жэстам, ён жыў у двух светах адначасна, — гаварыў у сваім развітальным надтрунным слове адзін з прамоўцаў, — і калі ў каго-небудзь, хто беспрычынна і несвядома ўзіраўся ў яго, раптам з'яўляліся слёзы, прычынай гэтаму быў, напэўна, не ён, бо ён быў толькі паслом. Прычынай было тое, што дзякуючы паэту неверагодная духоўная краіна з году ў год знутры пашырала свае межы, пакуль не занесла яго цалкам у свае глыбіні. Гэта і толькі гэта мае месца ў яго кнігах, і якраз менавіта гэта чыталася ў яго твары» (6, 166).

Такое ж уражанне асоба паэта будзе выклікаць ва ўдзячных чытачоў і праз дзесяцігоддзі пасля яго смерці: «Херубімскім вандроўцам» прайшоў Рыльке па лёсаносных і пагібельных дарогах гэтага стагоддзя, кідаючы на «бясплодную зямлю» жыватворнае насенне мудрасці, парасткі якой у ваяўнічай апантанасці сваёй не ўбачыла XX стагоддзе (убачыць, можа, XXI)» (7, 72). «Вестуном» Боскай волі, «кіроўцам», але і нястомным богашукальнікам бачыўся Рыльке знакамітаму нямецкаму філосафу Марціну Хайдэгеру. Як бы там ні было, але, мусіць жа, невыпадкова папа Ян Павел II у адной са сваіх энцыклік цытаваў верш Рыльке «Звеставанне», прычым, што характэрна, не як лірычнае, а як багаслоўскае адкрыццё (звесткі пра гэта ёсць у адным з інтэрв'ю вядомай расійскай паэткі, перакладчыцы твораў Рыльке Вольгі Седаковай (гл.: 8).

Вобразы анёлаў — адзін з магутных і відавочных фактараў унутранай цэласнасці мастацкага космасу Райнера Марыя Рыльке. Не будучы адназначна прыналежнымі ні да суб'ектыўна-эмацыянальнай, ні да рацыянальнай сфераў і пры гэтым з'яўляючыся выключна духоўнымі істотамі, пасланцамі і выканаўцамі волі Бога, анёлы ў паэзіі Рыльке, як і ўсе астатнія яе канстанты, аказваюцца захопленымі плынню сусветнага жыцця, светапрастораў, у якой асаблівым чынам суіснуюць чалавек, прырода і іншыя «рэчы» (Dinge), дзе ўсё адзначана ўлюбёнай рылькеўскай «Bezug» – узаемасувяззю, суадноснасцю, і падлягае арганічнай зменлівасці, дзе пераживан-

не, душэўны стан абыртаецца «прадметам», «рэччу», а рэч, прадмет, неадухоўлены і нават неадушаўлёны, раскрывае сваю «душу», свой унутраны свет, набывае дынаміку, цякучасць, можа мігцець, трапятаць, усміхацца, дапытліва і насцярожана ўзірацца ў чалавека і наваколле. Зменлівымі, але нязменнымі ў сваёй вызначальнай сутнасці паўстаюць і рылькеўскія анёлы; ад кнігі да кнігі іх вобразы ўскладняюцца, усё больш індывідуалізаваным становіцца мастакоўскае бачанне прыроды анёлаў, іх прызначэння, стасункаў з Богам і чалавекам.

У адным з ранніх твораў, вершы «Анёл» са зборніка «Ахвяры ларам» («Larenopfer», 1895), надтрунны анёлак з паламаным крылцам, пакрыты пылам, самотны і адзінокі, успрымаецца як тужліва-скрушнае ўвасабленне сумнага лёсу памерлых дзяцей, як журботны сімвал жыццяў, што так і не паспелі расквітнець. Да месца заўважым, што матыў пакінуўшых гэты свет дзяцей будзе суправаджаць анёльскую вобразнасць скрозь усю паэзію Рыльке. Душы «рана памерлых», «дачасна памерлых» мроіліся яму анёламі; як вядома, маюцца паданні (і заснаваныя на іх мастацкія творы), паводле якіх анёлы і ёсць дзіцячыя душы, якім пашчасціла трапіць у рай.

Іншымі, стрымана-радаснымі настроямі поўніцца, напрыклад, верш «І як да цябе каханне прыйшло...» з кнігі Рыльке «Увянчаны марамі» («Traumgekrönt», 1896); тут да анёла прыпадабняецца каханне:

*...Адкрыла каханне ў нябёсах акно,*  
*і, крылы згарнуўшы, упала яно*  
*мне ў сэрца і закрасавала...* (9, 14).

Дастаткова зразумела, што такога роду інтэрпрэтацыі вобразаў анёлаў, па сутнасці, палягаюць у рэчышчы папярэдняй літаратурнай ды і ўласна хрысціянскай традыцыі.

Далейшае сваё развіццё яны знаходзяць у наступных кнігах паэта. У вершы «Доўга анёл у цішыні заставаўся са мною...» з кнігі «Мне на свята» («Mir zur Feier», 1899; у значна перапрацаваным выглядзе кніга выйшла ў 1909 г. пад назвай «Раннія вершы» — «Die frühen Gedichte») анёл і чалавек, прайшоўшы адну і тую ж навуку суіснавання на зямлі, займелі плёнам розныя вынікі: анёл «навучыўся палёту», неба спасціг і — не без спагады, спачування і дапамогі чалавека — адужаў зямное прыцягненне, вырваўся з яго палону і вярнуўся ў нябёсы, чалавек жа «жыццё вывучыў» і яму застаўся адданым. Цяпер з вуснаў лірычнага героя гучыць кранальнае прызнанне ў іх з анёлам пакорлівым узаемаслужэнні (з-за адсутнасці беларускага перакладу цытуем рускі):

*Долго ангел в тиши оставался со мной,*  
*обаял меня послушаньем*  
*и маленьким стал, я же вырос большой,*  
*и вдруг я стал состраданьем,*  
*а он – одной лишь дрожащей мольбой.*

*И тогда небеса я ему возвратил,*  
*я же здесь остаюсь, где он вышел из плена.*  
*Он учился полётам, я жизнь изучил,*  
*и друг другу мы служим смиренно*  
(10, 121; пер. А. Биска).

Ужо тут можна заўважыць пэўны адыход Рыльке ад кананічнай традыцыі: не Бог, а чалавек з жалю і шкадавання да «маленькага» паслухмянага анёла вяртае яму неба. З іншага боку, цалкам магчыма, што гэткае прачытанне — досыць павярхоўнае з-за яго прамалінейнасці. Сапраўды, ці ж не можа быць так, што якраз анёл у сваёй бязмежнай спагадзе да чалавека даў яму магчымасць адчуць сваю духоўна-душэўную сілу; спакваля дорачы ўзор паслушэнства і любові, анёл «выхаваў» яго, прывёў да такога стану, калі чалавек раптам «стаў спачуваннем», і толькі пасля гэтага анёл палічыў мажлівым вярнуцца ў неба — са спадзевам на далейшае служэнне адно аднаму і Богу?

Наступным крокам да індывідуалізацыі і паглыблення вобразаў анёлаў, як, зрэшты, і наогул пытанняў веры, узаемадачыненняў чалавека з Богам, стаў паэтычны зборнік Рыльке «Кніга гадзін» («Das Stunden-Buch», 1899–1903. Ва ўсіх шматлікіх рускіх перакладах – «Часослов». Першапачаткова гэтаксама — як «Часаслоў» — падаваў назву зборніка ў перакладзе на беларускую мову і В. Сёмуха; гл.: 9, 15). «Кніга гадзін», з якой і пачалася слава паэта, у вялікай ступені была падрыхтавана вопытам двух знаходжанняў Рыльке ў Расіі — у 1899 і 1900 гадах. «Кнізе гадзін» наканавана было стаць адным з самых магутных у сусветнай паэзіі ўвасабленняў духоўнага досведу чалавека, дакладней — патаемнага, глыбока інтымнага, надзвычай складанага працэсу яго фармавання. Невыпадкова Марына Цвятаева ў сваім лісце-хваласпеве да Рыльке пісала: «Той свет (не царкоўна, хутчэй геаграфічна) ты ведаеш лепей за гэты, ты ведаеш яго тапаграфічна, з усімі гарамі, астравамі і замкамі. Тапаграфія душы — вось што ты такое. І тваёй кнігай (ах, гэта была не кніга — гэта стала кнігай!) пра беднасць, паломніцтва і смерць ты зрабіў для Бога больш за ўсіх філосафаў і прапаведнікаў разам» (цыт. па: 5, 320–321). Усе тры цыклы «Кнігі гадзін» — «Кніга пра манаскае жыццё» (1899), «Кніга пра паломніцтва» (1901), «Кніга пра галечу і смерць» (1903) — гэта своеасаблівае адзінае цэлае, звернуты да Бога маналог, які склалі незвычайныя па напале душэўнага самараскрыцця (нават — самаўскрыцця!) малітвы, малітвы-споведзі і малітвы-сумненні, малітвы-скаргі і малітвы-абяцанні. Складанасць адлюстраваных у «Кнізе гадзін»

узаемазносінаў чалавека з Богам абумоўлена яшчэ і тым, што ў яе падзейна-вобразнай сістэме бярэ актыўны ўдзел мастак — стварэнне Бога, але і сам — стваральнік, творца духоўна-маральных і эстэтычных каштоўнасцяў, які прэтэндуе на ўласную ролю калі не ў светастварэнні, дык у светаіснаванні («Тварцы, яны — як Ты, браты Твае». – 11, 88). Палітра звернутых да Збавіцеля пытанняў, пачуццяў і эмоцый неабсяжна разнастайная і супярэчлівая («...*мой* Бог — Ён цёмны...» — 11, 9; тут і далей вылучана аўтарам; «Ты – супярэчнасцяў няпролазь...» – 11, 52): ад бязмежнай удзячнасці і адданасці («А сам расту я з цеплыні *Ягонай...*» – 11, 9), пакорлівасці і спачування Богу ў Яго адзінотнай самоце («...я знаю — Ты адзін, Гасподзь... // Дай знак — і я прыйду, Твой раб». — 11, 12), прызнання Яго ўсёўладдзя («Нават, калі мы не хочам: *спеліць Гасподзь*». — 11, 22), спагадлівай пяшчоты («...а ты з гнязда зваліўся, // як жоўталапенькае птушаня, і мне шкада цябе...» — 11, 27), роспачы і страху («Я чую: ў сотні розных месцаў // баліць мне моцна і, здаецца, // найбольш у сэрцавіне сэрца», нібы «мой пульс // з мяне прарвецца». — 11, 29), пакаяння і надзеі на Яго ўсёдаравальнасць («Божа, даруй, калі дзёрзкага нагаварыў». — 11, 18), філасофскага разумення Яго ўсюдыіснасці («Ва ўсім знаходжу я Цябе, шматлікі...» — 11, 28) і жыццядайнай сілы («Богкорань плод панёс...» — 11, 40) да ўсведамлення — нават перад Яго тварам — уласнай чалавечай велічы, да пераканання, што Бог мае патрэбу ў чалавеку не меншую, чым чалавек — у Ім («...і стаўся я Тваім вачам вялізнай // прасторай, каб глядзець». — 11, 24), жадання годнасці і асобаснай самастойнасці («Заўсёды хачу ў Тваім вобразе жыць... // Не хачу ніколі згінацца, // бо ілжа ў сагнутасці і ў паклонах...» — 11, 19), усвядомленасці свайго Яму падпарадкавання («...хачу стаць у ісціне перад Табой, // хачу сябе ўбачыць, як на іконах // вобраз далёкі Твой // і блізкі, і любы, // як слова, што розум мой кліча, // як дзённы мой кубак, // як мамы святое аблічча, // як карабель, // што пранёс мяне // праз смяротныя буры і згубы». — 11, 19). Галоўнае ж адкрыццё, якое робіць для сябе лірычны герой на шляху свайго духоўнага выхавання і якое, кажучы словам Рыльке, ён у сабе «спеліць» у спадзеве на душэўны супакой, — гэта тое, што Бог адзіны для ўсіх, што «праз шматмільнае «маё»-маленне, // праз слуханне і цераз адмаўленне... // *адзіны* Бог, як хваля, як прысуд» (11, 40).

Цалкам заканамерна, што адпаведнай супярэчлівасцю і нават антынамічнасцю пазначана ў «Кнізе гадзін» і асэнсаванне вобразаў анёлаў. Чаргаванне пачуццяў, якімі суправаджаецца іх з'яўленне на старонках кнігі, у пэўным сэнсе хвалепадобнае. З аднаго боку, вера лірычнага героя ў Бога настолькі моцная, што яна ў стане ўзняцца «вышэй анёлаў» і замест іх паслужыць Богу апірышчым, падставіць яму «сваё крыло». Падобнымі да спеваў херубіма («...усе спявалі, як херувім...») чуюцца спевы тых, хто спазнаў «росквець Божай вясны» і здабыў «свой скарб». Да анёлаў звяртаецца ўсё той жа лірычны герой-манах з просьбай быць для людзей «сховішчам ад злосці чорнай», якая зводзіць «невымоўнае» і ад якой цяжка ўратавацца нават у раі:

*Будзь сховішчам ад злосці чорнай,*
*што невымоўнае звяла.*
*А ноч жа і ў раі была:*
*будзь пільны вартавы з трубою,*
*каб мовілі: труба гула* (11, 50).

Яскравай выявай эмацыянальна-пачуццёвага экстазу, «малітоўнага ўздыму» верніка паўстае верш «Вяртаюся дамоў са сноў...»:

*Як вецер, быў я ўвесь — парыў,*
*святлом расплыцца мог,*
*я быў з анёламі ўгары,*
*дзе ўсё Нішто, і дзе тварыў*
*глыбока-цёмны Бог* (11, 56).

Але і анёлы, як бы блізка да Бога яны ні знаходзіліся, не заўсёды ў стане адшукаць Яго — «госця залатога», «цара камет і гукаў»:

*Анёлы ў пошуках Цябе — а хоць бы*
*знайсці і вывучыць у бляску золкім,*
*ды лбамі натыкаючца на зоркі,*
*ні з бляску не здабыўшы, ані з поцьмы*
(11, 34).

Асаблівай разгалінаванасцю сэнсаў адметны верш «Я той, паслужлівы Твой паслух...» Гэта свайго роду рэестр няшчасцяў, што апанавалі людзей, усіх небаракаў, ад імя якіх і звяртаецца манах да Бога — Таго, хто ёсць «заступнікам рэчаў і жывёлаў», хто «ўсім дае жыццё і смерць», але без спагадлівай увагі пакідае сваіх паслушнікаў, асуджаючы іх на «цемрадзь нары», на скляпы і сутарэнні. Не ў стане яны абудзіць спачуванне і ў пасланцоў Бога — «немыя анёлы». Не яны, светлыя і чыстыя, падаюць чалавеку знакі, а «веснік», некалі нізрынуты з нябёсаў, «у чорнай мантыі», «цёмны і чарней за ноч», той, хто заўсёды напагатове, нібы толькі і падсцерагае, каб апынуцца «Адзіным Чувальцам» скрушных пытанняў чалавека і адзіным спакушальным адказам на іх.

У вершы «З акна ўпадзе прадмет калі...» дакоры скіраваныя ўжо супраць саміх людзей, дакладней — тых з іх, хто «з пустой нязгоды» з «мудрымі сіламі» імкнецца «ў пустую тхлань ілжэсвабоды», адмаўляецца ад спакойнага і радаснага ўзрастання і ў кім расчараваныя нават анёлы, якія ў адчаі пакідаюць усякія спробы навучыць чалавека жыць «нанова, як дзіця»:

*Бо ўжо й анёлы больш не ў лёце.*
*Як птушкі ў стоме – серафімы,*
*сядзяць вакол* ***Яго****, і мыслі з імі...* (11, 94).

Але вось хваля сумнення і адчаю змяняецца

хваляй даверу да «вялікай тайнасці» Боскага светаўладкавання, а адчуванне пакінутасці — разуменнем неабходнасці пакласціся на волю Бога і пачувацца «ў добрасці Ягонай і ў руцэ», нібы «на ціхім караблі пад знакам Божым // на паўнаводнай велічнай рацэ». Адбываецца нечуваны эмацыянальны і духоўна-свядомасны перелом: толькі што анёлы былі «не ў лёце», «як птушкі ў стоме», а тут перад чытачом паўстае магутная ўтапічна-фантастычная метафара — вобраз прасторы-часу, што плыве ў вечнасць «на ветразях анёлаў лёгкакрыла».

Ды не быў бы Рыльке тым мастаком, якім мы яго ведаем, — не так паэтам адказаў, як паэтам пытанняў і сумненняў, паэтам-філосафам, паводле дыялектыкі якога (і дыялектыкі самога існавання чалавека і свету) дзень змяняецца ноччу, святло змагаецца з цемрай, жыццё ўраўнаважваецца смерцю, каб эпічна-высокая метафара анёлаў-караблёў не набыла іншае сэнсавае адценне — шчымліва-журботнае («тулягі вечнай хвалі») і каб, урэшце, не саступіла месца прыземленаму, але не менш семантычна насычанаму вобразу воза з канём, заўсёдна гатовага павезці ў апошні шлях, даставіць туды, «дзе ў вечнай цемрадзі знікае // дарога доўгая і лёс...». І зноў драматызуецца атмасфера твора, зноў перад вачыма чытача праходзяць беспрытульныя жабракі, зняверания пакутнікі, жывыя нябожчыкі, нямоглыя целам і духам, «атуленыя прахам», «акрытыя тлом», а не белым крылом херубіма. Вось ужо насамрэч, «адны, без анёлаў...»

Але і гэтае перажыванне-адчуванне — не апошняе: жах і роспач ад чужой смерці-прыжыцці чаргуюцца з надзеяй на размыканне прасторы-часу, калі ўсё навокал «зноў будзе велічным, былінным...» і «плот залішнім стане»; з'яўляецца ўсведамленне неабходнасці «служыць зямному... ў свеце, // каб потым годна развітацца з ім», бо толькі ў такім разе магчымым будзе «вяртанне», уваскрэсенне — няхай толькі «ў гуках струн сваіх», і мажлівымі стануць іншыя — высвечаныя яснотаю — «і твар, і святасць, і анёл».

Яўленне анёлаў адбываецца і ў перадапошнім вершы трэцяга цыкла «Кнігі гадзін» («Кніга пра галечу і смерць») — «О, дзе ён, дзе ён, часу валадар...». Гэта адзін з самых расчулена-кранальных твораў Рыльке, хваласпеў Богу, які «прыйшоў з святла, святло ўзвялічыў», апладніў сэрцы і розумы, і Яго пасланцам-анёлам, гімн шчырым вернікам, да кожнага з якіх «спусціўся херувім» з чаканай добрай весткай: «...і прынялі яго як дар жывой прыроды, // і плоднасць даравана была ім».

Як бачым, анёлы — пры тым, што горні свет прадстаўлены тут (кажучы словамі расійскага вучонага, знаўцы і перакладчыка паэзіі Рыльке А.В. Карэльскага) самай «вышэйшай інстанцыяй» (12, 274), – Богам, займаюць вельмі істотнае месца ў духоўнай парадыгме «Кнігі гадзін». У вялікай ступені менавіта вобразамі анёлаў у ёй зададзены тыя маральныя імператывы, якімі з біблейскіх часоў і па сёння мусіць кіравацца чалавек, заклапочаны ўласным удасканальваннем.

*Заканчэнне будзе.*

Літаратура


1. Цветаева М. Новогоднее. – Электронный ресурс. Режим доступа: www.stihi-xix-xx-vekov.ru/cvetaeva-poems6.html. Дата доступа: 18.01.2013.
2. Гандельсман В. Поэзия как религия // Иностранная литература. 2006. 2.
3. Иванов Вяч. Родное и вселенское. – Москва, 1994.
4. Рильке Р.М. Письма к молодому поэту. – Электронный ресурс. Режим доступа: www.stihi.ru/ 2006/02/11–437. Дата доступа: 18.01.2013.
5. Хольтхузен Г.Э. Райнер Мария Рильке, сам свидетельствующий о себе и о своей жизни (с приложением фотодокументов и иллюстраций) / Пер. с нем. – Челябинск, 1998.
6. Braun F. Aus einer Traurrede // Holthusen H.E. Reiner Maria Rilke. – Hamburg, 1998.
7. Свасьян К. Голоса безмолвия. – Ереван, 1984.
8. Урок Целана: С Ольгой Седаковой беседует Антон Нестеров // Контекст 9. 1999. 4. – Электронный ресурс. Режим доступа: omiliya.org/article/urok- tselana.html. Дата доступа: 12.03.2012.
9. Рыльке Р.М. Санеты Арфею: Лірыка / Пер. з ням. В. Сёмухі. – Мінск, 1982.
10. Рильке Р.М. Книга образов. – Санкт-Петербург, 1999.
11. Рыльке Р.М. Кніга гадзін / Пер. з ням. В. Сёмухі. – Мінск, 2005.
12. Карельский А. От героя к человеку: Два века западноевропейской литературы. – Москва, 1990.
13. Музиль Р. Речь о Рильке / Пер. с нем. А. Белобратова // Нева. 1997. 6.
14. Падрабязней пра гэта гл. у нашай кнізе: Леонова Е.А. Немецкая литература XX века: Германия. Австрия. – Москва, 2010.
15. Рильке Р.М. Письмо к Лу Андреас-Саломе // Р.М. Рильке. Собр. соч. в 3 т. Т. 3. – Харьков; Москва, 1999.
16. Сведенборг Э. Истинная христианская религия / Пер. с англ. – Электронный ресурс. Режим доступа: lib.guru.ua/ HRISTIAN/SWEDENBORG/ tcr.txt. Время доступа: 18.01.2013.
17. Разанаў А. Сума немагчымасцяў: Зномы. – Мінск, 2009.
18. Лосский Н.О. Бог и мировое зло. — Москва, 1999.
19. Новая лирика Р.М. Рильке: Семь рассуждений (Ольга Седакова). – Электронный ресурс. Режим доступа: omiliya.org/ article/novaya-lirika-rm-rilke-sem-rassuzhdenii-olga-sedakova.html. Дата доступа: 12.03.2012.
20. Петэр Хандке, дарэчы, спрычыніўся да напісання сцэнарыя культавай кінастужкі свайго суайчынніка і даўняга сааўтара Віма Вендэрса «Неба над Берлінам» («Der Himmel über Berlin», 1987), на стварэнне якой апошняга натхнілі перадусім «Дуінскія элегіі» Рыльке. Паміж імі і фільмам шмат перазоваў, але найперш гэта вобразы анёлаў, ахопленых болем за людзей, спагадай да іх і адначасна – жаданнем спазнаць чалавечыя жарсці, пакуты, каханне. Ужо пасля падзення Берлінскай сцяны, у 1993 г., Вендэрс зняў працяг «Неба над Берлінам» – такую ж кранальную і глыбокую філасофска-лірычную драму «Гэтак далёка, гэтак блізка!» («In weiter Ferne, so nah!»), дзе таксама дзейнічаюць нябесныя пасланцы.



Андрэй Шпунт

# РЫЦАР ХРЫСТА

Наш Касцёл — апора беларускасці. Гэта наўрад ці можна было сцвярджаць яшчэ гадоў 20 назад. Тым большая наша ўдзячнасць каталіцкім святарам, якія працавалі на ніве нацыянальнага адраджэння напрыканцы XIX і ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Працавалі ў няпростых умовах неразумення і супрацьдзеяння, у тым ліку і з боку духоўных уладаў. Тым большая наша ўдзячнасць іерарху, які, усведамляючы сябе палякам, у снежні 1918 года правёў у менскай катэдры першую ў нашай гісторыі беларускую св. Імшу, што назаўсёды паклала пачатак беларускаму Касцёлу, які мы бачым сёння. Ды й не ў беларускасці ці польскасці справа, а ў гісторыі жыцця, упрыгожанага высокай духоўнасцю і верай.

...Юнаком, стоячы перад труной біскупа Зыгмунта Лазінскага, будучы кардынал Казімір Свёнтэк адышоў ад яе іншым чалавекам. З той хвіліны нябачная постаць вялікага пастыра будзе як Анёл Ахоўнік суправаджаць яго. Таму не дзіўна, што ў асобе кардынала, у яго жыцці, дзеяннях, характары мы бачым своеасаблівае адлюстраванне біскупа Лазінскага. Відавочна, не без уплыву свайго заступніка кардынал Свёнтэк, польскі патрыёт, зрабіў так, каб беларускі Касцёл стаў сапраўды беларускім.

Зыгмунт Лазінскі нарадзіўся 5 чэрвеня 1870 года ў фальварку Барацін пад Наваградкам у сям'і Уладзіслава Лазінскага і Людвікі з Чачотаў — старажытнага беларускага шляхецкага роду герба «Астоя», які паходзіў са Смаленскага ваяводства. Ян Чачот — выдатны беларускі паэт і фальклярыст, адзін з пачынальнікаў нашай нацыянальнай літаратуры і блізкі сябар Адама Міцкевіча (з тых жа мясцінаў), быў сваяком Людвікі.

Гэта была добрая сям'я. Да 10 гадоў Зыгмунт выхоўваўся дома, пад апекай пяшчотнай і пабожнай маці, а калі надышоў час ісці ў гімназію, бацькі набылі маёнтак Чэрнік пад Варшавай і аддалі старэйшых сыноў (Зыгмунт меў 6 малодшых братоў і сястру) Зыгмунта і Вацлава ў мясцовую V гімназію, бо бліжэйшыя гімназіі ў Менску, Слуцку і Вільні, асабліва пасля паўстання 1863 года, імкнуліся выхоўваць вучняў не як грамадзянаў свайго краю, а падданых Расейскай імперыі. Але і ў V гімназіі, чым бліжэй падыходзіў час экзаменаў, тым мацней станавіўся ціск. Улады патрабавалі ад дырэктараў гімназій складаць на вучняў характарыстыкі, а па сутнасці даносы, дзе змяшчалася інфармацыя аб палітычных

**Андрэй ШПУНТ** — аспірант Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (тэма дысертацыі — «Гарадская геральдыка Рэспублікі Беларусь»). Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989—1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.

перакананнях, і тых, каго лічылі неблаганадзейнымі, чакалі непераадольныя цяжкасці на экзаменах. На шчасце, у Пецярбургу, у адной з гімназій, дзе браты Лазінскія і правучыліся апошнія два гады, выкладаў рэлігію іх дзядзька кс. Вітальд Чачот. Хаця на новым месцы не было даносаў і здзекаў, як на акупаванай Радзіме, у лістападзе 1888 года Зыгмунта чакаў экзамен на прадмет, што адсутнічае ў навучальных установах. Гэты прадмет з'яўляецца адной з чатырох кардынальных цнотаў і адным з шасці дароў Духа Святога і мае высакародную назву — мужнасць. Пры гімназіі была праваслаўная царква, і здарылася так, што класны настаўнік настаяў, каб вучні пайшлі ў храм, запэўніўшы, што патрабуецца толькі іх прысутнасць. Падчас літургіі, калі ўсе ўкленчылі на заклік святара, маленькая група вучняў каталікаў працягвала стаяць, але і яны саступілі, бачачы энергічныя знакі, якія падаваў інспектар. Засталіся толькі двое Лазінскіх, якія ўзвышаліся, нібы два каласы на ніве пахіленых галоваў. Пачаўся скандал. Справа дайшла да Міністэрства асветы. Братам пагражала выключэнне, мабыць, і з «воўчым білетам». Так бы і здарылася дзе-небудзь у Варшаве ці Менску, але ў Пецярбургу начальства мела больш такту і прыстойнасці, чым слугі рэжыму ў правінцыі, таму абышлося без наступстваў. Зыгмунт здаў экзамены і паступіў у духоўную семінарыю, а ў 1891 годзе быў пераведзены ў Пецярбургскую рыма-каталіцкую духоўную акадэмію.

Калі і як ён адчуў пакліканне — невядома. Нават бацькам Зыгмунт паведаміў аб сваім рашэнні толькі перад паступленнем у семінарыю.

...Кс. Марцін Шкапоўскі, таварыш Зыгмунта Лазінскага па акадэміі, сведчыў летам 1918 года, характарызуючы новапрызначанага біскупа Менскага, што ён карыстаўся вялікай любоўю калегаў, быў надзвычай таварыскі, здольны да самаахвярнасці, гарачы патрыёт, пабожны і пакорлівы, просты ў жыцці, дэмакратычны, вельмі натуральны ва ўсіх абставінах, не зносіў ніякіх адзнакаў, ушаноўванняў і рабалепства. Меў жвавы і вытанчаны розум. Паміма агульнай эрудыцыі быў выдатным тэолагам, асабліва спецыялістам у біблійных навуках; ведаў мовы: французскую, нямецкую, італьянскую, англійскую, летувіскую, латышскую, а са старажытных, акрамя грэчаскай і лаціны, габрэйскую і асірыйскую (клінапіс).

23 чэрвеня 1895 года З. Лазінскі прыняў святарскае пасвячэнне. Выкладаў Святое Пісанне і гамілетыку ў Пецярбургскай духоўнай семінарыі. Далейшыя падзеі, па словах кс. Вітальда Чачота, былі свайго роду пасвячэннем кс. Зыгмунта ў рыцары Хрыста. Даведаўшыся, што яго малодшага брата Канстанціна, які вучыўся ў Гандлёвай школе, прымушаюць удзельнічаць у праваслаўных набажэнствах, ён смела, не зважаючы на няроўныя сілы, кінуўся на абарону свабоды сумлення. Праціўны бок таксама быў настроены рашуча: дырэктар Дэпартамента веравызнанняў пры МУС, які карыстаўся таемным правам вырашаць пытанні самавольна і безапеляцыйна, загадаў арыштаваць энергічнага ксяндза, пазбавіць яго прафесуры і саслаць на тры гады ў карны былы дамініканскі кляштар у Аглоне, пад Дынабургам у Латвіі.

Кляштар стаяў у маляўнічай, узгорыстай мясцовасці, паміж двух азёраў. Вокны келляў выходзілі на сад ці гарод; можна было вольна перамяшчацца, а ўтрыманне ў 15 руб. на месяц ды ахвяраванні пабожнага люду, які прыходзіў да Маці Божай Аглонскай, рабіла жыццё цалкам зносным, але хутчэй для старэнькіх ксяндзоў, якія жылі тут на пенсіі, праводзячы рэшту дзён у няспешных размовах ды гульні ў карты. Энергічная натура кс. Зыгмунта патрабавала дзеяння. Заняўся б навуковай працай, але ў кляштары не было бібліятэкі. Перашкода стаяла і на шляху душпастырскай дзейнасці — не ведаў латышскай мовы. Але тут вырашыў не здавацца. Без падручніка (ды й добрай латышскай граматыкі тады не існавала), затое з вялікім жаданнем, практыкуючыся ў жывых зносінах, праз шэсць месяцаў ён дасягнуў такіх поспехаў, што мог прамаўляць гаміліі ў навакольных касцёлах.

У чэрвені 1900 г. быў датэрмінова выпушчаны. За нядоўгі час пабываў вікарыем у Смаленску (1900), Туле (1901), Рызе (1902), пробашчам на Кальварыі (тады пад Менскам, 1904) і, нарэшце, у менскай катэдры (1905). Паводле сведчання кс. Вітальда Чачота, гэткія частыя перамяшчэнні тлумачыліся не дрэнным характарам і не жаданнем пераменаў у пошуках лепшага месца. Ішоў шляхам, указаным св. Ігнацыем у «Духоўных практыкаваннях», у аснове якіх была гэтак званая «залатая абыякавасць» — гатоўнасць працаваць у любых умовах. А паколькі на вялікіх абшарах Магілёўскай архідыяцэзіі мала было такіх здольных і палаючых (як св. Ігнацы) святароў, то духоўныя ўлады заўсёды звярталі ўвагу на кс. Зыгмунта. Калі служыў у Туле, слава аб яго дзейнасці разышлася так, што мясцовы архіерэй загадаў прысылаць сваіх семінарыстаў у касцёл, каб паглядзелі, «как это всё у них боголепно». Перад кс. Зыгмунтам адкрылася шырокае поле місіянерскай працы, і

яна пачала прыносіць плён (меў нават намер сустрэцца з графам Львом Таўстым, але быў накіраваны на новае месца).

У менскай катэдры прабыў нядоўга. Паводле успамінаў Мечыслава Жыўчынскага, прычынай з'явілася тое, што прымаў у каталіцтва былых уніятаў. А тут якраз стала вакантным месца прафесара ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі, якое ён займаў да 1909 г., адначасова, з 1908 г., выкладаў Св. Пісанне і габрэйскую мову. Глыбока вывучаючы Св. Пісанне, адчуваў вострую патрэбу адправіцца ў пілігрымку на Святую Зямлю. Атрымаўшы працяглы водпуск, на пачатку 1912 г. сем месяцаў прабыў у Палестыне, а на зваротным шляху яшчэ затрымаўся ў Рыме на 1912/1913 акадэмічны год, запісаўшыся ў лік вучняў толькі што заснаванага Піем X Інстытута біблійных навук.

У 1913 годзе кс. Зыгмунт Лазінскі быў прызначаны канонікам-тэолагам Магілёўскага капітула і рэктарам касцёла Мальтыйскага Ордэну ў Пецярбургу, сумяшчаючы гэтыя пасады з прафесарствам у семінарыі.

Пачалася Першая сусветная вайна. Значная колькасць палякаў і ўвогуле католікаў, грамадзянаў Германіі і Аўстра-Венгрыі, трапіла ў расейскі палон. Быў патрэбны святар з веданнем нямецкай мовы, і ў жніўні 1915 г. кс. Зыгмунт, прызначаны капеланам, пачаў аб'езд лагераў ваеннапалонных. За тры месяцы праехаў праз Волагду, Вятку, Перм, Екацерынбург, Омск, Чалябінск, Томск, Нова-Мікалаеўск, Іркуцк, Нарым, Краснаярск, Мінусінск. У 1916 г. быў у Растове-на-Доне, дзе знаходзіліся інтэрніраваныя святары грэка-каталікі з Галіцыі, а ў Курску наведаў іх мітрапаліта Шаптыцкага.

Восенню 1917 года ўладу ў былой Расейскай імперыі захапілі бальшавікі. Амаль адначасова прыйшла вестка аб тым, што 2 лістапада 1917 года Св. Айцец Бэнэдыкт XV прызначыў кс. Зыгмунта Лазінскага біскупам новаўтворанай Менскай дыяцэзіі (адбылося гэта пры падтрымцы Апостальскага нунцыя Ахілеса Рацці, які ў 1922 г. стаў папам Піем XI, а за два дні да канклава быў узнагароджаны Юзафам Пілсудскім ордэнам Белага Арла). Прайшло некалькі месяцаў, пакуль з-за ваеннага часу з Рыма паступілі неабходныя дакументы. Кансэкрацыя адбылася ў архікатэдры св. Яна ў Варшаве з выключнай урачыстасцю, якую сталіца не бачыла апошнія 150 гадоў.

Інгрэс адбыўся 14 жніўня 1918 года. Уезд Яго Эксцэленцыі ў Менск стаўся поўнай процілегласцю варшаўскім пышнасцям. Яшчэ 25 сакавіка Беларусь была аб'яўлена незалежнай і свабоднай дзяржавай, але гэтая адчайная спроба адраджэння дзяржаўнасці заставалася больш у сэрцах, марах ды на паперы, бо ўсё адбывалася ва ўмовах нямецкай акупацыі. Немцы забаранілі ўрачыстую працэсію, але іх захады не перашкодзілі абвясціць булу Св. Айца наступнага зместу: «Бэнэдыкт XV. Папа, Слуга Слугаў Божых. Улюбёным сынам, святарству і вернікам Мінскай дыяцэзіі віншаванне і апостальскае благаслаўленне. Гэтага дня, з рады вялебных нашых братоў кардыналаў Святога Рымскага Касцёла, улюбёнага сына нашага Зыгмунта Лазінскага, каноніка мітрапалітальнага касцёла магілёўскага, а таксама прафесара духоўнай семінарыі Магілёўскай архідыяцэзіі, Апостальскім нашым аўтарытэтам біскупам вашай мінскай катэдры, дагэтуль асірацелай, абралі і цяпер пастырам прызначаем. А вам усім нагадваем і абавязваем, каб яго, намі абранага біскупа Зыгмунта, прынялі з пакораю, як айца і пастыра душаў вашых, належнай пашанай акружалі, збаўчыя яго ўказанні і распараджэнні з ушанаваннем і паслухмянасцю спаўнялі так, каб ён у вас знайшоў верных сыноў, а вы ў ім добрага айца. Дадзены ў Рыме 2 лістапада 1917 г.».

Цяжкім крыжам на плечы новага біскупа ляглі складаныя задачы дыяцэзіі, авечкі якой вось ужо паўстагоддзя пасвіліся без пастыра. Гэта было чыстае поле. Ні капітулы, ні семінарый, ні фундацый. З трохмільённага насельніцтва католікаў была 12-я частка, а астатнія былі ўніятамі, гвалтам загнанымі ў праваслаўе пры Кацярыне II і Мікалаі I. Амаль усе праваслаўныя храмы былі калісьці каталіцкімі ці ўніяцкімі. На шматлікія касцёлы было па-варварску нацягнута псеўдарускае ці візантыйскае «адзенне».

Перад біскупам стаялі вялікія місійныя задачы. У кастрычніку першыя 22 клерыкі і аспіранты Пецярбургскай духоўнай акадэміі пачалі працаваць у мурах былога бэрнардынскага кляштара пад кіраўніцтвам аднаго з заснавальнікаў хрысціянскага нацыянальнага руху кс. д-ра Фабіяна Абрантовіча (таксама з Наваградчыны).

Увосень хісткае становішча маладой Беларускай Народнай Рэспублікі пагаршалася з кожным днём. Бальшавікі наступалі. Немцы рыхтаваліся пакінуць Менск. У гэтыя апошнія дні біскуп Зыгмунт Лазінскі і кс. д-р Абрантовіч паспелі закласці фундамент будучага нацыянальнага Касцёла. Часопіс «Беларуская думка» ў   19 за 1919 г. у артыкуле «Справа беларускага біскупа» паведамляў: «(...) Біскуп цікавіўся рухам беларускім і, пераканаўшыся, што гэта справа жыццёвая, паважная, зрабіў беларусам неспадзеўку. 6 снеж-

ня 1918 года а гадзіне 8 уранку адбылася першая беларуская Імша ў Менску. Служыў сам біскуп Лазінскі, у часе Імшы пяяў хор па-беларуску рэлігійныя старабеларускія песні пад загадам рэктара семінарыі кс. Абрантовіча. Бабы польскія (...), прабавалі заглушыць хор польскімі песнямі, але гэта ім не ўдалося. У канцы Імшы сам біскуп Лазінскі прачытаў па-беларуску Евангелію і на тэму з Евангеліі казаў казанне: горача, ад сэрца і добра па-беларуску (...). Св. Імша і казанне ўхапілі за сэрца не толькі беларусаў-каталікоў, але і беларусаў-праваслаўных, усе мелі слёзы на вачах (...)».



Падчас кананічнай візітацыі Пінскага біскупа Зыгмунта Лазінскага ў Дамачаве.
Каля біскупа сядзяць кс. Пётр Татарыновіч
і кс. Казімір Букраба, будучы Пінскі біскуп. 1928 г.

27 снежня 1918 года Урад БНР пакінуў Менск. У горад увайшлі бальшавікі. Біскуп працягваў служэнне, але пад ціскам вернікаў з пачатку 1919 года на працягу 5 месяцаў хаваўся па навакольных вёсках.

Праз некаторы час шалі гісторыі зноў пахіснуліся. 8 жніўня 1919 года войскі Пілсудскага маршыравалі па вуліцах Менска, абуджаных урачыстымі званамі і галасамі ўзрушаных натоўпаў. Было мора кветак. Горад нібыта прачнуўся для новага жыцця. У касцёлах грымеў «*Te Deum*», а ў праваслаўных храмах ішлі ўрачыстыя набажэнствы. Магчыма, гэта быў адзіны з тых вялікіх узвышаных момантаў у нашай гісторыі, калі ўвесь беларускі народ аб'яднаўся ў адно цэлае без розніцы станаў, нацыянальнасцяў і веравызнанняў. Сярод сустракаючых былі біскуп Лазінскі, праваслаўны арцыбіскуп Мельхісэдэк, прадстаўнікі ад габрэяў і мусульманаў. На вуліцах віселі адозвы, дзе абвяшчалася, што «пераможнае польскае войска прыносіць на сваіх штыках беларускаму народу права самавызначэння». Юзаф Пілсудскі выдаў адозву, у якой абяцаў, што Польшча і Беларусь будуць ладзіць свае адносіны як роўны з роўным, як вольны з вольным.

У верасні, пры асвячэнні старажытнага касцёла ў Міры, перарobленага ў 1863 г. у праваслаўную царкву, біскуп Лазінскі прастыў і злёг з цяжкім запаленнем лёгкіх. Стан настолькі пагоршыўся, што ён зрабіў распараджэнні на выпадак смерці і прыняў св. сакрамэнты. Дзякуючы Пану Богу і старанням лекараў праз тры месяцы хвароба адступіла. Біскуп не саступіў настойлівым парадам нунцыя ад'ехаць падлячыцца на нейкі курорт. А ў гэты час, з павелічэннем вайсковых поспехаў, палякі ўсё вышэй задзіралі нос, сапсаваўшы пры гэтым адносіны з беларускім урадам. У красавіку Пілсудскі зрабіў, мабыць, самую вялікую, памылку ў сваім жыцці — пачаў наступленне на Кіеў і ўзяў яго 6 траўня 1920 года, але ўжо 12 чэрвеня яго войскі імкліва адступалі пад ударамі Чырвонай Арміі. У Менску пачалася паніка. Беглі ўсе, хто мог. Палілі склады з харчаваннем і амуніцыяй. На гэты раз біскуп вырашыў застацца, хаця вернікі малілі яго ратавацца і нават здабылі для яго аўтамабіль. Заўважыў толькі: «Хто ведае, ці не патрабуе Пан Езус маёй крыві як ахвяры, каб вымаліць прабачэнне для ўратавання аўчарні?!». 11 ліпеня апоўдні бальшавікі ўвайшлі ў Менск, а ў жніўні стаялі пад мурамі Варшавы. Біскупа тады не чапалі (хаця выгналі з рэзідэнцыі), тым больш што палякі выслалі дэлегатаў для мірных перамоваў. На свята Унебаўзяцця НПМ здарыўся цуд на Віслe. Дэлегаты-перамоўшчыкі павесялелі і адчулі сябе больш упэўнена. На развітанне ахвяравалі біскупу 1 млн марак на дабрачыннасць, а бальшавікоў папярэдзілі, што, калі хоць волас упадзе з яго галавы, гэта будзе лічыцца *casus belli*. Але гэта былі пустыя пагрозы. Як толькі яны ад'ехалі, грошы адабралі, біскупа арыштавалі і кінулі за краты, прапанаваўшы пры гэтым падпісаць «абавязак», што ён не будзе выступаць супраць новай улады. «Не толькі гэтай плюгавай паперы не падпішу, — пачулі ў адказ, — але прысягаю на ўсё, што маю найсвятога, што да астатняга подыху буду змагацца супраць вашых бясчынстваў». Адвезлі ў Маскву і кінулі ў Бутырскую турму. Урадам Летувы і прэлатам Міхалкевічам рабіліся намаганні вызваліць біскупа, і ў падпісанай 18 сакавіка 1921 года савецка-польскай мірнай дамове яго вызваленне было гарантаванае. Але вельмі не хацелася сатанінскай уладзе «развітвац-

ца» са сваёй ахвярай, і толькі напрыканцы ліпеня біскуп Лазінскі прыбыў у Варшаву, дзе быў сустрэты як нацыянальны герой вялікім натоўпам — святарствам, прадстаўнікамі цэхаў, грамадскіх аб'яднанняў, Сойму і войска. Пілсудскі, якога не было ў Варшаве, прыслаў ад свайго імя капелана і коней. З вакзала біскуп Лазінскі накіраваўся ў катэдру, дзе была целебраваная св. Імша. Капітула ўзноўленага ордэну Белага Арла ўзнагародзіла біскупа гэтай найвышэйшай адзнакай, а крыху пазней ён атрымаў «Крыж храбрых». Ва ўсіх гэтых падзеях адчуваў горкі прысмак. Па Рыжскай дамове частка Менскай дыяцэзіі пакідалася пад саветамі.

Наваградак — калісьці першая сталіца ВКЛ, стаў цяпер сталіцай таго, што засталося ад дыяцэзіі. Рэзідэнцыя біскупа знаходзілася ў дамініканскім кляштары (дзе да 1830 г. была гімназія, у якой вучыўся Адам Міцкевіч) з прылягаючым касцёлам. Абмежаваўся двума келлямі, астатнія памяшканні былі аддадзеныя для капітулы і семінарыі на 75 клерыкаў. З-за недахопу святароў некаторыя прадметы выкладалі свецкія настаўнікі. Да навучальнага працэсу далучыўся і біскуп: выкладаў матэматыку, грэчаскую мову і лаціну.

У першыя гады Заходняя Беларусь не была спакойным месцам. Адразу ж пасля падзелу ўсё часцей адбываліся тэрарыстычныя напады з боку саветаў і Летувы. Выпадак 24 верасня 1924 г. абурыў усю Польшчу і прымусіў улады да больш энергічных дзеянняў. Спецыяльны цягнік Берасце — Лунінец, у якім ехалі біскуп Лазінскі і прадстаўнікі дзяржаўнай і мясцовай ўлады, паміж станцыямі Парахонск і Плоўна быў затрыманы бандай з 40 чалавек на чале з некім Трафімам Каліненка, камендантам аднаго з памежных участкаў. Усім пасажырам было загадана распрануцца дагала і легчы тварам да зямлі. Пасля рабунку і збіцця бандыты зніклі ў напрамку савецкай мяжы.

Жыццё Менскай дыяцэзіі пад саветамі было практычна паралізаванае. Апостальская Сталіца не магла цярпець гэткага становішча. 28 кастрычніка 1925 г. апостальскай канстытуцыяй «*Vixdum Poloniae unitas*» шляхам далучэння да ацалелай ад бальшавіцкага гвалту часткі новых паветаў была створана новая дыяцэзія (біскупства) з рэзідэнцыяй біскупа ў Пінску.

Па сутнасці ўвесь шлях біскупа Лазінскага быў суцэльным выпрабаваннем. Цяпер, у больш спакойных умовах, ён з двайною сілаю аддаўся працы. Прадметам яго асабістых клопатаў стала арганізаваная ў тым жа годзе семінарыя, дзе ён знаходзіў час для выкладання. Як мог, абмяжоўваў уласныя патрэбы: «Каб для маёй беднай дыяцэзіі і асабліва семінарыі часосьці сэканоміць». Жыў аскетам і спаў на жосткім тапчане. Уласны кнігазбор (2 тыс. тамоў), які завяшчаў семінарыі, быў адзінаю матэрыяльнаю каштоўнасцю яго тэстамэнту.

Ва ўмовах, калі Беларусь не існавала як незалежная дзяржава, калі з абодвух бакоў пад Польшчай і пад саветамі знішчалася ўсё нацыянальнае, біскуп Лазінскі прыкладаў намаганні для павелічэння ролі беларускай мовы ў Касцёле.

Ён быў жывым прыкладам хрысціянскага жыцця, спалучаў у сабе галубінае сэрца, цвёрдую волю і добрае пачуццё гумару. Яго ўчынкі і выслоўі маглі б легчы ў аснову зборніка накшталт «Кветачак св. Францішка» ці «Кветачак Яна Паўла II», а яго біяграфія — займальнаю і павучальнаю кнігаю для нашчадкаў.

Апошняе выпрабаванне — цяжкую хваробу — пераносіў мужна і годна. Нехта з семінарыстаў прыгадваў, што ў апошнюю ноч, калі яны дзяжурылі каля ложка паміраючага, біскуп, бачачы, што юнакам цяжка быць пільнымі, загадаў ім адпачываць, і ўжо скрозь сон адзін з іх бачыў, як біскуп, не жадаючы турбаваць іх, сам апошнім высілкам пацягнуўся да нейкіх прадпісаных лекаў.

Ён «быў для ўсіх усім, усім без астатку». На развітанне, якое адбылося 29 сакавіка 1932 г. у Пінскай семінарыі, прыходзілі тысячы і тысячы людзей усіх веравызнанняў.

На рэкалекцыях у Гнезне 14 верасня 1928 г., ва ўрачыстаць Узвышэння Святога Крыжа, у прамове, якая стала яго духоўным тэстамэнтам, заклікаў: «Дай ім пастыра, які б іх лепей, чым я, пасвіў». Пан Бог пачуў. Прайшоўшы мноства выпрабаванняў, новы пастыр пабудаваў на фундаменце, закладзеным біскупам Лазінскім, беларускі Касцёл.

Цяпер яны спачываюць разам у крыпце пінскай катэдры.

БІБЛІЯГРАФІЯ


1. Ганчарук І. Лазінскі Зыгмунт. ЭГБ. Т. 4. — Мінск, 1996. — С. 330.
2. Жарнасек І. Лясная канвалія. Наша вера, 3, 2003. — С. 47–51.
3. Зуев М. Н., Изонов В. В., Симонова Т. М. Советская Россия и Польша. 1918–1920 гг. Советско-польское вооруженное противостояние 1918–1919 гг. Советско-польская война 1920 г. Под общ. ред. Кольтюкова А.А. — Москва, 2006.
4. Яцкевіч Зьм. Радавод Яна Чачота. — Мінск, 1996.
5. Czeczott W. Diecezja mińska i jej pasterz biskup Zygmunt Łoziński. — Wilno, 1925.
6. Kubicki P. Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w l. 1861 — 1915. cz. II, t. 1. — Sandomierz, 1936. S. 636–651.
7. Pobóg–Malinowski W. Najnowsza historia polityczna Polski 1864–1945. Zygmunt Londyn. T. 2. — S. 182, 375, 445.
8. Stankiewicz A. Rodnaja mova ŭ światyniach. — Wilnia, 1929.
9. Żywczyński M. Łoziński Zygmunt//PSB. T. XVIII. Wrocław – Warszawa – Kraków, 1973. — S. 463–464.

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел II

## Упадабанні і любоў да таго, што ніжэй за чалавека

Калі людзі майго пакалення яшчэ былі дзецьмі, нас папраўлялі за тое, што мы казалі: «Я люблю суніцы». Некаторыя вельмі ганарацца тым, што ў англійскай мове ёсць два адрозныя дзеясловы «*love*» (*любіць, кахаць*) і «*like*» (*падабацца*), а французы вымушаныя пра ўсё казаць «*aimer*». І такіх моваў, як французская, вельмі шмат. Ды і ў сучаснай англійскай мове вельмі часта адбываецца тое самае. Большасць носьбітаў, якімі б педантамі і якімі б праведнікамі яны ні былі, заўсёды кажуць «люблю» — пра ежу, гульню або працу. І насамрэч, нашыя найпрасцейшыя ўпадабанні да рэчаў і любоў да людзей непарыўна знітаваныя. Паколькі «найвышэйшае не бывае без найніжэйшага», мы лепш пачнем «знізу», з простых упадабанняў, і паколькі «ўпадабаць» нешта значыць атрымліваць ад гэтага задавальненне, мы павінны пачаць з задавальненняў.

Даўно заўважана, што ўсе задавальненні можна падзяліць на два тыпы: тыя, што не з'яўляюцца задавальненнямі, калі ім не папярэднічае жаданне, і тыя, што з'яўляюцца задавальненнямі па самой сваёй сутнасці і не патрабуюць такой падрыхтоўкі. Прыкладам першага можа быць глыток вады. Гэта задавальненне, калі вы хочаце піць, і вялізнае задавальненне, калі вы прагнеце. Але, напэўна, ніхто ў свеце, акрамя як прагнучы або выконваючы парады доктара, не нальe сабе шклянку вады і не стане піць проста дзеля задавальнення. Прыкладам другога віду задавальненняў можа быць нечаканая асалода ад водару: духмяны павеў з бабовага поля або гарохавых градаў падчас ранішняга шпацыру. Да гэтага моманту вам нічога не хацелася, вы былі цалкам задаволеныя, і гэтая прыемнасць сталася няпрошаным, неспадзяваным дарам. Дзеля яснасці я бяру вельмі простыя прыклады, але, зразумела, што на справе ўсё больш складана. Калі вам прапануюць кубачак кавы або куфаль піва там, дзе вы чакалі толькі вады (і былі б цалкам гэтым задаволеныя), тады вы адначасова атрымліваеце і задавальненне першага віду (спаталенне смагі) і другога (смачнае пітво). А здараецца і адваротнае: задавальненне паводле сутнасці становіцца задавальненнем паводле патрэбы. Для ўмеркаванага чалавека атрыманы нечакана келіх віна — гэта асалода, параўнальная з водарам квітнеючага поля. Але алкаголіка, чыё паднябенне і органы стрававання даўно ўжо зруйнаваныя, ніякі напой не здольны задаволіць, хіба што прынясе палёгку ў нястрымным жаданні выпіць. У той меры, у якой алкаголік усё яшчэ здольны адчуваць смак, яму вытанчаны напой хутчэй не спадабаецца, але гэта ўсё ж лепш, чым пакутаваць, застаючыся цвярозым. Але, нягледзячы на ўсе варыяцыі і змены, розніца паміж двума тыпамі задавальненняў вельмі дакладна акрэсленая. Мы можам назваць іх задавальненнямі патрэбы і задавальненнямі ацэнкі. Падабенства паміж задавальненнямі патрэбы і любоўю-патрэбаю з першага раздзелу гэтай кнігі відавочныя для кожнага. Але тады, калі вы памятаеце, я прызнаўся, што мусіў супрацьстаяць жаданню прынізіць годнасць любові-патрэбы і нават пазбавіць яе наймення любові. У гэтым жа выпадку ў большасці людзей узнікне супрацьлеглае жаданне. Вельмі лёгка рассыпацца ў пахвальбе задавальненням патрэбы і насупіцца ў адносінах да задавальненняў ацэнкі. Першыя настолькі натуральныя (слова, якое мае магічную сілу), такія неабходныя, такія абароненыя ад празмернасці самою сваёю натуральнасцю, другія ж не з'яўляюцца неабходнымі і адкрываюць шлях раскошы і распусце. Пры недахопе ведаў у гэтай галіне можна звярнуцца да вучэння стоікаў — невычэрпнай крыніцы падобных развагаў. Але, даследуючы азначанае пытанне, мы павінны захоўваць асцярожнасць і не прымаць заўчасна ніякай думкі і ацэнкі. Звычайна чалавечы розум больш схільны ўхваляць і ганьбіць, чым апісваць і даваць вызначэнне. Ён жадае спалучыць любое распазнанне з ацэнкаю, менавіта адсюль бяруцца бязлітасныя крытыкі, заўжды няздольныя вызначыць адрозненні ў творчасці двух паэтаў, не паставіўшы іх у шэраг паводле ўласных прэферэнцый, нібы на п'едэстале ўзнагароды. Мы не павінны чыніць нічога падобнага ў адносінах да задавальненняў. Рэчаіснасць занадта складаная. Ад гэтага нас павінен

засцерагчы той факт, што і задавальненні ацэнкі могуць падлягаць згаршэнню і становяцца залежнасцямі, ператвараючыся такім чынам у задавальненні патрэбы.

Для нас у любым выпадку важнасць гэтых двух тыпаў задавальненняў палягае на тым, наколькі для іх характэрныя асаблівасці двух вызначаных намі тыпаў любові (у дакладным значэнні слова).

Сасмяглы чалавек, які толькі што выпіў шклянку вады, можа сказаць: «О, як жа мне гэтага *хацелася!*». Гэтак жа скажа і алкаголік, які толькі-толькі заліў за каўнер. Чалавек, які ідзе ўзбоч духмянага гарошку падчас ранішняга шпацыру, хутчэй за ўсё, заўважыць: «Які ж цудоўны водар!». Знаўца вінаў, зрабіўшы першы глыток праслаўленага кларэту, таксама скажа: «Гэта цудоўнае віно!». Гаворачы пра задавальненні патрэбы, мы схільныя выказвацца пра сябе ў мінулым часе, калі ж справа датычыць задавальненняў ацэнкі, мы хутчэй кажам пра аб'ект у цяперашнім часе. Лёгка зразумець, чаму Шэкспір менавіта так апісвае імкненне чалавека задаволіць дэспатычную пажадлівасць:

«*Past reason hunted, and no sooner had past reason hated*» — «*Шалёна гонішся за ёй, дагнаў — шалёна ганіш*» (санет 129).

Але і самыя нявінныя і неабходныя з задавальненняў патрэбы маюць падобныя рысы, зразумела, толькі ў нечым падобныя. Мы не пачынаем ненавідзець іх, ледзь толькі атрымаўшы, але яны, без сумневу, «паміраюць у нас» цалкам, раптоўна і нечакана. Водаправодны кран у кухні і шклянка выглядаюць вельмі прыцягальна, калі мы вяртаемся дадому сасмяглыя, пасля касьбы, але праз імгненне яны ўжо не выклікаюць аніякай цікавасці. Пах смажаніны да таго, як мы паснедалі, вельмі адрозніваецца ад таго ж паху пасля сняданку. І калі вы дазволіце мне прывесці самы крайні прыклад, ці не ў большасці з нас бывалі такія моманты (у незнаёмым горадзе), калі літаркі М/Ж на дзвярах выклікалі такую радасць, што яна амаль прасілася ў вершы?

Задавальненні ацэнкі — гэта цалкам іншае. Яны прымушаюць нас перажываць не толькі прыемныя пачуцці, але па ўласным праве патрабуюць таго, каб мы іх ацанілі. Знаўца вінаў не толькі атрымлівае асалоду ад свайго кларэту, роўную асалодзе, з якою чалавек адаграває змерзлыя ногі. Ён адчувае, што гэтае віно вартае поўнай увагі, яно апраўдвае ўсе традыцыі і ўменні, выкарыстаныя ў яго вытворчасці, апраўдвае шматгадовыя высілкі, якія спатрэбіліся знаўцу, каб быць здольным ацаніць смак віна. У такім стаўленні праглядае бескарыслівасць. Знаўца хоча, каб віно захоўвалася ў добрых умовах зусім не дзеля ўласнай карысці. Нават калі б ён ляжаў ужо на Божай пасцелі і не быў здольны пакаштаваць аніякага віна, добры знаўца жахнуўся б ад думкі, што калекцыйнае віно можа быць пралітае або сапсаванае, або выпітае недарэкамі (такімі, як я сам), няздольнымі адрозніць добры кларэт ад дрэннага. Тое самае і з чалавекам у полі духмянага гарошку. Ён не проста атрымлівае задавальненне, ён адчувае, што гэтая духмянасць нейкім чынам вартая таго, каб атрымаць ад яе асалоду. Ён будзе вінаваціць сябе, калі пройдзе побач няўважлівы і абыякавы. Гэта праява нячуласці, невыразнага ўспрымання. Сорамна было б, калі б такая цудоўная рэч змарнавалася з-за таго, хто няздольны яе ацаніць. Чалавек будзе памятаць гэты чароўны момант многія гады. Яго засмуціць вестка, што сад, куды ён аднойчы заходзіў на шпацыр, цяпер паглынулі кінатэатры, гаражы і новая траса.

З навуковай кропкі гледжання абодва тыпы задавальненняў звязаныя з нашым арганізмам. Але задавальненні патрэбы гучна сведчаць пра тое, што залежныя не толькі ад будовы чалавечага арганізма, але і ад яго стану ў канкрэтны час, па-за якім яны не ўяўляюць для нас аніякай цікавасці і цалкам губляюць сваё значэнне. Прадметы, якія даюць нам задавальненне ацэнкі, выклікаюць пачуццё, свядомае ці несвядомае, што мы нейкім чынам абавязаныя захапляцца імі, праяўляць да іх увагу і хваліць іх. «Проста грэх — частаваць такім віном Льюіса», — скажа знаўца вінаў. «Як вы можаце ісці ўзбоч такога саду і не звярнуць увагі на духмяны водар?» — спытаем мы. Але мы ніколі не адчуем падобнага ў адносінах да задавальненняў патрэбы. Ніхто не стане вінаваціць сябе і іншых за тое, што не хоча піць і таму праходзіць міма калодзежа, нават не глытнуўшы вады.

Цалкам зразумела, у чым заключанае падабенства задавальненняў патрэбы і любові-патрэбы. У ёй тое, што любім, мы бачым у непасрэднай сувязі са сваімі патрэбамі, так, як сасмяглы чалавек бачыць водаправодны кран, а алкаголік — шклянку гарэлкі. І любоў-патрэба, як і задавальненне патрэбы, не будзе доўжыцца больш, чым існуе патрэба. На шчасце, гэта не значыць, што ўсе нашыя пяшчотныя пачуцці, якія пачаліся з любові-патрэбы, прамінальныя. Сама патрэба можа быць пастаяннаю або паўторнаю. На любоў-патрэбу можна прышчапіць іншы від любові. Маральныя прынцыпы (сужэнская вернасць, сыноўняя пачцівасць, удзячнасць і гэтак далей) могуць дапамагчы захаваць адносіны на ўсё жыццё. Але там, дзе любоў-патрэба застаецца без такой падтрымкі, наўрад ці можна спадзявацца,

што яна не змарнее, калі знікне патрэба. Менавіта таму свет поўніцца скаргамі тых маці, чые дарослыя дзеці пагарджаюць імі, і нараканнямі пакінутых каханак, чые ўмілаваныя адчувалі ў адносінах да іх адну толькі патрэбу, якую і задаволілі. Нашая ж любоў-патрэба да Бога займае цалкам іншую пазіцыю, бо чалавечая патрэба ў Ім ніколі не скончыцца ні ў гэтым свеце, ні ў іншым. Але мы можам перастаць усведамляць гэта, тады знікне і любоў-патрэба. «У няшчасці і чорт у манахі пастрыжэцца». Я лічу, што не трэба называць крывадушнаю хуткаплынную пабожнасць тых людзей, у якіх налёт рэлігійнасці адразу ж знікае, дастаткова ім пазбегнуць «небяспекі, неабходнасці або няшчасця». Дзеля чаго ім быць няшчырымі? Яны былі ў адчаі і голасна малілі аб дапамозе. А хто б не стаў?

Тое, да чаго падобнае задавальненне ацэнкі, апісаць не так проста і хутка.

Перш за ўсё, яно стаіць на пачатку ўсяго нашага досведу прыгажосці. Немагчыма правесці выразную мяжу паміж «пачуццёвай» і «эстэтычнай» асалодаю. Успрыманне знаўцы калекцыйных вінаў ужо ўключае ў сябе элементы засяроджанасці, суджэння і дысцыпліны адчування, што не ёсць адзнакаю пачуццёвасці, ва ўспрыманні ж музыкі пачуццёвасць яшчэ застаецца. Няма падзелу, а існуе цэласнасць, мяккая пераемнасць  паміж пачуццёваю асалодаю, якую дарыць чалавеку духмянасць саду, і асалодаю ад краявіду (яго прыгажосці) наогул, і нават асалодаю ад твораў жывапісу і паэзіі, якія ўсё гэта апісваюць.

Як мы бачым, у гэткіх задавальненнях ад самага пачатку ёсць цень, водбліск незацікаўленасці, запрашэнне да бескарыслівасці. Зразумела, пэўным чынам мы можам выяўляць бескарыслівасць і велікадушнасць у сферы задавальненняў патрэбы таксама. Можа дайсці нават да гераізму: як з кубкам вады, які паранены Сідні[1] ахвяраваў паміраючаму жаўнеру. Але я меў на ўвазе іншую праяву незацікаўленасці. Сэр Сідні выказвае любоў да свайго бліжняга. Але ў задавальненнях ацэнкі, нават самых прымітыўных, ёсць нешта, што ўзрастае разам з тым, як і гэтыя простыя задавальненні ўзрастаюць да поўнага разумення каштоўнасці Прыгажосці ў цэлым, нешта, што мы не можам назваць іначай як *бескарыслівай любоўю* да самога яе аб'екту. Гэта тое пачуццё, якое не дазволіць чалавеку знішчыць велічную карціну, нават калі ён сам — апошні чалавек на зямлі і вось-вось памрэ. Гэта тое пачуццё, якое прымушае нас радавацца існаванню некранутых лясоў, куды мы ніколі не патрапім, якое выклікае ў нас прагненне, каб сад або бабовае поле і надалей былі. Нам не проста падабаюцца гэтыя рэчы, мы называем іх, на імгненне прыпадабняючыся да самога Стварыцеля, «вельмі добрымі».

І тут прынцып пачынаць з найніжэйшага, без якога «не бывае найвышэйшае», прыносіць плён. Ён дэманструе, што наша папярэдняя класіфікацыя відаў любові, якая дзяліла яе на любоў-патрэбу і любоў-дар, няпоўная. Існуе трэці від любові, не менш важны за ўзгаданыя, які прадвызначаецца задавальненнем ацэнкі. Гэтая здольнасць ацаніць аб'ект як вельмі добры; гэтая ўвага (блізкая да піетэту), якую мы абавязкова выяўляем да яго; гэтае жаданне, каб аб'ект быў і працягваў быць, нават калі мы ніколі не зможам атрымаць ад яго асалоду, можа ўзнікнуць у адносінах і да матэрыяльных рэчаў, і да людзей. У стаўленні да жанчыны мы называем гэтае пачуццё захапленнем, у стаўленні да мужчыны — аддаем даніну яго годнасці; у стаўленні да Бога — гэта проста праслаўленне.

Любоў-патрэба ўсклікае да Пана з нашай нястачы, любоў-дар прагне служыць і нават ахвяраваць сябе Богу. Любоў-ацэнка прамаўляе: «Дзякую Табе, бо Ты вельмі вялікі!». Любоў-патрэба скажа пра жанчыну: «Я не магу жыць без яе»; любоў-дар пажадае даць ёй шчасце, утульнасць, бяспеку, калі магчыма, дабрабыт. Мужчына, які адчувае любоў-ацэнку, углядаецца ва ўмілаваную, затрымлівае дыханне і маўчыць, цешыцца, што такі цуд існуе ў свеце, нават калі і не для яго; страціўшы яе, ён не патоне ў смутку, бо лепш ужо мець і страціць, чым ніколі не зведаць яе.

Каб зрабіць дакладны аналіз, аб'ект трэба анатаміраваць, забіць. У рэальным жыцці, дзякуй Богу, усе тры віды любові змешваюцца і дапаўняюць адна адну ў плыні часу. Магчыма, ніводная з іх, апроч любові-патрэбы, не існуе ў чыстым выглядзе больш, чым некалькі імгненняў. І, магчыма, так адбываецца, бо нішто ў чалавеку, апроч патрэбы, не з'яўляецца ў гэтым жыцці  неправамінальным.

Дзве формы любові да нежывых аб'ектаў патрабуюць ад нас асаблівай увагі...

*Пераклад з англійскай мовы*
*Юліі Шэдзько.*
*Паводле: «The four loves»,*
*C. S. Lewis, 1958.*

*Працяг будзе.*

[1] Сэр Філіп Сідні (sir Philip Sidney) — 1554–1586, выбітны паэт, палітык і вайсковец.



**Алесь Чобат** — паэт, перакладчык. Нарадзіўся 23 жніўня 1959 г. у мястэчку Скідзель. У 1981 г. скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут у Мінску. З 1994 г. належыць да Саюза беларускіх пісьменнікаў, а з 1995 г. — да міжнароднага ПЭН-клуба. Напісаў кнігі паэзіі «Год» (1992), «Новая Галілея» (1995), «Тутэйшая Сага» (2000), «Край мой шчаслівы» (2007), а таксама кнігі па аналітычнай гісторыі Беларусі «Зямля святога Лукі» (2002; польскі пераклад — 2003) і «Легенда пра чатырох мушкецёраў» (2004). Пераклаў з польскай мовы кнігі Аўгустына Орфэя «Святы Ян Боска» (1993), Чэслава Мілаша «Тое» (2006) і (разам з Д. Бічэль) кнігу «Караль Вайтыла. Паэзія. Выбранае. Ян Павел ІІ. Рымскі трыпціх» (2003). Жыве ў Скідзелі.

Алесь Чобат

# *Паміж ліпенем і лістападам*

## Магдалена

спадарожніца Яна апостала,
Маці Марыі
і другой Марыі —
Марыя Магдалена імені ўласнага,
каму адкрыўся Езус,
калі знайшлі камень, адвалены ад магілы,
і Ён хадзіў па Зямлі, а ніхто не бачыў Яго,
Марыя Магдалена адна —
бо другія чакалі, а яна верыла.

І адкрыўся Езус, калі прыйшоў той дзень.

І пайшла ў палац пракуратара,
яечка галубінае белае
падала́ Пілату,
і кроў жывая стала ў яго руках —
так Хрыстус уваскрос!
і стала вера
на Небе і на Зямлі.

Пілат лепш за іншых ведаў,
куды знік Юда і чаму жывы Езус,
бо ведаў Пілат,
чые людзі майструюць свет,
а Магдалена не ведала —
Магдалена верыла:
Бог жыве між людзей
і сам сустракае,
каго захоча і калі захоча —
як паміж ліпенем і лістападам.

## Максім

Максім, высокі біскуп з Правінцыі[1]
ад мора да мора,
стаяў там, дзе пастаўлены быў.

Хісталі імперыю войны, рокашы, закалоты.
Легіёны эвакуявалі Брытанію.
Готы перайшлі Дунай,
спустошылі Ілірыю, Панонію,
разрабавалі Рым.
Аэцый[2] спыніў гунаў
на Каталунскім полі —
і быў забіты ў палацы імператара.
Гніла імперыя — ад патрыцыяў да рабоў.

Максім, высокі біскуп з Правінцыі,
стаяў там, дзе стаяў,
бо там быў пастаўлены —
не службай, а верай.
Бо меў такое імя: быць вышэй
і дацягнуцца да Бога.
А цярпенні і цуды яго
няхай спакойна спяць у Гісторыі,
як паміж Зямлёю і Небам,
бо чалавек абавязаны
заўжды стаяць там, дзе належыць.
І ў тым яго найвялікшы цуд.

## Cygnus[3]

Цвілі жаўлінкі і анюткі,
снег дзьмухаўцоў збіваўся ў пыл,
самотны Лебедзь плыў бялюткі
з рук Магдалены Радзівіл.

Быў час марозны, век спякотны,
ламаўся фронт, хістаўся тыл,
а Лебедзь плыў сабе самотны
ад Магдалены Радзівіл.

*Blancádo vélo unisóla*[4] —
пісаў дзівак[5] на свой капыл,
а Лебедзь быў яшчэ вясёлы
без Магдалены Радзівіл.

Але нядоўгі лёс пражыты
ў час перуноў, зламаных крыл —
і Лебедзь з неба ўпаў падбіты
да Магдалены Радзівіл.

І крыкнуў Лебедзь трубным плачам
на пекла край, на хмараў схіл —
і больш не жыў, і больш не бачыў
слёз Магдалены Радзівіл.

## Санет

У кнігах кожны час і кожны свет
заўсёды побач — там, дзе іх Паэт
і дзе пяро са смагай п'е атрамант.

Час вечаровы. Пах баршчу з шынка[6].
Раяль цалуе тонкая рука.
І летапісец згорбіўся ў пергамент.

Вось сімвал твой, забыты Краю родны!
Сапраўдны твар заўсёды старамодны.
Не будзь Эўропай — не смяшы людзей.

Бо там пісаць амаль ніхто не ўмее.
Бо сэрца б'ецца тут, там — камянее,
і тут жыві, пішы і халадзей...

## Мастак

Цяжкі час я занёс на крутую гару,
і цяпер ісці лёгка пад горку,
пазнаваць блізкі свет,
які выснію яшчэ да званка, —
Аляксандра Ліпеня спомню
ў труне на падворку,
смак халоднай і жоўтай,
спрацаванай рукі мастака.

Што мне думаць ізноў
тыя лёсы ўсяе Беларусі?!
Хто тут прыйдзе з вайной,
а хто будзе з чужою віной...
Калі думаць баюся,
над кім яшчэ нахілюся, —
пакуль нехта малодшы
нахіліцца нада мной?!

І пакуль тая зорка Венера,
як чайка, на Нёман не сядзе,
і пакуль свет стаіць
хутарскою газніцай у сне,
мне спакойна на гэтай зямлі,
бо ў сваім лістападзе
Аляксандр Іванавіч Ліпень
чакае мяне.

*2011 год, чэрвень*

[1] Паўднёвая Францыя
[2] Аэцый, «апошні вялікі рымлянін», 15 чэрвеня 451 года каля м. Труа ў Шампані разбіў 100-тысячную армію Атылы.
[3] лац.; герб «Лебедзь» мінскіх князёў Завішаў; ім пазначаная кніга М. Багдановіча «Вянок», выдадзеная ў 1913 г. у Вільні на грошы М. Радзівіл-Завішы;
[4] эсп. «Белеет парус одинокий», верш М. Лермантава, з перакладу якога пачалася мова эсперанта;
[5] Людвіг Замэнхоф, аптэкар з Гродна і Беластока, вынаходнік эсперанта;
[6] тут і далей: аплікацыі з вершаў М. Багдановіча.

# Франц Сіўко



**ФРАНЦ СІЎКО** — празаік, публіцыст. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра. Нарадзіўся 3 траўня 1953 г. на Мёршчыне. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Аўтар кніг прозы «З чым прыйдзеш...», «Апошняе падарожжа ў краіну ліваў», «Удог», «Ягня ахвярнае», «Бялячык», «Асіметрыя», «Дзень Бубна», «Выспы». У творчасці аддае перавагу жанрам прыпавесці і запісаў-эсэ. Даследуе асаблівасці рэалій айчыннага грамадства на пераломных гістарычных этапах у кантэксце агульначалавечых каштоўнасцяў. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча. Жыве ў Віцебску.

Ужо былі расстаўленыя дэкарацыі, і дубраўцы даўно адмовілі Ружанец, а ксёндз Юрак усё не ішоў. Гірык і Пятрок, адзін — у вобразе Хрыста, другі — рабіна, скурчыўшыся ад сцюжы (у сакрыстыі было зімна, як на дварэ), з надзеяй пазіралі то на дзверы, то на дзяўчат, што пад камандаю сястры Нікадэмы накрывалі стол для першай сцэны.

Ксёндз Юрак з'явіўся нечакана. Увайшоў пахмуры, са збялелым тварам, праз заднія дзверы, і адразу ж следам за ім у сакрыстыю ўваліліся двое паліцыянтаў. Адзін застаўся з артыстамі, другі прайшоў у залу, загадаў усім разыходзіцца. Затым падышоў да занавеса, рэзкім рухам сарваў яго з напятай упоперак сцэны драціны.

— Ну, па хатах!

Ксёндз Юрак падбег да яго, нешта ціха шапнуў на вуха.

— Нельга, маем загад. — Паліцыянт гаварыў гучна і вельмі злосна. — Надумаліся вы: рэлігійны сюжэт — па-тутэйшаму! Ксёндз дэкан незадаволены. І ў гміне таксама незадаволеныя. — Ён схапіў фанерыну з выяваю бэтлеемскай пячоры, прысланіў да сцяны. — Хто гэта маляваў?

— Гэты хлопчык. — Сястра Нікадэма паказала на Віталіка. — Таленавіты, хоць і малы.

— А няго ж, таленавіты! — Паліцыянт насмешліва скрывіўся, балюча ўшчыкнуў Віталіка за плячо.

Гірык кінуўся абараняць брата, але не паспеў. Зося стала між ім і паліцыянтам, прытуліла Гірыка да сябе.

— Ціха, ціха, дзяцёнак, — сказала і павяла сыноў на двор.

— Ну, як, нашпекакліліся? — Даўгалыгая Разлетунова постаць высунулася з-за сцяны плябаніі. — Чым займацца абы-чым, лепей быдла пасвілі б!

* * *

— Гірык, уставай, чуеш?

Ён расплюшчыў вочы: маці стаяла побач, тузала яго за плячо. З лепшага пакоя даносіліся мужчынскія галасы, раз-пораз прабіваўся паўз іх барытоністую гусціню сіплы жаночы. Віталік, ужо апрануты, стаяў ля дзвярэй, еў яблык. Мала-

# МІЖЧАССЕ

## Урывак з аповесці

джавы мужчына ў вайсковым адзенні выйшаў з пакоя, пыхнуў на хаду папяросінай, прайшоў да стала.

— Попить бы чего, хозяюшка, — сказаў рэзка і паправіў пояс з пісталетам. — И поесть бы тоже не мешало.

— Малака, можа? Сала крыху ёсць, бульбы.

— Сало и бульбу давайте, а молоко — нет. — Мужчына адмоўна хітнуў галавой. — Лучше воды.

— Зараз, зараз, паночку, — замітусілася па кухні Зося. — Гірык, збегай да калодзежа па сцюдзёную.

Гірык апрануўся, счакаў, калі вайсковец зноў пойдзе ў пакой, каб не пытацца пры ім, што за чужыя ў хаце, падышоў да маткі.

— Што за людзі такія?

— Саветы, сынок, — сказала Зося і прыклала палец да вуснаў. — Глядзіце ж, паводзьце сябе як след.

Калі ён вярнуўся, чужыя і з імі бацька сядзелі ў кухні за сталом. Мужчыны, усе ў аднолькавай вопратцы і пры зброі, елі, жанчына штосьці пісала ў сшытку.

— А мальчиков как звать? — спытала і акінула па чарзе позіркам братоў.

— Гэта — Гірык, — падштурхнула наперад старэйшага Зося. — А той — Вітолік.

— Виталик, может?

— Вітолік. Вітольды па-нашаму.

— По-вашему меня не интересует. — Жанчына запытальна зірнула на маладжавага. — Как быть, товарищ Гайдулькин?

— Виталием запишите, — адказаў той.

— Хорошо... Виталий. А этого как? Ладно, пусть будет Гирьян. А вас саму как зовут?

— Зося я. Паня, калі ў гуморы, Зоф'яй завець.

— Звала, — паправіла жанчына. — Понимаете — зва-ла. Запишем вас Софьей.

— Добра, панечка.

Жанчына хацела штосьці яшчэ сказаць, але перадумала. І толькі калі мужчыны паелі і дружна паўставалі з-за стала, нахілілася да самага Зосінага вуха, павольна, па складах прамовіла:

— Панечку забудьте, дорогуша. — І з'едліва дадала: — Если следом за ней в дальнюю дорогу не желаете. Так-то, товарищ Соня. Завтра оргсобрание в этих, как вы их называете... покоях, так приходите обязательно, председателя колхоза будем выбирать.

Бацька вылузнуў нагу з бота, сцінаючыся ад болю і стараючыся трымаць як вышэй расквеленую пяту, прайшоў па падлозе. Затым абкруціў ступню і падэшву анучаю, зноў уздзеў бот на нагу.

— Паўзці на той сход, — сказаў з уздыхам і запаліў папяросіну.

— І я хачу. — Вітолік саскочыў з печы, павіснуў на бацькавай шыі.

— Надумаўся! — Зося сцягнула сына з бацькавага карку, адштурхнула да печы. — Сядзіце ў хаце.

— Ах ты, вохці... — сказаў бацька і пасунуўся на двор.

Маці паварочала ў печы качаргою вуголле, заклала юшку, пайшла за ім следам.

Дзверы ў пакоі былі адчыненыя. Двое вартавых стаялі ля ўвахода, трэці, адзін з тых, што хадзілі напярэдадні з жанчынаю па хатах, бавіўся з біноклем на тэрасе лямуса. Яшчэ трое насілі на доле на падводу кублы з правіянтам. Ля афіцыйні чаляднікі грузілі на другую падводу мяхі перасеенага панскага збожжа.

У вялікай зале, ужо амаль пустой (мэблю вывезлі кудысьці ўначы неўзабаве па арышце гаспадароў) з тры дзясяткі дубраўцаў замёрлі ў пакутлівым чаканні. Было ціха, толькі аднекуль збоку, з аднаго з пакояў, даносіліся гукі патэфона. Раптам яны сціхлі і ў залу ўвайшлі двое вайскоўцаў, энергічна пакрочылі да стала.

Сход доўжыўся каля паўгадзіны. Калгас назвалі «Новы шлях», старшынёю аднагалосна абралі Разлетуна. Пачуўшы сваё імя, былы панскі фурман, які дагэтуль ціхамірна сядзеў у заднім радзе побач з Ванелем і Зосяй, так борзда падхапіўся з месца, што пераважаная целамі Старынскіх лаўка нахілілася долу і яны, не ўтрымаўшыся, зваліліся на падлогу.

Было смешна, але ніхто не азваўся ні гукам.

# Калі вабіць дарога…



Напярэдадні летняга адпачынку, шчаслівага часу пілігрымскіх шляхоў, калі нас чакаюць самыя розныя, чаканыя і нечаканыя, падарожжы, сустрэчы, прыгоды, **Ірына Жарнасек** гутарыць з чалавекам, які моцна і аддана любіць дарогу, — хірургам **Антанінай Гулько.**

*— Антаніна, мы з Вамі знаёмыя ўжо некалькі гадоў, і, калі б у мяне хто запытаў, як можна сцісла Вас ахарактарызаваць, я, мабыць, сказала б: «Чалавек радасці». Бо мне, напрыклад, цяжка ўявіць Вас без усмешкі на твары. Як Вам такая характарыстыка?*

— Дзякую за камплімент, я насамрэч менавіта так сябе і адчуваю. Такі стан маёй душы. Радасць — гэта праяўленне майго ўнутранага глыбокага шчасця. Хоць, думаю, пра мяне гэта завысока сказана, бо я зусім не ўмею выказваць сваіх думак і пачуццяў. Таму часта, на жаль, гэтая радасць забруджваецца маімі эмоцыямі і эгаізмам. Гэта як каханне: яно агромністае, але яно ў табе, усярэдзіне, разрывае цябе, і трэба працаваць, каб данесці яго іншаму чалавеку, навучыцца праяўляць яго. А ёсць хвіліны, калі ты проста спынішся на адзіноце, зірнеш у неба ці ў вочы іншаму чалавеку, і ўсё зразумела без словаў: радасць накрыла цябе з галавой! Але Вам хапіла некалькі гадоў, каб зразумець мяне, і такое адчуванне, што зазірнулі проста ў душу.

*— А Вы з дзяцінства былі такім жыццярадасным чалавекам альбо такім сталі?*

— Гэта пытанне да маіх залатых бацькоў. Думаю, яны так моцна кахаюць адно аднаго і любяць нас з сястрой, што мне проста не было куды схавацца ад іх радасці. І вось вынік: колькі сябе памятаю — заўжды такой была, а раней мо і плакала. Зрэшты, і цяпер люблю часам паплакаць.

А для радасці, калі задумацца, так шмат прычын! Любімая праца, прыгожая радзіма... На працы — радасць, дома — радасць, нават на вуліцу выйдзеш — і там радасць. А яшчэ радасць з'яўляецца вынікам умення быць удзячным. Чым больш я дзякую іншым, тым больш бачу добрага ў сваім жыцці.

*— Наша з Вамі гутарка плануецца для рубрыкі «На шляху веры», і таму заканамернае пытанне — што дае Вам вера? Яна не супярэчыць Вашаму радаснаму жыццёваму настрою?*

— Ведаеце, ёсць безліч тэорый і рэцэптаў, як быць радасным і пазітыўным, а таксама тлумачэнняў, чаму гэта карысна. У мяне ж усё вельмі проста і праверана жыццёвым досведам. Крыніца маёй радасці — Бог. Толькі Ён дае мне тую радасць, якой няма межаў, агеньчык якой не згасае нават у самыя балючыя хвіліны жыцця, радасці глыбокай, нязменнай, можа, нават і беспрычыннай, але якая мае сэнс... Я ў свой час, прызнаюся, шукала радасці ў шматлікіх рэчах і шмат у чым знаходзіла, ды толькі гэта былі часовыя эмоцыі, але не стан душы, таму што потым часта прыходзілі боль і пустэча. Бог шмат разоў кажа ў Біблії, каб мы радаваліся, таму ніякіх супярэчнасцяў. А калі б раптам давялося дзяліць гэтыя паняцці і выбіраць, то я і так выбрала б Бога.

*— Ведаю, што Вы вельмі любіце падарожнічаць. А гэтае захапленне адкуль? І што яно Вам дае? Што азначае для Вас дарога?*

— Мне вельмі блізкі вобраз вандроўніка з Бібліі. Чалавек — усяго толькі пілігрым на зямлі. Мае бацькі любяць вандраваць і з ранніх гадоў дазвалялі нам з сястрой таксама шмат ездзіць. Вандроўкі — адно з маіх наймацнейшых захапленняў, раз на год я мушу абавязкова кудысьці выбрацца. Інакш — «ломка». Гэта для мяне нашмат больш, чым проста адпачынак. Гэта асабліва благаслаўлёны час — час даверу Богу, час сустрэчы з самой сабой, часта вельмі нечаканай, час стаць заадно са сваім спадарожнікам. Дарога — гэта, вядома, і авантура, згода на рызыку, пошук прыгодаў. Для мяне падарожжы — бясконцая крыніца адкрыцця Божай велічы і прыгажосці ды разнастайнасці Яго стварэнняў. Таму так часта дарога змушае мяне сабраць заплечнік і рушыць са сваёй утульнай кватэркі насустрач новаму, дазваляе пакінуць дома свой статус, нейкія там дасягненні і з'явіцца ў свеце слабым дзіцем, якое ўсяму здзіўляецца і шукае Бога, а таксама мае патрэбу ў іншых людзях. Дарога — гэта таксама заўжды пачуццё, што цябе чакаюць дома, куды

ты абавязкова вернешся. І, як ні банальна, але вандроўкі ўзмацняюць маю любоў да Бацькаўшчыны. Я ў прынцыпе і размаўляць па-беларуску пачала пасля вандровак.

*— Так сумавалі ўдалечыні па радзіме? Альбо, гледзячы на абарыгенаў тамтэйшых краінаў, і самой моцна зажадалася адчуць сябе паўнавартасным беларускім «абарыгенам»?*

— Тут варта ўзгадаць братоўпалякаў. Польшча была добрым пачаткам гісторыі маіх вандровак. У адрозненне ад жыхароў далёкіх краінаў, палякі бачаць розніцу паміж расейскай і беларускай мовамі. Яны й арганізавалі мне сустрэчу лоб у лоб з пытаннем, якое дзіўным чынам у маёй краіне не было агучана: «Што насамрэч перашкаджае мне размаўляць па-беларуску?». Я, на сваё здзіўленне, не знайшла выразнага адказу. А калі сустрэла палякаў, якія вывучаюць маю мову і захапляюцца ёю, дык наогул адчула рэўнасць. Як так? Хто пасмеў цікавіцца маёй моваю больш за мяне?! Ды гэта быў толькі пачатак, потым прыйшла сапраўдная любоў да матчынай мовы. І чым больш я вандравала, тым больш разумела, што як мяне цікавяць асаблівасці іншых культур, так і іншаземцам я цікавая як прадстаўніца Беларусі — са сваёй культурай, сваёй аўтэнтычнасцю. Мяне заўсёды захапляла, як іншыя народы ганарацца сваёй краінай, мовай. І чаму нас Бог так абдзяліў, што мы свайго цураемся?

*— Відаць, гэтае пытанне ўсё ж больш не да Бога, а да нас саміх... Распавядзіце, калі ласка, Антаніна, пра Вашыя падарожжы, сцісла, вядома.*

— Гісторыя маіх падарожжаў даволі дзіўная. У мяне былі такія вандроўкі, калі я ехала практычна без грошай у кішэні, спала на падлозе ў аэрапортах і на вакзалах, ела хлеб з паштэтам і перамяшчалася аўтаспынам. А былі такія, калі жыла ў дарагіх гатэлях, харчавалася ў «крутых» рэстаранах і не лічыла грошай. Дзіўна тое, што ў абодвух выпадках я была бязмежна шчаслівая і бачыла руку Божую нада мною. Дзякую Богу за сваю сястру Таццяну, з якой зрабіла большую частку сваіх вандровак. Насамрэч, вельмі цяжка знайсці чалавека, з якім добра вандраваць. А мне, бачыце, і тут пашчасціла. Я вандравала крыху па Еўропе, але найбольш вабіць экзотыка. Люблю гарачыню, горы, моры, а з нядаўняга часу і акіяны. Што праўда, не люблю групавых паездак. Мне найбольш камфортна падарожнічаць дзікунамі. Адным з маіх найвялікшых адкрыццяў было Марока, бо гэта ж мая любімая Афрыка, мая любоў — Касабланка з першым у жыцці акіянам! У Ярданіі быў добры дотык да не надта папулярных сярод турыстаў святых мясцінаў. Рада, што пабачыла прыгажосць Сірыі да грамадзянскай вайны. Цікавай была вандроўка: Грэцыя — Турцыя — Грузія. Непараўнальная вандроўка на караблі з Батумі ў Адэсу... Таксама доўга марыла пра пустыню, і ўжо двойчы мая мара споўнілася. Ну а па гарах можна лазіць вечнасць! Маімі былі польскія Бескіды ды ганарысты Эльбрус, а таксама грузінскія Казбегі...

*— А не хацелася пасля такога актыўнага адпачынку проста паляжаць сабе на самоце ў гамаку?*

— Пакуль што гэтага не ўяўляю, але не адмовілася б прыснуць пасля працы ў якім вішнёвым садзе... Магчыма, я некалі і стамлюся, і захачу спакою, і без згрызотаў сумлення дазволю сабе гэта. Думаю, што на пенсіі я з радасцю паваляюся ў гамаку і пагрэю бакі на марскім пясочку. А пакуль, нават маючы слабасць да мораў і акіянаў, мяне ніяк не прываблівае простая паездка на мора. А час самоты, вядома, мусіць быць абавязкова, нават штодня — гэта час маёй малітвы, калі мы застаемся разам: толькі я і Бог.

*— Ведаю, што частка Вашых падарожжаў — гэта пілігрымкі да святых мясцінаў...*

— Так, гэта ўсё ж для мяне найбліжэйшы вобраз нашага зямнога вандравання. Са школы хадзіла ў паломніцтва з родных Баранавічаў у Будслаў, аднойчы нават з Брэста, калі была хіба самай малой ды адзінай дзяўчынай і прайшла цалкам увесь шлях. Потым некалькі гадоў хадзіла ў Чэнстахову. Нават занесла мяне са Славакіі да Чэнстаховы прагуляцца ў пілігрымцы. Вельмі быў цікавы досвед: малая група, усе розных нацыянальнасцяў. Бог робіць вялікія рэчы на такіх дарогах. Для мяне гэта адна з лепшых формаў евангелізацыі: ідзеш сабе пад крыжам, не саромеешся, молішся, спяваеш Богу, ахвяруеш свае ножкі, а навокал — лясы, лугі і неба. Час ад часу — вёсачкі са сваімі жыхарамі, што бачаць у табе Езуса, які ідзе праз іх вёску, і табе не трэба нічога мудрага казаць ці рабіць... Вось так бы ў штодзённым жыцці! І я, прызнацца, не ведаю, што люблю больш: сам шлях ці прыход да Маці.

*— Што для Вас наш Будслаў?*

— Вядома, кожны санктуарый — месца, пазначанае Богам. Але Будслаў — песня маёй душы, маё першае каханне. Напэўна таму, што роднае, наша, беларускае. Такі велічны агромністы храм проста пасярод вёскі, куды нават электрычка прыбывае за некалькі кіламетраў і дабірацца трэба праз палі. Гэта ў мяне асацыіруецца з такой, на першы погляд, неадпаведнасцю: вялікага Бога ў маленькім чалавечым сэрцы, да якога таксама не проста дабрацца. І так ім добра разам і гарманічна, нягледзячы на диспрапорцыю! Вось і мне – вельмі

добра ў Будславе, вельмі!

*— Не магу не запытаць пра тое, што мяне, можа, нават не ўражвае, а захапляе: як Вы адважыліся выбраць такую няпростую прафесію — хірурга? Пытаюся не толькі таму, што сама баюся крыві, але найперш маючы на ўвазе вялікую адказнасць, якую Вы не пабаяліся ўзваліць на свае плечы.*

— Ведаеце, медыцына, а потым і хірургія былі маёю мараю. А калі ідзеш за мараю, не задумваешся пра тое, колькі табе трэба адвагі, каб яе дасягнуць, і нават на цяжкасцях асабліва не затрымліваешся — бачыш толькі мару, жывеш ёю, і яна сама цябе грэе, надае моцы ісці і змагацца далей. Я часам уяўляла, як забяру Езуса з Крыжовага шляху і... загаю ўсе Яго раны...

Гэта насамрэч вельмі няпростая прафесія, але настолькі ж цікавая і творчая. Гэта больш, чым прафесія, гэта жыццё — тваё і іншага чалавека. Я настолькі была захоплена самой хірургіяй, што пакуль не пачала працаваць, нават і не ўяўляла, якая гэта вялікая адказнасць. Цяпер я часта пытаю ў Бога, чаму Ён даверыў мне сваіх дзетак? Браць на сябе адказнасць таксама трэба вучыцца. І я радуюся такой навуцы, хоць яна і каштуе мне часам бяссонных начэй, слёз, нерваў. У маёй працы вельмі яскрава бачна, як Пан Бог не скідвае ўсё на плечы чалавека, дакладней, я пастаянна бачу Яго бязмежны клопат за кожнага майго пацыента. Але, безумоўна, ад мяне патрабуецца максімум ведаў, умення, намаганняў, рашучасці і г.д. То бок, я раблю свой максімум, а што па-за маімі сіламі — робіць Ён.

*— А ёсць розніца паміж хірургам хрысціянінам і няверуючым спецыялістам?*

— Няма. Для лекара важнымі з'яўляюцца дзве рэчы: прафесійны ўзровень падрыхтоўкі і чалавечыя якасці. Першая залежыць выключна ад здольнасцяў і кніжак. Ну а другую і тлумачыць не трэба. Гэта я пра тое, што я нічым не лепшая за маіх калегаў. Усе мае чалавечыя слабасці прысутнічаюць і ў маёй працы: я злуюся, калі пацыенты не выконваюць прызначэнняў, я не магу лячыць бясконца, бо стамляюся, баюся ўскладненняў і гэтак далей. Здараецца, сярод няверуючых сустракаеш лекараў, вартых захаплення, а часам хрысціянам засціць вочы нейкая чалавечая слабасць. Сама прафесія вельмі чалавекалюбівая і патрабуе высокага ўзроўню агульнамаральных прынцыпаў. Гэта як параўноўваць проста высокамаральнага сумленнага чалавека і хрысціяніна. Да прыкладу, я адмаўлялася ад асістэнцыі на аперацыях па змене полу, бо гэта супярэчыць маім рэлігійным поглядам.

Дакладна магу сказаць толькі, што для мяне як для хрысціянкі мая хірургія мае такі сэнс: гэта не проста праца, а маё служэнне Богу, і ў гэтым служэнні я магу быць пасрэднікам паміж Богам і хворым чалавекам, паміж Божай любоўю і чалавечым болем. Вядома, пацыент для мяне — не толькі хворае цела, але найперш душа. Да таго ж, я маю прывілей маліцца за сваіх пацыентаў. Я веру ў цуды.

*— І Вы кажаце, што няма розніцы? Дазвольце не згадзіцца. Проста, відаць, ёсць жа розніца паміж сапраўдным хрысціянінам і, так бы мовіць, фармальным. Антаніна, я ведаю пра гісторыю Вашага нявыезду на працу ў Арабскія Эміраты. Фактычна Вы тады адмовіліся ад выгаднага праекту, але, апроч таго, Вы ж яшчэ адмовіліся і ад любімай экзотыкі. Не шкадуеце? Не марнееце ў маленькім гарадку Крупкі?*

– Ні аб чым ні секунды не шкадавала. Першы раз я адмовілася ад магчымасці вучыцца ў Польшчы. Была ў маёй біяграфіі такая старонка... Ды не змагла пакінуць тое, за што змагалася. Другі раз не выкарыстала магчымасці паехаць працаваць у Дубаі. Абедзве прапановы былі вельмі спакушальныя. Але пакуль сэрца не можа без роднай мовы і без нашых цудоўных людзей. Так што, для мяне менавіта гэта і ёсць мая самая любімая экзотыка. Крупкі былі маім свядомым выбарам, часткай маёй мары і Божага плану для мяне. А змарнець я магу толькі без кахання, без мараў і без крылаў. Таму кахаю і люблю — колькі маю сілы.

*— На якой жа прыгожай і высокай ноце мы заканчваем нашу гутарку! Ажно не хочацца развітвацца. Калі не сакрэт, куды збіраецеся пайсці альбо паехаць гэтым летам?*

— Не хачу казаць гучных словаў, але насамрэч для мяне вялікі гонар завітаць на старонкі «Нашай веры»! Дзякую за гэтую магчымасць. А летам я хачу схадзіць у Будслаў, бо не ведаю, як іначай магу выказаць падзяку Богу за пражыты год. Таксама хачу ўпершыню паспрабаваць сплыў па рэчцы на каяках па ўкраінскім Закарпацці з наведваннем музычных фэстаў *open-air*, бо не ўяўляю сябе без музыкі і танцаў. А яшчэ год таму пачала марыць пра Святую Зямлю. Праўда, баюся туды ехаць, каб не ўбачыць на зямлі, па якой ступаў мой Езус, звычайны турызм ды гандаль... Для гэтай паездкі, лічу, трэба быць добра духоўна падрыхтаваным і дарасці. Мо настаў ужо мой час? Хачу пабываць у Палестыне і пабачыць на свае вочы сапраўдную сітуацыю між ізраільцянамі і палестынцамі. Адным словам, мараў шмат, і ўсе іх кладу да ног Пана Бога...

**Кшыштаф Занусі** — знакаміты польскі рэжысёр. Многія яго фільмы даўно сталі сусветнаю класікаю. Уражвае шматграннасць яго творчых пошукаў, якія сягаюць таксама і глыбіняў хрысціянскай тэматыкі. Беларускаму гледачу вядомыя такія яго фільмы як «З далёкага краю» (1981 г.) — пра гісторыю жыцця Караля Вайтылы, будучага папы Яна Паўла II; «Брат нашага Бога» (1997 г.), створаны па аднайменнай п'есе Караля Вайтылы; «Жыццё за жыццё. Максімільян Кольбэ» (1990 г.). Кшыштаф Занусі — жыццялюб, якіх пашукаць. У жыцці і творчасці. Пагаварыўшы з ім, адчуваеш, што і твая меланхолія развейваецца, як ранішні туманок над росным поплавам. Шчыра кажучы, мне доўга не хацелася пакідаць утульную варшаўскую кінастудыю TOR на вуліцы Пулаўскай. У сціплым кабінеце славутага рэжысёра мы гутарым пра кіно польскае і беларускае, пра супернічанне культураў і прагу жыцця, уласцівую не толькі асобным людзям, але і народам...



# ВЯЛІКІ ЖЫЦЦЯЛЮБ

— *Пан Кшыштаф, у Мінску сёлета мы перажылі пяць месяцаў зімы, а ў Варшаве і ў лютым, і ў сакавіку былі бясснежныя вуліцы. І мне падумалася, што гэта вельмі добра для кінавытворчасці. Нейкіх 500 кіламетраў праехаць — і можна здымаць зусім іншую натуру. Не трэба чакаць. А чым яшчэ беларусы і палякі маглі б узаемна дапамагаць адны другім, апрача клімату?*

— Сказанае вамі — больш метафара, таму што клімат у нас толькі трошкі цяплейшы, розніца невялікая. Чым мы можам дапамагаць узаемна? Ну, напрыклад, у вас на Палессі — такія прасторы, якія здзіўляюць любога турыста. А ў нас ёсць горы і мора, якіх у Беларусі няма. Так што ў геаграфічным сэнсе мы можам сябе выдатна дапаўняць. А вось культуры заўсёды жывуць як супернікі: заўсёды больш дынамічныя культуры перамагаюць менш дынамічныя. Таму прыемныя на слых словы пра супрацоўніцтва культураў непраўдзівыя. Мы супернічаем, і той, хто слабейшы, прайграе. Культуры бываюць моцныя і слабыя, бываюць моманты, калі адна культура падымаецца, а потым занепадае. Паглядзіце на гісторыю Еўропы, напрыклад, на кельтаў. Ірландыя калісьці была ці не самай развітай часткай Еўропы, а сёння Ірландыя такой ролі не выконвае, яна практычна страціла сваю мову. Але гэта не азначае, што яе заняпад — назаўсёды. Можа быць, ірландцы яшчэ вернуцца ў першы шэраг, але гэта залежыць ад многіх рэчаў, найперш ад іх жадання. Паглядзіце на літоўцаў — яны на некалькі стагоддзяў страчвалі сваю мову, а цяпер вярнуліся да яе. Чэшская мова пасля бітвы пад Белай Гарой знікла таксама, але праз два стагоддзі вярнулася. Так бывае. Культуры квітнеюць і занепадаюць, але яны заўсёды супернічаюць паміж сабою.

— *Вы здымаеце фільмы на розных мовах. Наколькі для Вас моўны чыннік істотны?*

— Для мяне мова — вельмі істотная рэч, бо я толькі польскай мовай валодаю дасканала і цалкам адказваю за ўсе словы. Але вельмі часта мне даводзілася працаваць і на іншых мовах. Я зняў карціны па-англійску, па-французску, па-італьянску, па-нямецку, па-руску. Гэтымі мовамі я таксама валодаю, але не ў дастатковай ступені. А калі ты залежыш ад перакладчыка, гэта абмяжоўвае. Але глабалізацыя сёння зайшла так далёка... Ну вось, калі б я здымаў карціну ў Брусэлі, то на якой мове? На галандскай, на французскай, на англійскай — ніхто не здзівіцца. Аб'яднаная Еўропа мае сваю сталіцу — Брусель. І такіх месцаў на зямлі вельмі шмат. Мой новы фільм — пра вялікую міжнародную карпарацыю — будзе зняты часткова на англійскай, часткова на італьянскай, часткова на польскай, часткова на рускай мовах. Там героі будуць размаўляць кожны на сваёй роднай мове, і гэта натуральна. Так сёння даводзіцца працаваць.

— *Беларускае кіно амаль заўсёды здымалася па-руску. Вось і нядаўні фільм Сяргея Лазніцы, зняты па аповесці Васіля Быкава «У тумане», — рускамоўны. Дарэчы, як Вы яго ацэньваеце?*

— Я лічу, што гэта вельмі вартасная карціна высокага гатунку для публікі першага класу. «У тумане» — велізарнае дасяг-

ненне Сяргея Лазніцы, але ці беларускае гэта кіно? Цяжка сказаць. Зняты фільм усё ж па-руску, і з гледзішча культурнага коду належыць да рускай культуры, нацыянальна-беларускага там нічога не адчуваецца. Нацыянальнае кіно павінна адлюстроўваць беларускі менталітэт, беларускую гісторыю, беларускую сучаснасць. Яно павінна выяўляць той гістарычны досвед, які мае беларуская нацыя. Я чакаю такую карціну і буду глядзець яе з цікавасцю.

*— У эпоху глабалізацыі ці павінен мастак трымацца сваёй нацыянальнай культуры?*

— Тут немагчыма даваць універсальныя парады. Прыгадайма Набокава ці Бродскага, якія пачыналі на адной мове, а заканчвалі на іншай. Прыгадайма Джозефа Конрада, які лічыцца класікам англійскай літаратуры, але ён быў палякам і да канца жыцця гаварыў па-англійску з памылкамі. Проста існуюць агульначалавечыя каштоўнасці, і пра іх можна сказаць нават у вельмі лакальнай карціне. Помню, у юнацтве я глядзеў японскую карціну пра тое, як на востраве не хапала вады і людзі кожны дзень хадзілі на гару па ваду. І гэта кранала ўсіх ва ўсім свеце, хоць больш лакальнай карціны нельга сабе ўявіць. Я магу сабе ўявіць лакальную карціну з Беларусі, падобную да тых, якія нядаўна бачыў у Румыніі. Яны цікавяць усіх, бо яны закранаюць агульначалавечыя праблемы.

*— А што мастак мае рабіць, калі ў ягонай краіне не ўсё добра з палітычным ладам? З'язджаць ці заставацца? Вось два прыклады: Томас Ман і Ганна Ахматава. Ман пакінуў гітлераўскую Нямеччыну, Ахматава засталася ў сталінскім Савецкім Саюзе. За кім рацыя?*

— І тут таксама няма адной, карыснай для ўсіх, парады. Так, Томас Ман эміграваў у Амерыку і там працаваў у варунках чужой мовы, але потым ён ужо ніколі не вярнуўся ў Нямеччыну, жыў у Швейцарыі. Ён меў гэтае шчасце — другую нямецкамоўную краіну. Бо атрымалася так, што ён як бы разышоўся палітычна са сваёй нацыяй. Нямеччына дэмакратычным шляхам абрала Гітлера. І той, хто хацеў застацца немцам, павінен быў зразумець, што большасць нацыі — супраць яго, калі ён — супраць Гітлера. Гэта што датычыць Нямеччыны. А вось Расія такіх магчымасцяў не дае, бо па-руску нідзе, акрамя Расіі, не гавораць. Я не магу ўявіць Ганну Ахматаву на эміграцыі. Хоць Бунін пісаў і жывучы ў Францыі. Набокаў знайшоў сябе ў англійскай мове, як і Бродскі. Андрэй Таркоўскі эміграваў, бо ведаў, што Бандарчук і іншыя савецкія кінамэтры не дадуць яму працаваць у Расеі. І ён застаўся на Захадзе, каб выратаваць свой талент. І ён яго выратаваў, і зняў свае самыя лепшыя карціны ў Італіі, у Швецыі. Значыць у гэтым была неабходнасць.

*— Ёсць такі выраз — «ён знаходзіцца на вяршыні ўлады». Але не гаворыцца пра чыёсьці знаходжанне на вяршыні мастацтва. Якая вяршыня ўсё ж вышэй?*

— Я ніколі не глядзеў на ўладу знізу ўверх, такі погляд характэрны, хіба, для XIX стагоддзя. Я здзіўляюся, калі чую, як рускія дзякуюць нейкаму там губернатару за тое, што ён пабудаваў дарогу. Для нас, людзей заходніх, гэта гучыць проста як жарт: якая тут заслуга губернатара? Ён атрымлівае грошы з маіх падаткаў і працуе, каб пабудаваць за мае грошы маю дарогу. У гэтым сэнсе я не бачу ніякай розніцы паміж прэзідэнтам і прыбіральшчыцай — я ім плачу і патрабую ад іх добрай працы. І таксама выбіраю, каго я хачу мець у якасці прыбіральшчыцы, а каго ў якасці прэзідэнта. Улада — гэта служба, а калі служба кепская, трэба рабіць усё, каб гэтую службу прагнаць. А мастацтва — зусім іншая ўлада. Мастак дзеліцца з людзьмі сабою, сваёю душою, сваімі думкамі, ён дапамагае людзям знайсці сябе, навесці парадак у іх светапоглядзе. У мастацтва зусім іншая роля, і з палітычнай уладай яно аніяк не перасякаецца.

*– Ваш першы фільм датуецца яшчэ 1969 годам. Вы шмат паспелі зняць яшчэ ў Польскай Народнай Рэспубліцы. Ці перашкаджала Вам цэнзура?*

– Яшчэ як перашкаджала! Але гэта былі пэўныя правілы гульні, і я загадзя ведаў, што могуць выразаць з карціны. І калі выразалі, я радаваўся, што дайшоў да мяжы. Калі нічога не выразалі, я перажываў. А калі выразалі самае галоўнае, значыць не трэба было рабіць такую карціну. Фільм «Галоп» я хацеў зняць у камуністычныя часы, але своечасова зразумеў, што палову яго не прапусцяць. І тады я сказаў сабе — трэба чакаць. Пачакаў 20 гадоў і зняў, калі камуністычная сістэма рухнула. І сёння я не заўсёды магу здымаць тое, што хачу. Некаторыя прывабныя для мяне праекты ва ўмовах свабоднага рынку проста не маюць аніякіх шанцаў. Трэба быць рэалістам. Хоць часам хочацца і памарыць. Дарэчы, у сярэднія вякі марыць было вялікім грахом для католіка. І сёння мастак павінен глядзець праўдзе ў вочы, глядзець на бруд жыцця, а не сыходзіць ад яго, не паварочвацца да яго спінай і гаварыць, што гэта мяне не датычыцца. Не, гэта наш лёс — жыць у бруднай рэальнасці і спрабаваць выратаваць тое, што яшчэ магчыма выратаваць.

*— Існуе меркаванне, што цэнзура спрыяе мастаку ў вобразатворчасці. Ён стараецца абысці забароны і тым самым паглыбляе свой твор у мастацкіх адносінах. Вы згодныя?*

— Не. Ёсць падобная думка, што сабака добра вас бароніць, калі ён галодны. Гэта таксама няпраўда. І цэнзура аніякай станоўчай ролі ў гісторыі ніколі не адыграла. Калі цэнзура ў чымсьці дапамагае, то гэта датычыцца публікі, а не мастака. Публіка, якая жыве ў цэнзураваным свеце, вельмі ўважліва глядзіць на творы мастацтва. Гэта фантазія публікі дапамагае ёй зразумець тую ці іншую метафару. Вольнае і сытае грамадства маёй метафары можа і не заўважыць. Пры заможным жыцці людзі няшмат патрабуюць ад мастацтва. А несвабодная публіка шукае ў мастацтве жаданае. Але гэта не заслуга цэнзуры. Мастаку яна заўсёды перашкаджае. Што мы робім? Мы дзелімся таямніцай, бо мастацтва — гэта таямніца. І нам у выяўленні гэтай таямніцы могуць дапамагчы толькі вобразы, метафары. Мы наўпрост нічога не можам сказаць пра таямніцу, бо яна не будзе таямніцай, калі яе можна проста растлумачыць.

*— Сучаснае кіно — гэта пераважна гвалт, забойствы, крымінал. Можа быць, усё ж патрэбная разумная цэнзура? Бо інакш як спыніць тое, што сёння творыцца на экране?*

— Ведаеце, гэта таксама не датычыць цэнзуры. Гэта датычыць чалавека. У яго свабодны выбар. Ніхто нікога гвалтам не прымушае глядзець дрэнныя карціны ці чытаць дрэнныя кнігі. Калі людзі самі гэтага хочуць, нішто іх не выратуе. Гэта як наркотыкі. Можна забараніць наркотыкі, але найлепш, каб людзі самі ад іх адмовіліся. Калі я сам адмоўлюся, наркотык не мецьме нада мною ўлады. Але калі я сам хачу глядзець на гвалт і забойствы, ніякая цэнзура не дапаможа. Я бачыў, як у многіх краінах спрабавалі пры дапамозе цэнзуры нечага дамагчыся, прыкладам, у Іране, дзе я часта бываю. Там вельмі моцная цэнзура, але яна не дапамагае. Хто хоча, той усё ўбачыць — прыхавае той жа парабалічны дыск і будзе глядзець забароненае.



Падчас размовы ў кабінеце К. Занусі.

*— Нярэдка аўтарытарныя кіраўнікі прыкрываюцца дружбай з вядомымі творцамі. Апошні прыклад — Пуцін і актор Жэрар Дэпардзье, які як узнагароду атрымаў ад расійскіх уладаў грамадзянства і некалькі кватэраў. Заігрывае з дыктатарамі і рэжысёр Эмір Кустурыца. Гэта кепска?*

— Я добра ведаю Кустурыцу і лічу яго чалавекам, у якога вялікія праблемы са сваёй ідэнтыфікацыяй. Разумееце, яго радзіма знікла падчас ягонага жыцця! Я падазраю, што ён крышку заблытаўся і не вельмі добра разумее, у якім напрамку ісці і як сябе паводзіць. Ужо некалькі разоў гэтаму былі яскравыя прыклады. Што да ўзнагародаў, то і я маю сумненні, ад каго іх прымаць і ў якіх умовах. Гэта проста праблема густу. На маю думку, мастаку трэба ад любой улады трымацца на дыстанцыі — гэта тыпова заходні падыход. З таго часу, як свецкая і рэлігійная ўлады на гэтай зямлі падзяліліся і сталі аўтаномнымі, у нас у заходнім менталітэце заўсёды ёсць гэтая дыстанцыя. Не трэба быць на паслугах ва ўлады, трэба быць яе крытыкам, трэба быць ад яе незалежным. Вядома, можна і супрацоўнічаць з уладаю, але толькі там, дзе мы лічым, што ўлада робіць нешта правільна. Але ніякім чынам не трэба аддаваць сябе ёй на службу. Нават у часы Французскай рэвалюцыі Мальер, хоць і працаваў для французскага караля і за яго грошы, але таксама і разбураў каралеўскую ўладу, бо знаходзіў у яе дзейнасці слабыя бакі.

*— У фільме «Сэрца на далоні» ў галоўнай ролі Вы знялі ўкраінскага актора Багдана Ступку. Чым звычайна абумоўліваецца для Вас выбар замежных актораў?*

— Усё залежыць ад сцэнарыя. У «Сэрцы на далоні» было неабходна паказаць алігарха. У нас у Польшчы няма сапраўдных алігархаў, і мы смяемся, што нам не пашанцавала, таму што для драматургаў гэта кепска. Калі б не было каралёў-злачынцаў, Шэкспір застаўся б бес-

працоўным! У Польшчы няма кантрастаў, няма напругі ў грамадстве. Сітуацыя падобная на нармальную дэмакратыю, але для драматурга гэта нязручна. Для чалавека, для грамадзяніна вельмі добра, што наша палітыка такая нецікавая, — ніхто нікога не забівае, ніхто нікога не садзіць у турму. Ну, паспрачаюцца ў парламенце. І таму алігарх у «Сэрцы на далоні» мусіў быць з акцэнтам. А Багдан Ступка, светлая яму памяць, нарадзіўся ў Львове і выдатна гаварыў і папольску, і па-ўкраінску, і па-руску. Гэта трохмоўны актор. І ён выдатна сыграў алігарха, які з Усходу прылятае самалётам. Я не канкрэтызую, адкуль ён прыляцеў, але ёсць такі міжнародны Усход, дзе ўсе казачна багатыя. І тым багацеям здаецца, што ім усё дазволена. Але насамрэч — не ўсё.

*— У Вас вельмі шмат самых розных узнагародаў. Наколькі важныя для Вас не толькі ўвага і любоў гледачоў, але і знакі дзяржаўнай увагі?*

— Я б не сказаў, што яны вельмі для мяне важныя, але — прыемныя. Я толькі што атрымаў, ужо друг раз, французскі ордэн. Мяне ўзнагароджвалі і літоўцы, і венгры, і французы, і італьянцы – узнагародаў у мяне сапраўды даволі шмат. Мая жонка заўсёды жартуе, што іх можна будзе пабачыць толькі падчас пахавання, бо іх тады нясуць на падушачках... Але ў жыцці што з імі рабіць? Ніхто, акрамя рускіх, штодзённа ўзнагароды не носіць. Розныя ўзнагароды, прэміі — гэта радасць, але гэта адначасова пустата. Вядома ж, яны часам могуць спатрэбіцца. Скажам, калі нехта захоча адправіць мяне «ў адстаўку», у мяне ёсць моцны аргумент супраць гэтага — мяне ўзнагароджваюць, так што дайце мне яшчэ папрацаваць (*смяецца*).

*— Чаму Вы прынцыпова не экранізуеце класіку? Польская літаратура такая багатая на гістарычныя сюжэты!*

— Вядома ж, багатая. Але калі літаратурны твор з'яўляецца шэдэўрам, навошта мне яго пераводзіць у кінамастацтва? У XIX стагоддзі з удалай п'есы рабілі оперу. Сёння гэта вялікага сэнсу не мае. Хай класіка літаратурная застаецца літаратурай, а я спрабую дасягнуць класікі ў кіно. Мае калегі робяць выдатныя экранізацыі! Я вельмі паважаю Гофмана і Вайду, якія рабілі найвыдатнейшыя экранізацыі польскай літаратуры, і мяне гэта радуе. Яны гэта зрабілі за мяне. Як глядач я застаўся задаволены. А сам я не хачу гэтага рабіць.

*— Беларуская і польская мовы вельмі блізкія, мы можам паразумецца без перакладчыка. Апошнія гадоў пятнаццаць у Беларусі ідзе актыўная русіфікацыя. Як можна абараніць мову?*

— Гэта залежыць ад волі народа. Больш за сотню гадоў рускія забаранялі польскую мову. Нельга было нават у школе гаварыць па-польску, але польская мова аніяк ад гэтага не пацярпела. Наадварот, мы моцна трымаемся нашай мовы. Калі ў народа ёсць жаданне абараніць мову, ён яе абароніць. Але часам чалавеку не хочацца жыць. І ў нацыі, як і ў чалавека, бываюць такія часы, калі яна не хоча жыць, і тады нацыя памірае. А ёсць у людзей такі ўнутраны рух, калі яны хочуць быць нацыяй. І я бачу, як гэта адбываецца, напрыклад, у Казахстане, дзе казахі — меншасць. Але як там магутна адраджаецца нацыянальная самасвядомасць казахаў, якія былі заўсёды прыніжаныя і падвяргаліся русіфікацыі, як і беларусы! А вазьміце Канаду, дзе меў месца вялікі ўціск французскай мовы, а як яна квітнее цяпер! Яе не ўдалося знішчыць, хоць уплыў англійскай мовы там каласальны. Усё залежыць ад таго, ці ёсць у нацыі жаданне жыць. Гэтак і сярод людзей — хто стаміўся і лічыць, што яму не варта жыць, той памрэ, а хто хоча жыць, той выжыве.

*— Па Вашых назіраннях і адчуваннях — беларусы стаміліся жыць?*

— На першы погляд — так. Але ў глыбіні вашага народа, калі пакапацца, даўжэй пагаварыць з людзьмі, я бачу непераадольнае жаданне выжыць, пераждаць усе ўціскі. Вы, беларусы, вядомыя тым, што ўмееце вытрываць усе выпрабаванні. Асабліва сіла беларусаў праяўляецца ў супраціўленні знешняму ўціску.

*— Беларусь знаходзіцца на памежжы заходняй і ўсходняй цывілізацый. У сувязі з гэтым Беларусь бачыцца Вам якой? Бачыцца Вам дзе? І ці бачыцца ўвогуле?*

— Бачыцца, безумоўна. І я вельмі хачу, каб мой усходні сусед быў самастойным у мысленні, у сваім палітычным выбары, у мове. Гэта не толькі мой асабісты інтарэс. Гэта інтарэс Еўропы, каб беларусы існавалі і адрозніваліся і ад палякаў, і ад - рускіх, і ад літоўцаў, і ад украінцаў. Незалежная Беларусь — агульнаеўрапейскі інтарэс. Калі б Беларусь знікла і ператварылася проста ў банальную рускую правінцыю, гэта было б вялікай стратай для нас усіх. Але я перакананы — гэтага не адбудзецца.

*Гутарыў Міхась СКОБЛА.*

# Ференц Ліст: *фантазія і фуга для арганаў на тэму з оперы Дж. Меербера «Прарок» («Ad nos, ad salutarem undam»)*


«Ференц Ліст», каля 1880 г., малюнак Франца фон Ленбаха.

Пра славутага еўрапейскага кампазітара вугорскага паходжання Ферэнца (Франца) Ліста ў гісторыі сусветнай музыкі напісана надзвычай багата. Піяніст-віртуоз, пачынальнік традыцыі публічнага сольнага фартэп'яннага канцэртавання, кампазітар-эксперыментатар — гэта ўсяго толькі частка характарыстыкаў творцы. Прадметам асобнага артыкула можа стаць ягоная яскравая і авантурная біяграфія. Дарэчы, Ферэнц Ліст быў шчырым вернікам, а ў позні перыяд свайго жыцця нават прыняў духоўны сан.

Вядомы амаль кожнаму чалавеку — прафесійнаму музыку або не — унёсак кампазітара ў эвалюцыю фартэпіяннай музыкі і тэхнікі выканальніцтва: Лісту належаць шматлікія канцэртныя фантазіі, эцюды, некалькі цыклаў фартэпіянных мініяцюраў, славутыя венгерскія рапсодыі, два канцэрты і несмяротная сі мінорная Саната. Значную частку ягонай творчасці складаюць апрацоўкі і парафразы на тэмы твораў іншых кампазітараў. Здавалася, што Ліст чэрпае асаблівае натхненне ад працы над чужым музычным матэрыялам, бо творы з гэтай катэгорыі складаюць амаль палову ягонай музычнай спадчыны. Варта адзначыць яшчэ адну асаблівасць творчага стылю класіка: жарсць да апрацовак і пераапрацовак тычылася не толькі твораў іншых музыкаў, але і сваіх уласных, што і абумовіла з'яўленне шматлікіх варыянтаў п'есаў, заснаваных на першапачаткова ідэнтычным матэрыяле.

Гэтыя дзве іпастасі Ліста — кампазітара-піяніста і аранжыроўшчыка — шырока вядомыя, але не шмат людзей абазнаныя ў тым значным унёску, можна сказаць, рэвалюцыйным, які ён здзейсніў у сферы арганнага мастацтва, найперш — у філасофіі кампазітарскага разумення гэтага «караля інструментаў». Першы і, бадай, адзін з найбольш значных твораў (Прэлюдыя і фуга на тэму B-A-C-H) для арганаў Ліст напісаў у досыць сталым узросце ў 1850 годзе, а апошні — у апошнія месяцы жыцця ў 1886 годзе. І на працягу гэтага перыяду кампазітарам былі створаны значныя і вельмі глыбокія па змесце арганныя паэмы-медытацыі (шмат з якіх, дарэчы, таксама былі аранжыроўкамі ягоных аркестровых, харавых або фартэпіянных твораў). З узростам стыль кампазітара становіцца ўсё болей інтравертным, малітоўна-трансцэндэнтальным: у позніх творах Ліст цалкам выракаецца віртуозных элементаў як недарэчных у сакральнай музыцы (прынамсі, сваёй уласнай). Гэтыя творы амаль немагчыма пачуць цяпер у арганных канцэртах (напэўна, з-за іх акрэсленай антыканцэртнай скіраванасці).

Датычна значнасці лістаў-

скай арганнай спадчыны варта працытаваць словы з адной сучаснай яму публікацыі, дзе гаворыцца, што «...Ліст заняў гэткую самую пазіцыю ў арганным мастацтве, што й раней у фартэпіянным. Такім самым чынам, якім ён раней эксперыментаваў на „піянафортэ“ — цалкам унікальным — сёння, за арганамі, ён дасканала разумее, як выявіць паўнату бляску і веліччы гэтага інструмента» (Франц Брэндэль, *Zeitschrift für Musik*, 15, 5 кастрычніка 1855 г.). Гэтая цытата дае яскравае адлюстраванне прадбачаных аўтарам наватарскіх высілкаў Ліста, без якіх немагчыма было б уявіць найвышэйшыя дасягненні французскай арганна-сімфанічнай школы, прадстаўнікамі якой сталі Франк, Відор, В’ерн, у нейкай ступені Сэн-Санс, а таксама шэдэўраў і манументальных арганных палотнаў нямецкага позняга рамантызму і экспрэсіянізму ў асобах Рэгера, Фермана і Карг-Элерта.

Значнасць арганнай творчасці Ліста выявілася ў знаходжанні ім разумення арганаў як сімфанічнага інструмента. Ягоны найбуйнейшы і, мабыць, найбольш значны твор — фантазія і фуга «Ad nos, ad salutarem undam» на тэму з оперы «Прарок» Дж. Меербера. Па сутнасці, гэтая п’еса — адзін з найпершых пошукаў у рэчышчы сімфоній для арганаў SOLO. Трэба адзначыць, што маштабныя арганныя творы з назвай «сімфонія» з’яўляліся і раней, але, дзякуючы гістарычнаму збегу абставін, яны засталіся па-за ўвагай музычнага мэйнстрыму. Гэта можна сцвярджаць досыць упэўнена, нягледзячы на тое, што фантазія не адпавядае характарыстыкам жанру сімфоніі, а твор не мае адпаведнага аўтарскага падзагалоўка. Рэч у тым, што «протасімфанізм» выяўляецца ў фантазіі праз яе манументальны размах, кантрасны тэматызм і ўласна трактоўку кампазітарам арганаў як дзіўнага сімбіёзу фартэпіяна і сімфанічнага аркестра. Кідаецца ў вочы і тое, што галоўная тэма твора запазычана з оперы.

Так званым «прарокам» у сюжэтнай фабуле оперы выступае звычайны хлопец, уладальнік карчмы — Ёган. Пératварыцца ў крыважэрнага тырана яго змусіла прага адпомсціць крыўдзіцелям, панам д’Обэрталям, за гвалтоўныя разлучыны з ягонай каханаю — Бертай. Каб вызваліць яе, Ёган пагаджаецца на прапанову анабаптыстаў называцца прарокам і павесці іх войскі на штурм гарадоў і кляштараў. Між тым, сама Берта ўцякла з палону паноў, кінуўшыся з муроў замка, і распачала пошук Ёгана. Захапіўшы ўладу ў Мюнстэры, анабаптысты ўсталявалі там сваю тыранію, а жыхароў давялі да галечы. Берта даведваецца ад маці Ёгана, якая страціла сувязь з сынам, што той, мусіць, быў забіты войскамі «прарока», і таму клянецца адпомсціць... Між тым супольныя імперскія войскі ідуць на штурм захопленага Мюнстэра. Шанцы на перамогу мізэрныя, таму анабаптысты змаўляюцца выдаць Ёгана, але той даведваецца пра гэта і задумвае свой план. Неўзабаве ён сустракае Берту, якая пранікла ў замак «прарока», каб падарваць склады з порахам. Але, пазнаўшы ў «прароку» Ёгана і ўсведамляючы, што яе каханы стаў прычынай крыві ды гвалту па ўсёй краіне, Берта забівае сябе кінжалам. У адчаі Ёган спраўляе апошні баль, падчас якога, у момант, калі на сцэне з’яўляюцца ўсе дзейныя асобы — імперскія войскі, паны д’Обэрталі, паплечнікі-здраднікі анабаптысты — адбываецца выбух і ўсе гінуць. Як бачым, насычаная тэматыка няшчаснага кахання, помсты і здрады змрочна гармануе з рамантычным пафасам опернага лібрэта, далёкага ад пераказу традыцыйных біблейскіх сюжэтаў.

Тэма «*Ad nos, ad salutarem undam*» (з лац. «З намі, да хваляў збавення») з’яўляецца псеўдахаралам у тым сэнсе, што ў оперы (у першай дзеі) яна выконваецца хорам анабаптыстаў і сваёй структурай імкнецца адпавядаць старадаўнім аўтэнтычным харалам часоў класічнай Рэфармацыі. Праз усё дзеянне оперы яна сімвалізуе заклік да паўстання і барацьбы народных масаў з арыстакратычным прыгнётам. Такі быў час!.. У трохі змененым Лістам выглядзе тэма становіцца асновай развіцця, рухавіком усіх музычных падзеяў п’есы на працягу прыблізна паўгадзіны (час выканання фантазіі вагаецца ў залежнасці ад выканаўцы ад 25 да 39 хвілінаў). Сама тэма ўмоўна падзяляецца на дзве часткі, а фантазія мае тры выразныя раздзелы. Першая частка тэмы складае галоўны музычны матэрыял пачатковых 140 тактаў і мае трывожна-напружаны характар. Пасля адразу з’яўляецца другая палова ў выглядзе пабочнай тэмы, і яе асаблівасцю ёсць фанфарна-батальны афект, што падкрэсліваецца аўтарскім указаннем рэгістроўкі — *Tromba.* Пасля дасягнення кульмінацыі праз невялікі рэчытатыўны раздзел Ліст падводзіць нас праз шэраг мадуляцыяў да казачна-медытатыўнай другой часткі (*Adagio*) такім чынам, што слухач не павінен заўважыць пераход. Пачатак другой часткі вызначаецца аднагалосым правядзеннем усёй тэмы цалкам у мажоры на *pia-*

*nissimo*. Праз досыць працяглы час міралюбна-пастаральных пераўвасабленняў музычнага матэрыялу знянацку наскоквае агрэсіўны ўступ-рэчытатыў трэцяй часткі *Allegro deciso*, які, ізноў жа мадуляцыйна, выліваецца ў фінальную фугу-фантазію, дзе галоўная тэма праз шэраг варыяцыяў падводзіць слухача да апафеознага фінальнага харалу ў экстатычным, асляпляльным до мажоры.

Прэм’ера оперы «Прарок» Джакома Меербера адбылася 16 красавіка 1849 года. Поспех пастаноўкі быў такі вялікі, што кампазітара ўшанавалі ордэнам Ганаровага легіёну. Слава оперы хутка выйшла за межы Францыі, і неўзабаве адбыўся шэраг іншых прэм’ераў у шматлікіх гарадах Германіі. Такім чынам, музыка «Прарока» стала вядомая Лісту і, відавочна, моцна яго ўразіла, бо ён амаль адразу паспрабаваў шляхам перапіскі з аўтарам набыць партытуру оперы для стварэння парафразаў на тэмы з яе. Замест партытуры, аднак, кампазітар атрымаў толькі клавір оперы, але гэтага было досыць, каб пачаць сваю працу. Першапачаткова кампазітар стварыў шэраг апрацовак для фартэпіяна, якія ў хуткім часе былі апублікаваныя. Але ці то ў выніку дрэздэнскай прэм’еры оперы ў лютым 1850 г., ці то дзякуючы прыватнай замове арганіста Фердынанда Бройнунга Ліст спыняе працу над фартэпіяннымі парафразамі і распачынае працу над манументальнай фантазіяй «Ad nos». Напісанне гэтага вялізнага, болей чым на 700 тактаў твора, які ў першадруку заняў не менш як 50 старонак, адбылося амаль вокамгненна — з 18 па 31 кастрычніка 1850 года. Апублікаваць жа твор удалося толькі ўвесну 1851-га, прычым асаблівасць гэтага выдання заключалася ў тым, што, на замову выдаўца, яно сумяшчала адразу два варыянты: адзін прызначаўся, вядома, для сольнага арганнага выканання, а другі — для выканання на фартэпіяна ў чатыры рукі. Такім чынам выдавец перасцерагаўся ад няўдачы праекту, бо тэхнічная складанасць твора была камерцыйна рызыкоўнай. Прэм’ера ж твора мела досыць пакручастую гісторыю: упершыню фантазія была выкананая толькі праз два гады пасля напісання вучнем Ліста — Аляксандрам Вінтэрбергерам у гарадской царкве Веймара. Але паваротнай датай у гісторыі п’есы прынята лічыць гала-канцэрт 26 верасня 1855 г. (!) у катэдры Мерзебурга, калі адбылося асвячэнне новых вялікіх арганаў працы вялікага майстра Фрыдрыха Лядэгаста. Гэты інструмент меў 81 рэгістр, 4 мануалі і педаль і з’яўляўся найбуйнейшым на той момант у Нямеччыне (на шчасце, інструмент функцыянуе дагэтуль). Выканаўцам быў, зразумела, Вінтэрбергер.

Арганісты Брэндэль напісаў прарочыя словы ў адным з першых водгукаў на твор: «...датычна зместу і характару п’есы. Яна мае надзвычай свецкую прыроду, хаця Ліст у пэўнай ступені ўсё ж скарыстаў магчымасць гульні са старадаўнімі формамі. Гэтая „свецкасць“, аднак, можа выклікаць памылковае ўражанне ў некаторых сучаснікаў. Але я бачу ў творы  усяго толькі вынік новага кірунку ў сакральнай музыцы, які распачаўся бетховенскай Каранацыйнай месай... Я мушу прызнаць, што быў прыемна ўражаны гэтай лістаўскай кампазіцыяй, бо яна высветліла мне шляхі туды, дзе ніхто яшчэ не паспеў нешта зрабіць, і дала магчымасць зірнуць у будучыню арганнай музыкі. Тое, што Бетховен, Берліёз, Вагнер і Ліст распачалі ў рэлігійным рэчышчы, верагодна, будзе мець працяг у выглядзе распаўсюду ў сферы арганнага мастацтва».

*Юры Габрусь*

P.S. З творам можна азнаёміцца ў інтэрнэце.
Адно з вартых выкананняў змешчана па спасылцы:
*http://www.youtube.com/watch?v=_nYtMx1icbY*

Цікавае відэа-выкананне можна паглядзець па:
*http://www.youtube.com/watch?v=vdT8YJGwo8w&list=PL868C5F9BFCDA3BD1&index=53*

---

**Юры Габрусь** — беларускі арганіст. У 2012 г. скончыў бакалаўрэат па праграме арганнага выканальніцтва і царкоўнай музыкі ў Акадэміі музыкі і тэатра ў Гётэборгу (Швецыя), а таксама навучаўся як студэнт па абмене ў Акадэміі музыкі ў Брэмене (Нямеччына). Шматразовы ўдзельнік міжнародных майстар-класаў і конкурсаў арганістых. Абараніў бакалаўрскую дысертацыю па творах сумнеўнай атрыбуцыі ў арганнай спадчыне Ёгана Себасцьяна Баха. Падчас навучання займаўся актыўнай канцэртнай дзейнасцю, дзе значнае месца прысвяціў творам нямецкага рамантызму, упершыню сярод беларускіх арганістаў выканаўшы вядомую «Санату» Ройбке і Варыяцыі і фугу ор. 73 Рэгера.

Тамара Габрусь




Баранавічы. Касцёл св. Зыгмунта. Фота А. Дыбоўскага.

# МАСТАЦКАЯ МОВА АРХІТЭКТУРЫ СУЧАСНЫХ КАСЦЁЛАЎ БЕЛАРУСІ

Гісторыя эвалюцыі дойлідства сведчыць, што пры ўсёй разнастайнасці творчых праяваў іх дыялектыка грунтуецца на ўзаемадзеянні традыцый і інавацый, якія складаюцца ў стабільны прынцып формаўтварэння, альбо стыль. Паняцце стылю ўключае не толькі мастацкія асаблівасці пэўнага жанру, кірунку, эпохі ў дойлідстве ці культуры ў цэлым, але і індывідуальную творчую манеру аўтара. Сродкі і прыёмы выяўлення архітэктурнай задумы, якія выкарыстоўваюцца свядома ці паводле стэрэатыпаў, забяспечваюць новую мастацкую цэласнасць і самабытнасць твораў у агульным гісторыка-культурным кантэксце.

Постмадэрнісцкая архітэктура адмаўляецца як ад простых геаметрычных аб'ёмаў мадэрнізму, так і ад дыскамфортнай аднастайнасці і механістычнасці функцыяналізму, а таксама культу тэхнікі і канструкцый, уласцівых сучаснаму «хайтэку». Архітэктурная творчасць у эпоху постмадэрнізму можа быць не толькі сур'ёзнай, ідэйна насычанай, але і гарэзлівай, эпатажнай. У сучаснай архітэктуры эстэтычная канкрэтызацыя аўтарскай задумы вырашаецца з дапамогаю мэтанакіраванай камбінаторыкі сродкаў вобразнай выразнасці, якая практычна бясконцая ў інтэрпрэтацыі. Мастацкая мова найноўшай архітэктуры заснавана на прынцыпах кантэкстуалізму — складаных асацыяцыях, зашыфраваных сімвалах і кодах. Яна звяртаецца да архетыпаў, метафарычнай вобразнасці і знакавых формаў мінулых стыляў, сімвалічнай арнаментыкі і колеру, але ёй уласцівыя неабмежаваная фантазія і тэатральны пачатак, выдумка і гульня пры захаванні павагі да гісторыка-культурнай спадчыны і прыроднага асяроддзя.

Для выяўлення асноўных характарыстык мастацкай мовы сучаснай каталіцкай архітэктуры Беларусі намі ажыццёўлены мастацтвазнаўчы аналіз звыш 80 касцёлаў, пабудаваных у 1990–2000-я гады. У аснову архітэктонікі большасці з іх закладзена традыцыйная для заходняга хрысціянства (як для аўтэнтычных гістарычных, так і для псеўдагістарычных стыляў) семантыка Каўчэга Выратавання, альбо карабля — выцягнутай прамавугольнай навы, — а таксама вытворная ад папярэдняй структура трохнававай базылікі. У шэрагу выпадкаў ідэйна-канфесійная праграма Касцёла выяўляецца ўвядзеннем у архітэктурную кампазіцыю папярочнай навы — трансепта, што фармуе прастораваае ядро збудавання ў вы-

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.

глядзе лацінскага крыжа. Пры аднанававым варыянце лацінскі крыж выяўлены ў аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі ад падмуркаў, у крыжовых базыліках — на ўзроўні карніза збудавання. Амаль усе сучасныя касцёлы адпавядаюць гэтай канфесійнай ідэі, але маюць значную колькасць арыгінальных варыяцый яе інтэрпрэтацыі ў кантэксце авангардных постмадэрнісцкіх канцэпцый.

Для заходнехрысціянскіх сакральных збудаванняў аўтэнтычных і псеўдагістарычных стыляў традыцыйным спосабам гарманізацыі, упарадкавання кампазіцыі заўжды з'яўлялася падоўжна-восевая сіметрыя, радзей цэнтральна-восевая. У мясцовай каталіцкай архітэктурнай традыцыі часоў готыкі, ренесансу і барока найбольш пашыранай была падоўжна-восевая сіметрыя, уласцівая аднанававай ці базылікавай структуры касцёла. Як сведчыць гісторыя айчыннай архітэктуры, у касцёлах готыка-рэнесанснага тыпу XVI — пачатку XVII ст. вось сіметрыі збудавання была акцэнтавана размяшчэннем на галоўным фасадзе адной цэнтральна-восевай вежы, а ў больш позніх барочных касцёлах — дзвюх вуглавых вежаў, што падкрэслівала білатэральную (люстэркавую) сіметрыю галоўнага фасада. Прынамсі гэтыя прыёмы размяшчэння вертыкальных дамінантаў кампазіцыі вызначаюць устойлівы архітэктурна-мастацкі вобраз каталіцкіх святыняў Беларусі гістарычных стыляў. Асіметрычнае размяшчэнне вышынных дамінантаў з'яўляецца толькі ў канцы XIX ст., разам з павевамі эстэтыкі мадэрну, напрыклад, адну асіметрычна пастаўленую вежу маюць неараманскія касцёлы ў Вілейцы і Мінску (святых Сымона і Алены) ці касцёлы ў стылі мадэрн у Ражанцы і Солах. У сучаснай новай хвалі архітэктурнай эклектыкі менавіта па спосабе гарманізацыі архітэктурных масаў (сіметрыя — асіметрыя) найбольш яскрава выяўляюцца канцэптуальныя стылістычныя кірункі — гістарызму і рэтраспектывізму ці постмадэрнісцкай радыкальнай эклектыкі.

Накшталт таго, як у сучасным праваслаўным храмабудаўніцтве адметнай канфесійна-знакавай формай з'яўляецца тэма старажытнарускай закамары (паўцыркульнай аркі, якая завяршае частку сцяны альбо дэкаратыўнай), у каталіцкіх святынях Беларусі лейтматывам фармавання архітэктурнага вобразу з'яўляецца найперш двухсхільны дах з падоўжным вільчыкам, што падкрэслівае дынаміку кампазіцыі храма-каўчэга. На галоўным фасадзе тарэц даху часцей за ўсё вырашаны ў выглядзе шчыта, схілы якога ўтвараюць прамы, тупы альбо востры вугал, што знакава надае збудаванню нейкую «неагатычную»


Докшыцы. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы і кляштар францішканаў. Фота А. Дыбоўскага.


Ліда. Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Фота А. Дыбоўскага.


Жодзіна. Касцёл Найсвяцейшай Божай Маці Фацімскай. Фота А. Дыбоўскага.


Баранавічы. Касцёл Божай Маці Фацімскай. Фота У. Багданава.

вобразнасць. У адрозненне ад франтона шчыт не мае гарызантальнага карніза, які замыкае яго ў трохвугольнік. Плоскасць шчыта непасрэдна працягвае сцяну фасада, надаючы яму большую витанчанасць і вертыкальную дынаміку. Гарманічную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю многіх касцёлаў фармуюць разнастайныя рытмічныя суадносіны аб'ёмаў і вянчальных масаў збудавання.

Паколькі істотным знакавым кампанентам сусветнага хрысціянскага дойлідства спрадвеку з'яўляецца вертыкальная дамінанта, адзначым, што для большасці сучасных касцёлаў Беларусі характэрныя высокія чацверыковыя прызматычныя вежы пастаяннага сячэння, не падзеленыя візуальна на ярусы. Іх архітэктурны вобраз «генетычна» звязаны з сярэднявечнымі італьянскімі званіцамі-кампаніле, структура якіх (устойлівасць пры невялікім папярочным сячэнні) тлумачыцца спрыяльным кліматам Італіі і будаўніцтвам з натуральнага каменю. У айчыннай традыцыі сакральнага дойлідства вышынныя дамінанты, што ўзводзіліся з цэглы, былі больш масіўнымі і падзяляліся па вертыкалі на ярусы, якія паступова змяншаліся, каб мець большую зрокавую вытанчанасць. У архітэктуры сучасных касцёлаў вежы тыпу кампаніле звычайна накрыты чатырохграннымі шатрамі, вышыня якіх роўная боку аснавання (яны больш высокія, чым традыцыйныя шатры-«каўпакі», вышыня якіх звычайна роўная палове дыяганалі аснавання). Акрамя таго, у авангардных аўтарскіх праектах строга пірамідальная форма шатра іншым разам наўмысна ўскладнёная і дэфармаваная.

Будаўніцтва сучасных касцёлаў з авангарднымі тэндэнцыямі  ажыццяўляецца пераважна ў заходніх рэгіёнах Беларусі, дзе значная частка насельніцтва гістарычна мае каталіцкае веравызнанне. Да 1990-х гадоў у Баранавічах дзейнічаў толькі адзін касцёл Узвышэння Святога Крыжа, пабудаваны з дрэва ў 1924–1925 гады ў характэрным для часоў 2-й Рэчы Паспалітай стылі нацыянальнага рамантызму з элементамі неаготыкі і мадэрну. За апошнія 20 гадоў у гэтым горадзе ўзведзены тры манументальныя святыні, якія адначасова вызначаюцца арыгінальнасцю і традыцыйнасцю архітэктурнай задумы. Для архітэктуры першага з іх касцёла св. Зыгмунта, змураванага з цёмна-чырвонай цэглы ў пачатку 1990-х, характэрнае свабоднае выкарыстанне матываў і элементаў, запазычаных з гістарычнага вопыту айчыннага дойлідства. Гэта трохнававая базыліка з высокай сярэдняй і шырокімі бакавымі навамі, шырыня якіх уступамі звужаецца ў бок алтара. Тарэц цэнтральнай навы амаль цалкам займае зашкленне, каркас якога на шчыце фасада ўтварае ромб — сучасную трансфармацыю гатычнага акна-ружы. Арыгінальнасць вобразу збудавання надаюць дзве масіўныя трохвугольныя ў плане вежы, накрытыя аднасхільнымі дахамі, увенчанымі крыжамі. Лініі схілаў дахаў дублююцца рытмічным поясам вузкіх вертыкальных праёмаў. Мадэрнісцкая гульня геаметрычных формаў спалучаецца з канцэпцыяй гістарызму, выяўленай у архітэктоніцы святыні.

У 1998 г. у Баранавічах быў асвячоны касцёл Маці Божай Фацімскай, узведзены ў адзіным архітэктурна-мастацкім ансамблі з трохпавярховым будынкам жаночага кляштара місіянерак. Комплекс мае развітае прасторавае вырашэнне. З паўночнага боку да прамавугольнай навы касцёла з трохгранным галоўным фасадам прымыкае двухпавярховы кляштарны будынак, у які вядзе шмат'ярусная вежа-званіца. Мастацкую выразнасць ансамблю надае адзінства архітэктурных формаў і каларыстычнага вырашэння, заснаванага на традыцыйным кантрасце белых сценаў і чырвоных дахаў, шматкратным паўтарэнні матыва круглай люнеты-ружы і востравугольных формаў, што стварае готыка-рэнесансныя рэмінісцэнцыі.

Парафіяльны касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Баранавічах быў кансэкраваны ў 2002 годзе. Яго архітэктоніка заснавана на семантыцы лацінскага крыжа, утворанага асноўнай прамавугольнай навай і больш нізкімі крыламі трансепта, накрытых агульным двухсхільным дахам. Тарэц даха на галоўным фасадзе закрыты шчытом, грані якога ўтвараюць прамы вугал. Для мастацкага вобраза святыні характэрныя паўтарэнні і рытмізацыя простых геаметрычных формаў, у першую чаргу, прамога вугла. Відавочна, што ў сучасным касцёльным будаўніцтве ў Баранавічах дамінуе канцэпцыя гістарызму, якому ўласцівая апеляцыя да мясцовых традыцый і іх творчай інтэрпрэтацыі.

У 1990–1997 гады ў Маладзечне па вуліцы Прытыцкага паводле праекта польскага архітэктара Лешака Качара быў узведзены манументальны касцёл св. Юзафа. Гэтае збудаванне вызначае не прамое ўзнаўленне традыцыйных кампазіцыйных прыёмаў, а сучасная інтэрпрэтацыя культурнага коду каталіцкай канфесіі. Асноўная тэма архітэктурна-мастацкага вобраза трохнававай двухвежавай базылікі — скіраванасць увышыню, што выяўлена ў падкрэслена вертыкальных прапорцыях усіх элементаў. Высокія бакавыя навы, рытмічна расчлянёныя шырокімі эркерамі з вузкімі прасценкамі паміж імі, ствараюць цэлы лес вертыкаляў. Зграбныя чацверыкі вежаў на

галоўным фасадзе завершаны двух'яруснымі скразнымі металічнымі канструкцыямі — умоўна трактаванымі элементамі гістарычнай польскай касцёльнай архітэктуры. Заляршэнні вежаў і франтона маюць схілы, скіраваныя ўніз, што стварае ўражанне распрасцёртых рук ці крылаў, дынаміку ўзлёту. Мажорнае каларыстычнае вырашэнне вонкавага аблічча святыні пабудавана на спалучэнні цёплых лакальных колераў.

У Гродне за апошнія 20 гадоў пабудавана некалькі новых касцёлаў, архітэктура якіх вызначаецца інтэпрэтацыяй сучасных мастацка-стылёвых кірункаў. У канцы 1990-х гадоў у жылым раёне Паўднёвы быў узведзены касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (арх. А. Тараненка). Авангарднае гучанне традыцыйнай трохнававай базылікі надаюць шматгранныя формы галоўнага фасада і бакавых наваў, наўмысная ламанасць плоскасцяў і ліній. Вось сіметрыі акцэнтавана V-падобнай канструкцыяй высокай званіцы, завершанай крыжам. Невысокі дах цэнтральнай навы на ўзроўні карніза рытмічна дэкараваны востравугольнымі шчыткамі-вімпергамі. Тую ж неагатычную тэму працягваюць шырокія аднасхільныя дахі бакавых наваў з буйнамаштабнымі вімпергамі.

Яшчэ больш яскрава авангардныя неаканструктывісцкія тэндэнцыі выяўлены ў архітэктуры гродзенскага касцёла Божай Міласэрнасці ў мікрараёне Вішнявец, узведзеным у 1999–2002 гадах (арх. А. Штэн, З. Казакевіч). Неардынарнасць архітэктурна-мастацкаму вобразу гэтай святыні надаюць ромбападобны план кафалікона, двухсхільны дах са схіламі трохвугольнай формы, асіметрычнае размяшчэнне галоўнага фасада, што стварае дадатковую дынаміку, узмоцненую вертыкаллю званіцы. Алтарная частка касцёла злучана з двухпавярховым будынкам плябаніі і парафіяльнага цэнтра ў адзіны комплекс.

Прыкладам найбольш радыкальнай эклектыкі ў Гродне з'яўляецца авангардная архітэктура каталіцкага цэнтра Найсвяцейшага Адкупіцеля ў мікрараёне Дзевятоўка, узведзеным ў 2000-я гады (арх. А. Штэн, І. Казлоўскі, Т. Чорная). У архітэктуры комплексу інавацыйныя, нават эпатажныя, мастацкія прыёмы відавочна дамінуюць над традыцыйнымі. Цэнтральная нава базылікі перакрыта своеасаблівай двухбакова-пукатай абалонкай, якая працягнута наперад, ствараючы на галоўным фасадзе глыбокі 6-калонны порцік. Да яго з двух бакоў далучаны двухпавярховыя будынкі плябаніі і парафіяльнага цэнтра. З паўднёвага боку, за плябаніяй, размешчана вертыкальная дамінанта ансамбля — трохвугольная ў



Баранавічы. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы. Фота М. Марозава.



Гродна. Касцёл Найсвяцейшага Збавіцеля. Фота Д. Салаша.



Ліда. Касцёл Божай Міласэрнасці. Фота У. Багданава.



Скідзель. Касцёл св. Юзафа. Фота А. Дыбоўскага.



Маладзечна.
Касцёл св. Юзафа.
Фота У. Багданава.



Волма.
Касцёл св. Яна Хрысціцеля.
Фота А. Дыбоўскага.



Гарадок. Касцёл Звеставання
Найсвяцейшай Дзеве Марыі.
Фота А. Дыбоўскага.



Слуцк. Касцёл св. Антонія Падуанскага
і кляштар францішканаў.
Фота А. Дыбоўскага.

плане вежа-званіца, завершаная крыжам. Бакавыя навы рытмічна раскрапаваныя паўкруглымі апсідамі капэлаў. Экстравагантнае спалучэнне прамавугольных, трохвугольных і паўкруглых аб'ёмаў кантрастуе з глухімі роўніцамі сценаў, тонкімі вертыкальнымі апорамі і вузкімі вокнамі, падобнымі да байніцаў. Адкрытая муроўка з чырвонай цэглы дапоўнена фрагментамі муроўкі з прыроднага каменю. Каркас уваходнага порціка фармуе выразную кампазіцыю ў выглядзе буйнамаштабнага крыжа, дадаткова вылучанага колерам.

Шырокі спектр авангардных архітэктурных формаў маюць сучасныя каталіцкія святыні горада Ліды. У 2002 г. тут быў кансэкраваны касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, узведзены ў жылым раёне Слабада. Па сваёй архітэктоніцы гэта трохнававая псеўдабазыліка (без верхняга асвятлення цэнтральнай навы). Постмадэрнісцкае неагатычнае аблічча архітэктуры святыні надае шматразова паўтораная тэма двухграннага эркера з аднасхільным трохвугольным пакрыццем. На бакавых фасадах аналагічныя эркеры чаргуюцца з высокімі вузкімі вокнамі, што рытмізуе прастору, падкрэсліваючы падоўжную дынаміку агульнай кампазіцыі. Алтарную частку дадаткова акружае шэраг эркераў, накшталт гатычных капэлаў. Галоўны фасад фармуюць пяць эркераў рознай вышыні. Асіметрыю кампазіцыі акцэнтуе левы ад уваходу ўвенчаны крыжам эркер-званіца, які дамінуе па вышыні. Тэма крыжа неаднаразова паўторана ў аздобе званіцы. У мастацка-дэкаратыўным афармленні святыні выкарыстаны таксама сакральная скульптура, кантраст адкрытай муроўкі з чырвонай цэглы з пабеленымі часткамі сценаў, разнастайны рытм трохвугольных і трапецыяпадобных аконных праёмаў.

Авангардны варыянт неаготыкі новай хвалі прадстаўляе касцёл Святой Сям'і ў Лідзе, пабудаваны ў пачатку 2000-х гадоў. Архітэктоніка збудавання традыцыйная — трохнававая базыліка з невялікімі рамёнамі трансепта. Неагатычны характар святыні надаюць адкрытая муроўка з цёмна-чырвонай цэглы, востравугольныя формы дахаў, люкарнаў, пінакляў, сігнатуркі. Аднак масіўная вежа на галоўным фасадзе пазбаўлена шатровага завяршэння, што стварае ўражанне наўмыснага адыходу ад традыцыі.

Яшчэ адзін касцёл у гонар Божай Міласэрнасці, узведзены ў 2000-я гады ў жылым раёне Маладзёжны, вызначаецца яскравай постмадэрнісцкай радыкальнай эклектыкай з элементамі неаэкспрэсіянізму. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя збудавання знарок дэфармаваная асімет-

рычнымі featured рознамаштабнымі і рознастылёвымі прыбудовамі. Асабліва выразна гэта выяўлена ў вырашэнні галоўнага фасада з вежамі рознай вышыні і будовы. Пры даволі экстравагантным спалучэнні артаганальных і крывалінейных формаў у мастацкім вобразе збудавання відавочны рэмінісцэнцыі неабарока.

У наш час назіраецца тэндэнцыя комплекснага будаўніцтва каталіцкіх святыняў і будынкаў плябаній, кляштараў і парафіяльных цэнтраў у адзіным ансамблі. Горадабудаўнічая ансамблевасць здаўна ўласцівая каталіцкаму дойлідству, што абумоўлена спецыфікай гістарычнага фармавання планіровачнай структуры заходнееўрапейскіх гарадоў. Паняцце архітэктурнага ансамбля бярэ свой пачатак з антычнага дойлідства ў прамой сувязі з паняццем гармоніі, што забяспэчвала сугучнасць і суразмернасць частак у цэлым. Сучаснае разуменне архітэктурнага ансамбля таксама зыходзіць з ідэі гарманічнага адзінства і цэласнасці, аднак, з прычыны сучаснай стылізацыі храмаў, у ансамблі могуць праяўляцца пэўныя мастацкія калізіі. Акцэнт у ансамблі звычайна ставіцца на суадносінах знешніх фармальных і стылістычных прыкметаў.

Удалым прыкладам сучаснага вырашэння ансамбля можа быць комплекс касцёла св. Антонія Падуанскага і францішканскага кляштара ў Слуцку, пабудаваны ў 1992–2000 гады. Яго архітэктурна-мастацкі вобраз вызначаецца выкарыстаннем матываў і элементаў, запазычаных з гістарычнага вопыту заходнееўрапейскага сакральнага дойлідства, напрыклад, францішканскага кляштара ў Равэне (Італія). Для будаўніцтва жабрацкага ордэну францішканаў увогуле ўласцівы аскетызм, прастата і яснасць архітэктурнай мовы. Кампактны аднававы аб'ём касцёла ў Слуцку накрыты двухсхільным дахам з двухгранным шчытом на галоўным фасадзе, схілы якога ўтвараюць прамы вугал. Уваход афармлены 6-калонным порцікам з надбудовай, што вядзе на хоры. З паўднёвага боку да фасада прылягае масіўная прызматычная вежа, якая нагадвае італьянскія кампаніле, але накрытая традыцыйным для беларускага дойлідства невысокім шатром-«каўпаком». Грані вежы ўверсе прарэзаны крыжападобнымі праёмамі з вітражамі. Па баках алтарнай часткі сіметрычна размешчаны двухпавярховыя будынкі кляштара з высокімі двухсхільнымі дахамі, аскетычнае аблічча якіх ажыўляюць рытмічныя трохвугольныя люкарны. У формах і прапорцыях ансамбля, адкрытай муроўцы з чырвонай цэглы відавочныя рэмінісцэнцыі раманскага стылю.

Паводле аналагічных прынцыпаў стварэння


Лагойск. Касцёл св. Казіміра. Фота У. Багданава.


Жабінка. Касцёл св. Юзафа. Фота А. Дыбоўскага.


Капыль. Касцёл святых Пятра і Паўла. Фота Т. Габрусь.


Ліда. Касцёл Святой Сям'і. Фота У. Багданава.



Івацэвічы.
Касцёл святых Пятра і Паўла.
Фота У. Багданава.

ансамбля ўзведзены яшчэ адзін сучасны кляштар ордэну францішканаў у Докшыцах. Аднанававы касцёл Найсвяцейшай Тройцы з двухсхільным дахам і акном-ружай на шчыце галоўнага фасада ўзведзены ў 1991–1994 гадах (праект архітэктурнай групы «Рэнавабіс»). Аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ўвенчвае вышынная дамінанта – асіметрычна пастаўленая вежа тыпу італьянскай кампаніле. Высокі прызматычны чацверык вежы-званіцы накрыты пакатым шатром і ўверсе прарэзаны вузкімі арачнымі вокнамі — па тры з кожнага боку. Фасадную грань вежы аздабляе скульптура папы Яна Паўла ІІ, размешчаная ў арачнай нішы. У 2001–2002 гады з паўночнага боку да касцёла быў прыбудаваны двухпавярховы кляштарны корпус. У архітэктурным вырашэнні ансамбля шырока выкарыстаны бутавы камень (агароджа, падпорныя сценкі каскадных тэрасаў, малыя архітэктурныя формы), што надае яму асабліва аскетычны выгляд. Істотную ролю ў мастацкім вобразе ансамбля займае змураваная з прыроднага каменю трохпралётная ўваходная брама дынамічнай рознавышыннай кампазіцыі, якая гарманічна спалучае паўцыркульныя арачныя і вострувугольныя формы.

Выразным творам сучаснай авангарднай сакральнай архітэктуры з'яўляецца касцёл св. Юзафа Рамесніка ў Скідзелі (2004), размешчаны каля шашы Мінск — Гродна. Яго яркае каларыстычнае вырашэнне і дынамічны сілуэт эфектна выступаюць на фоне жылой забудовы. Своеасаблівы архітэктурна-мастацкі вобраз святыні заснаваны на нетрадыцыйнай кампазіцыі і інверснай дынаміцы аб'ёмаў з абрэзамі схілаў дахаў, якія нарастаюць у бок алтара. Незвычайнымі з'яўляюцца формы званіцы і яе завяршэння ў выглядзе фігурнага шпіля.

Касцёл Маці Божай Фацімскай у Жодзіне, узведзены ў 1996–2003 гады (арх. І. Кныш), з'яўляецца яскравым узорам сучаснай каталіцкай архітэктуры постмадэрну з элементамі неаготыкі новай хвалі. Аднанававы аднавежавы касцёл разам з прыбудаваным да яго будынкам плябаніі ствараюць цэласную ансамблевую кампазіцыю, насычаную гарманічным рытмам вострувугольных формаў і вышынных дамінантаў. Фасады раскрапаваны трохпралётнымі рызалітамі, завершанымі вострувугольнымі вімпергамі, якія падкрэсліваюць семантыку крыжа ў кампазіцыі святыні. Маляўнічы сілуэт ансамбля фармуюць своеасаблівыя шатровыя завяршэнні вежаў над касцёлам і плябаніяй.

Цікавым узорам постмадэрнісцкай інтрэпрэтацыі традыцый каталіцкай архітэктуры з'яўляецца касцёл св. Пятра і Паўла ў Івацэвічах. Традыцыйнай аднананававай архітэктоніцы святыні нададзена наўмысная асіметрыя, створаная з дапамогаю рознай глыбіні вежаў на галоўным фасадзе, прыбудовы з паўночнага боку двухпавярховай плябаніі і дыяганальна пастаўленай высокай званіцы тыпу кампаніле. Шматлікія вострувугольныя формы падкрэсліваюць неагатычную стылістыку ансамбля. Іншы постмадэрнісцкі варыянт радыкальнай эклектыкі мае архітэктура касцёла св. Пятра і Паўла ў Капылі. Тут кампактны аднанававы аб'ём фланкаваны на паўночна-ўсходнім вугле чацверыковай вежай з своеасаблівым пластычным лучковым завяршэннем і акном-ружай, што надае галоўнаму фасаду неардынарнасць і вытанчанасць. У мастацкім вобразе святыні важнае значэнне мае каларыстычнае вырашэнне, пабудаванае на спалучэнні белага колеру ў ніжняй частцы сценаў і ярка-чырвонага — у верхняй.

Канцэпцыя сучаснай радыкальнай эклектыкі прагледжваецца ў архітэктуры цэлага шэрагу касцёлаў, узведзеных у 2000-я гады, як, напрыклад, каталіцкія святыні ў Гомелі, Жабінцы, Свіслачы, Ваўкавыску, Лагойску, Гарадку, Воранаве, вёсках Беліца і Бердаўка Лідскага р-на, Азёрцах Глыбоцкага р-на, Астрыне Шчучынскага р-на, Волма Дзяржынскага р-на, Юрацішках Іўеўскага р-на і інш. Мастацкая мова сучаснай сакральнай архітэктуры канцэптуальна адмаўляе кампазіцыйны аскетызм, акцэнтуе пластычнасць формы, дынамічную асіметрыю, наўмысныя інверсіі ў інтэрпрэтацыі гістарычнай архітэктурнай класікі. Пры гэтым відавочна, што прынцыпы формаўтварэння ў сучасным каталіцкім храмабудаўніцтве Беларусі абумоўлены дамінаваннем ідэйна-канфесійных стэрэатыпаў, арыентаваных на гістарычныя заходнееўрапейскія стылі з іх разуменнем ідэальных формаў і прапорцый, а таксама на этнічныя эстэтычныя стэрэатыпы, выпрацаваныя традыцыйным айчынным дойлідствам, што спрыяе захаванню самабытнасці і выяўляе менталітэт народа.


Аўтапартрэт.
Папера, аловак.
1939 г.

# *Ars incognita*

## Сакральная творчасць Міхася Сеўрука

Дзякаваць Богу, імя мастака і ягоная творчасць у апошнія гады выходзіць з ценю забыцця. Пасля выставы 1980 года (пасмяротнай), якую зладзілі ў Палацы мастацтва сябры мемарыяльнай камісіі Яўген Кулік, Віктар Маркавец, Мікола Назарчук, Ядвіга Раздзялоўская, Аляксей Марачкін і аўтар гэтых радкоў, пасля сціплых нататак у газетах і сціплай брашуркі Віктара Шматава Міхась Сеўрук як бы знік з небасхілу беларускага выяўленчага мастацтва. Правінцыйны нясвіжскі мастак — што пра яго пісаць, калі мінскія мэтры стаяць у чарзе да журналістаў.

Але ў 2006 годзе па ініцыятыве заслаўскай творчай суполкі «Мастак» і яе кіраўніка Віктара Маркаўца пачалася шматгадовая акцыя: знаёмства аматараў мастацтва з творамі Віленскай школы, а дакладней, з творамі заходнебеларускіх мастакоў М. Сеўрука, П. Сергіевіча, Я. Драздовіча, С. Вішнеўскага, З. Крачкоўскага, В. Сідаровіча, П. Южыка. На працягу некалькіх гадоў было падрыхтавана і паказана ў Мінску, Віцебску, Заслаўі і Смаргоні ажно 7 выставаў (без грантаў, спонсараў, фундацыяў і матэрыяльнай дапамогі з боку дзяржавы, усё — на энтузіязме). І яшчэ адна цікавая дэталь: усе дэманстраваныя творы, а іх набралася паўтары сотні — з прыватных збораў. Уяўляеце, якая за гэтым стаяла арганізацыйная і пошукавая праца?

У канцы 2012 года фірма «Баў-холдынг» (кіраўнік А. Кліментовіч) выдала вялікі насценны каляндар з дваццаццю




Эскіз абраза св. Антонія.
Папера, аловак. 1930-я гг.



Эскіз роспісу. У цэнтры — адарацыя Марыі з Немаўляткам.
Злева — Хрыстус з мудрацамі ў храме.
Справа — арышт Хрыста. Папера, аловак. 1930-я гг.



Эскіз роспісу
«Уручэнне ключоў св. Пятру».
Папера, аловак. 1930-я гг.



Эскіз роспісу
«Св. Альбэрт на караблі
плыве хрысціць прусаў».
Папера, аловак. 1930-я гг.

пяццю творамі М. Сеўрука (жывапіс і графіка), і зноў жа, з прыватнай калекцыі.

У сакавіку бягучага года ў Нясвіжы адчыніўся дом-музей мастака з пашыранай, адноўленай, ажно ў трох пакоях, экспазіцыяй ягоных палотнаў. Да гэтай падзеі нясвіжскі гісторыка-краязнаўчы музей здолеў выдаць альбом, складзены мясцовым мастаком М. Канавалавым. Шмат інфармацыі пра М. Сеўрука з'явілася і ў інтэрнэце.

Але хто б ні пісаў пра мастака — і светлае памяці В. Шматаў, і сённяшнія даследчыкі С. Гваздзёў, С. Харэўскі, М. Мацаль, Т. Гаранская, І. Калібаба ды іншыя — усе ўжываюць адно і тое ж акрэсленне: «жывапісец і графік», не шкадуючы эпітэтаў: «выдатны майстар», «выдатны жывапісец і графік», «майстар афорту і лінарыту». І гэта справядліва, бо ў малюнку М. Сеўрук — віртуоз, у жывапісе — тонкі каларыст і бліскучы кампазітар, асабліва ў тэматычных карцінах, у эстампе — універсал з выдатным валоданнем усімі вядомымі гравёрнымі тэхнікамі (ксілаграфія, лінарыт, афорт і г.д.).

А ён жа вучыўся на манументаліста! Няўжо ў гэтым мастацтве нічога не стварыў, нават не спрабаваў? Як наш сучаснік, светлае памяці Яўген Кулік, які выдатна абараніў дыплом па класе жывапісу, але ўсё астатняе жыццё прысвяціў графіцы.

Выяўленыя апошнім часам эскізы касцёльных роспісаў і абразоў сведчаць пра бездакорны прафесіяналізм М. Сеўрука і ў манументальным мастацтве сакральнай тэматыкі. На жаль, мы не ведаем, што з гэтых ідэяў, вобразаў, задумаў было ажыццёўлена ў матэрыяле. Адзіны эскіз, разбіты на клеткі для павелічэння «ў натуру», сведчыць, што кампазіцыя была ўвасобленая, але дзе, на якой сцяне, у якой святыні, ды й ці захавалася да нашых дзён — невядома.

Адрас толькі аднаго касцёла ёсць на эскізе роспісу плафона прэзбітэрыя. Усе выяўленыя малюнкі тычацца каталіцкай іканаграфіі. Біблейскія тэмы, сюжэты былі вядомыя Міхасю Сеўруку з дзяцінства, бо ён пэўны час жыў і выхоўваўся ў сям'і дзеда па маці, протаіерэя сноўскае царквы Стэфана Арэня, аднак канфесійная прыналежнасць самога мастака дагэтуль не высветленая.

Як жа Міхась Сеўрук, нашчадак старадаўняга беларускага




Эскіз роспісу плафона прэзбітэрыя для касцёла ў Манкошыцах.
Папера, аловак, акварэль. 1930-я гг.



Эскіз роспісу «Звеставанне».
Папера, аловак. 1930-я гг.

шляхецкага роду (герба «Слепаворан») жыў у Вільні 1930-х гадоў з дыпломам мастака ў кішэні, не маючы ані маёнтка, ані спонсараў, ані дзяржаўнай пасады? Чым ён зарабляў на хлеб надзённы? Напэўна ж, зарабляў пэндзлем, разцом, алоўкам. Пісаў заказныя партрэты і краявіды, прадаваў уласныя эстампы (гл. газету «Kurier» за 29.03.1937 г.), не грэбаваў афармілаўкай (вітрыны ды шыльды крамаў), займаўся часопіснай і кніжнай графікай. Аднойчы пашчасціла — аформіў вялікую прамысловую выставу. З гэтага і жыў...

Вільня 1930-х гадоў была пераважна каталіцкім горадам; выкладчыкі М. Сеўрука па Віленскім універсітэце — Ф. Рушчыц, Л. Сляндзінскі, А. Штурман, Ю. Клос — усе католікі, каханая Міхася, дачка віленскага бурмістра Каліеўскага, — таксама. Дарэчы, калі іх адносіны ўжо набліжаліся да шлюбу, дзяўчына раптоўна моцна захварэла і неўзабаве памерла.

Безумоўна, Міхась Сеўрук быў чалавекам заходняй культуры. Захад — гэта італьянскае квадрачэнта і французскі імпрэсіянізм, гэта жывапіс Рэнесансу, цалкам сакральны, гэта готыка, барока, ампір, ракако. Віленскае барока Міхась Сеўрук маляваў і ўвасабляў у эстампах мноства разоў.

Ці займаўся ён праваслаўнай тэматыкай — пакуль што невядома. Згадаем, што Пётра Сергіевіч, ягоны старэйшы калега, з аднолькавым поспехам распісваў і цэрквы, і касцёлы, дэманструючы такім спосабам своеасаблівы мастакоўскі экуменізм (гл. «Наша вера», 1 (2) 1996 г.).

...Я не мастацтвазнаўца, гэты артыкул — пасыл прафесіяналам. Шукайце, знаходзьце, даследуйце, пішыце.

*Уладзімір Крукоўскі*



Эскіз абраза «Звеставанне».
Папера, каляровы аловак. 1930-я гг.



Эскіз роспісу.
Галгота і Гроб Панскі.
Папера, аловак, акварэль. 1930-я гг.

**Уладзімір Крукоўскі** — мастак-плакатыст. Нарадзіўся 6 сакавіка 1937 г. у г. Асіповічы Магілёўскай вобласці. З 1975 г. — сябра Беларускага саюзу мастакоў. Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў. Працаваў мастацкім рэдактарам часопісаў «Маладосць», «Мастацтва Беларусі», «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», «Спадчына» (1978–1998 гг.). Удзельнік шматлікіх усесаюзных, рэспубліканскіх і замежных, персанальных і тэматычных выставаў плакату. Творы захоўваюцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Літвы і Расіі. Асноўная тэматыка плакатаў — гісторыя, культура, экалогія, антываенныя і юбілейныя тэмы, афішы. Узнагароджаны медалём «За заслугі ў выяўленчым мастацтве». Жыве ў Мінску.




# Святы Андрэй Баболя і наш час

Развагі над кнігаю Я. Янушкевіча «Апостал Палесся: Святы Андрэй Баболя ў паэмах Янкі Купалы» («Pro Christo», 2013).

Магчыма, у многіх можа ўзнікнуць пытанне: якое значэнне ў жыцці канкрэтнага сучаснага чалавека мае даўняя гісторыя пра жыццё і пакутніцкую смерць святога Андрэя Баболі? Ужо ж прайшло больш за 350 гадоў... Змяніліся часы, норавы... Дзякуй Богу, сёння нашы суайчыннікі не мусяць цярпець катаванні за веру... Якую ж тады актуальнасць мае гэтая страшная гісторыя пра святога, якога Касцёл штогод успамінае ў літургіі 16 мая?

Людзей, як правіла, не вельмі турбуе тое, што не з'яўляецца рэальнасцю нашага жыцця. Прызнаюся, і мне жыццяпіс святога Андрэя Баболі пэўны час больш нагадваў сюжэт страшнай чарадзейнай казкі, а не той гістарычнай праўды, якую я таксама мушу неяк перажыць. Мы больш усвядомлена прымаем падобныя факты як рэальнасць і набліжаемся да іх у двух выпадках: па-першае, калі судакранаемся з чымсьці рэчыўным, што захавалася з той эпохі як канкрэтнае сведчанне (напрыклад, калі ўшаноўваем рэліквіі святых); па-другое, калі перажываем моцнае эмацыйнае ўзрушэнне пад уплывам... твораў мастацтва. Менавіта гэта і абумоўлівае значнасць кнігі «Апостал Палесся», укладзенай Язэпам Янушкевічам. «Ядром» выдання з'яўляюцца дзве таленавітыя Купалавы паэмы пра Андрэя Баболю, напісаныя ў 1910 годзе (больш за стагоддзе таму!) і не так даўно ўведзеныя ў літаратуразнаўчы ўжытак Я. Янушкевічам. Мастацкім творам у кнізе папярэднічае нарыс, у якім даследчык распавядае пра адкрыццё гэтых паэмаў і разгадку іх аўтарства. Язэп Янушкевіч прыводзіць пераканаўчыя аргументы на карысць таго, што яны напісаныя менавіта народным песняром Беларусі Янкам Купалам.

Па сутнасці гэтыя творы — два варыянты аднаго сюжэта: першы («Святы Андрэй Баболя. Мучанік беларускі») — больш разгорнуты, другі («Святы Андрэй Баболя. Мучанік беларускі за веру») — сціслы, па форме нагадвае доўгі верш. Вобразныя малюнкі кожнай з паэмаў — лаканічныя і пластычныя, таму яны лёгка западаюць у памяць, і надоўга ажываюць ва ўяўленні чытача ўсе катаванні і здзекі над Баболем «на разьнічым стале». Мастацкая рэальнасць твора не заканчваецца на паэтычным пераказе вядомай нам гісторыі. У эпілогу аўтар спалучае яе з рэальнасцю сённяшняга дня — бачнаю нам і нябачнаю:

*Заліваючы ценямі*
*Небагатыя паляны,*
*Ціха плаваюць туманы*
*Над палескімі палямі.*

*А над імі з Божай Волі,*
*У нябеснай ціхай далі,*
*Ў ясным сонечным крыштале*
*Дух уносіцца Баболі.*

Першая з працытаваных строфаў рэфрэнам паўтараецца ў самым канцы паэмы. Такім чынам, «цені» і «туманы» — гэта тое, што так ці інакш даступна нашаму позірку, тое, што абмяжоўвае нас у дні сённяшнім і змушае думаць: гісторыя гэта сапраўды жудасная, але ўсё гэта прамінула і пакрылася ценямі даўніны...

Але тут жа аўтар робіць спробу прыадкрыць нябачнае: над усімі нашымі туманамі — дух Баболі ў «сонечным крыштале». Ці верым мы самі ў гэта? Ці, можа, дух Баболі памёр для нашага духу ў тым страшным 1657 годзе? Ці верым мы, што хмары ўтвараюцца, праплываюць і рассейваюцца, а сонца ззяе ўвесь час, хоць бывае нябачным з-за цяжкае шэрасці хмараў? Як канкрэтна гэта ўплывае на кожнага з нас?

Святы Андрэй Баболя жыве — і ў нашым часе таксама. Часта ён, напэўна, самотна чакае нашых малітваў, бо мае моц выпрасіць для Беларусі шмат дароў у Пана Бога, але для гэтага яму патрэбны ў дапамогу і наш дух, здольны ўлоўліваць голас рэальнасці.

Згадаю, што кніга «Апостал Палесся» падрыхтаваная з нагоды 75-й гадавіны кананізацыі святога Андрэя Баболі. Тэксты паэмаў, у арыгінале напісаныя лацініцаю, падаюцца ў кнізе ў кірылічнай транскрыпцыі, а таксама ў выглядзе факсіміле машынапісных старонак са сшытка Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Не апошнюю ролю адыгрывае ў выданні і «Дадатак», куды ўключаны запісы народных песняў, прысвечаных святому і занатаваных у канцы XIX стагоддзя. Гэтыя тэксты і іх багаты вобразны змест — яшчэ адно сведчанне таго, што Андрэй Баболя на працягу стагоддзяў заставаўся жывым у народнай памяці. І будзе жывым надалей.

*Ганна Шаўчэнка*

# ЯК ПАЗНАЦЬ САПРАЎДНАЕ АБЛІЧЧА БОГА?

**Пра кнігу с. Нунэ Цітаян «Крыж і Пасха» («Pro Christo», 2013).**




Адгарнуўшы першыя старонкі кнігі «Крыж і Пасха», я чакала, што сустрэну ў ёй чарговыя мудрагелістыя тэалагічныя разважанні пра сэнс Хрыстовага крыжа, цярпення і ўваскрасення. А прачытала поўны шчырасці аповед пра пошукі аўтарам — сястрой Нунэ Цітаян MSF — адказаў на пытанні, якія непакояць і адначасова натхняюць усе пакаленні чалавецтва з таго часу, як Хрыстус прыйшоў на зямлю і прыняў за ўсіх нас пакутлівую смерць. Як Бог мог дапусціць такое? Чаму Ён не абараніў свайго Сына? Урэшце, чаму Бог дапусціў Аўшвіц, ГУЛАГ, Катынь, генацыд, тэрарызм?.. Чаму Бог маўчыць перад абліччам насілля і зла? І чаму складваецца ўражанне, быццам Бог, у якога мы верым, — слабы?

Падчас казанняў на святой Імшы, з касцёльных дакументаў і духоўных кніг мы часам, здавалася б, чуем адказы Касцёла на гэтыя пытанні, але часцей за ўсё не задавольваемся імі, бо практычна непадрыхтаваныя зразумець і прыняць іх... Мы нібыта шмат ведаем і самі можам вучыць гэтай навуцы іншых, але калі нас раптам кранае цярпенне, то разумеем, што не здольныя жыць тымі праўдамі, у якіх тэарэтычна абазнаныя, што хрысціянская рэальнасць для нас бывае нечаканаю. «Ты моцна пакутуеш, але не ўмееш пакутаваць», — гэтыя словы з верша польскага паэта Рамана Брандштэтара, працытаваныя аўтарам, становяцца для чытача своесаблівым сігналам, які з кожнай новай старонкаю кнігі нагадвае, што мы, хрысціяне, сапраўды, губляемся перад Дрэвам Пазнання і Дрэвам Крыжа.

Адбываецца гэта па той прычыне, што мы ўсё жадаем зразумець з дапамогаю сваёй логікі, «мы не здольныя спасцігнуць Бога, таму што Ён ва ўсім непамерна пераўзыходзіць нас». Гэтае перакананне стала адным з ключавых у кнізе с. Нунэ Цітаян. «Нашы пытанні, звернутыя да Бога: чаму? за што? навошта? каму гэта трэба? — гэта пытанні веры, а не пошуку сэнсу», — дадае аўтар і паступова паказвае канкрэтныя, узятыя з уласнага жыццёвага вопыту, шляхі ўмацавання ў сабе такой веры. Гэты вопыт с. Нунэ чэрпае з гісторыі свайго армянскага народа, з лёсу сваіх продкаў, са служэння ў Кангрэгацыі Сясцёр Місіянерак Святой Сям'і, з катэхетычнай працы з дзецьмі. Сястра Нунэ прыводзіць шматлікія выразныя прыклады, жыццёвыя сітуацыі, якія ставілі ў тупік яе імкненне спасцігнуць Бога моцаю розуму, а знойдзеныя адказы на складаныя экзістэнцыйныя пытанні па-новаму, нечакана адкрывалі Божае аблічча і паказвалі спосабы Божай прысутнасці ў гісторыі чалавецтва.

У сваю чаргу адказы гэтыя нараджаюцца з глыбокай кантэмпляцыі над кожным словам Евангелля. Аўтар кнігі падказвае, як нам *пазнаць сябе* і свае правіны ў адрачэнні Пятра, у двух засмучаных Апосталах, што крочылі ў Эмаўс, у тых вучнях, якія адышлі ад Хрыста, бо ім былі не зразумелыя Яго словы. Сястра Нунэ дапамагае *пазнаць Езуса* ў забітых немаўлятах падчас генацыду армянаў, ва ўсіх тых, каго мы ранім сваімі нават «не вельмі значнымі» грахамі.

Ад пытання пошукаў сэнсу і пытання веры с. Нунэ падводзіць чытачоў да прыняцця Божай міласэрнасці, якая з'яўляецца адваротным бокам уяўнай Божай «слабасці», і сцвярджэння Божай моцы, увасобленай у нашым збаўленні. Згодна з гэтым пабудавана і кампазіцыя кнігі: ад разважанняў пра муку і смерць Езуса да аповеду пра пакаянне, прыняцце Цела і Крыві Хрыста і спасланне Духа Святога.

«Ці ведаем мы нашага Бога? Які вобраз Бога мы носім у сабе?» — пытаецца ў нас аўтар і праз некалькі старонак з жалем піша: «Ён нам як чужы, не родны. Мы слухаем пра Яго, як сіроты слухаюць цікавыя гісторыі пра сваіх бацькоў, але на самай справе не ведаюць іх». Ці не з'яўлялася і ў вас такое ўражанне? Ці не адчувалі вы гэта самі? Калі так, то кніга с. Нунэ Цітаян дапаможа вам на жыццёвай дарозе, на вашым «шляху ў Эмаўс», пазнаць Хрыста.

*Ганна Шаўчэнка*

* Кнігі с. Нунэ Цітаян MSF «Крыж і Пасха» і Я. Янушкевіча «Апостал Палесся: Святы Андрэй Баболя ў паэмах Янкі Купалы» запрашаем набыць у кнігарні «Духоўная кніга» па адрасе: г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 25.

## CONTENTS

At the beginning of this issue we offer some materials about the new Pope Francis (p. 2-4).

Complicated problems of Christian life in the Church and outside it are raised in interview «*A Licence for Salvation*» with the Polish theologian W. Dawidowski OSA (p. 5-7).

Monologue by father Viktar Burlaka OFM is dedicated to the festivities in Budslau, on the occasion of the 400th anniversary of the appearance of the icon of Our Lady of Budslau. Here you will also find poetry by J. Malets and I. Samatoy, as well as stories by father Uladzislau Zavalniuk and Jadviga Raj on the meaning of fasting pilgrimages to Budslau (p. 8-15).

Art historian V. Buival in the column «Galereyka» tells the story of the world-famous work of Karl Briullov «*The Last Day of Pompeii*» (p. 16-17).

Cleric of Pinsk Theological Seminary M. Grakau in the article «*How the Christianity Appeared in Rome*» interestingly talks about the ancient Rome (p. 18-21).

We also continue to publish the translation of the work by Stephan Svyazhauski «*Saint Thomas, re-read*», made by A. Zhlutka, Section VIII «God's qualities» (p. 22-24).

«*The Way to the Word: from Constantine the Philosopher to Constantine Preslauski*» is the title of the article by A. Zhlutka, in which the author tells the readers about the beginning of the Christian education (p. 25-29).

Article by restorer A. Shpunt «*Greetings from the Next World*» is dedicated to the legendary person of Cardinal K. Świątek (p. 30-32).

Literary critic E. Liavonava in the article «*Angels in Search of You...*» interestingly considers the concept of an angel in the works of Austrian poet Rainer Maria Rilke (p. 33-37).

Historian A. Shpunt in his article «*The Knight of Christ*» tells the readers the life story of one of the most prominent priests in Belarus Bishop Zygmund Łoziński (p. 38-42).

«*The Four Loves*» is the title of the work by English writer and theologian C.S. Lewis, we propose an excerpt from this work translated by Y. Shedzko (p. 43-45).

In column «Poetry» we print the poems by A. Chobat (p. 46-47).

Novelist F. Siuko offers the readers an excerpt from his novel «*Mizhchassie*» (p. 48-49).

Writer I. Zharnasek in interview «*If the Road Beckons...*» talks to surgeon A. Gulko about irresistible human thirst for pilgrimages (p. 50-52).

Poet M. Skobla in an interview «*The Big Swinger*» talks to the famous Polish director K. Zanussi about the interaction of different cultures (p. 53-56).

Belarusian organist Y. Gabrus in the essay «*Franz Liszt...*» tells the story of the famous European composer who was ordained at the end of his life (p. 57-59).

«*The Artistic Language of Architecture of the Modern Churches of Belarus*» is the article by doctor of art T. Gabrus about the new churches in different regions of Belarus (p. 60-66).

The article «*Ars Incognita*» by poster artist U. Krukouski tells the readers for the first time about the unknown pages of work by M. Seuruk — his sacred art for the glory of God (p. 67-69).

In column «On the Bookshelf» G. Shauchenka introduces a new book by Y. Yanushkevich «*The Apostle of the Palessie, Saint Andrew Bobola, in the poems by Yanka Kupala*» and a book by sr. Nune Tsitayan «*The Cross and the Easter*» («Pro Christo», 2013) (p. 70-71).

## RESÜMEE

Diese Ausgabe eröffnen die Materialien, die dem neuen Papst – Franziskus – gewidmet sind (S. 2-4).

Im Interview „Lizenz auf Erlösung" mit dem polnischen Theologen V. Davidovski OSA werden komplizierte Probleme des christlichen Lebens innerhalb und außerhalb der Katholischen Kirche behandelt (S. 5-7).

Den Jubiläumsfeierlichkeiten in Budslaw anlässlich des 400. Jahrestags der Erscheinung der Ikone der Gottesmutter von Budslaw ist der Monolog des Paters Viktar Burlaka OFM gewidmet. Demselben Datum sind die Gedichte von J. Malez und I. Samata sowie die Erzählungen des Priesters Uladsislau Sawalnjuk und Jadwiga Raj über den Sinn der Fastenpilgerfahrten nach Budslaw gewidmet (S. 8-15).

Der Kunstwissenschaftler W. Bujwal erzählt in der Rubrik „Kleine Galerie" über das weltbekannte Werk „Der letzte Tag von Pompeji" von Karl Brjullow (S. 16-17).

Der Kleriker des Pinsker Priesterseminars M. Grakau berichtet im interessanten Artikel „Wie in Rom das Christentum erschien" über die altertümliche Ewige Stadt (S. 18-21).

Fortgesetzt wird die Publikation der von A. Shlutka angefertigten Übersetzung des Werkes „Heiliger Thomas, neu gelesen" von A. Swjashauski – Abschnitt VIII „Eigenschaften Gottes" (S. 22-24).

„Der Weg zum Wort: von Konstantin dem Philosophen bis zu Konstantin Preslawski" heißt der Artikel von A. Shlutka, in dem über den Beginn der christlichen Aufklärung berichtet wird (S. 25-29).

Der Gestalt des legendären Kardinal K. Świątek ist der Artikel des Restaurators A. Spunt „Grüße aus dem Jenseits" gewidmet (S. 30-32).

Die Literaturwissenschaftlerin J. Ljavonawa behandelt im Artikel „Die Engel auf der Suche nach dir…" auf interessante Weise das Konzept des Engels im Schaffen des österreichischen Poeten R. M. Rilke (S. 33-37).

Der Geschichtswissenschaftler A. Spunt erzählt im Artikel „Der Ritter Christi" über das Leben von Bischof Zygmunt Łoziński, einem der bedeutendsten Priester in Belarus (S. 38-42).

„Vier Arten der Liebe" heißt das Werk des bekannten englischen Theologen C.S. Lewis, dessen Fortsetzung dem Lesepublikum in der Übersetzung von J. Schedsjko geboten wird (S. 43-45).

Die Rubrik „Poesie" enthält die Gedichte von A. Tschobat (S. 46-47).

Der Prosaschriftsteller F. Siuko bietet dem Lesepublikum einen Auszug aus seiner Erzählung „Zwischenzeit" (S. 48-49).

Die Schriftstellerin I. Sharnasek spricht im Interview „Wenn der Weg lockt…" mit dem Chirurgen A. Guljko über den unüberwindbaren Drang der Menschen zu Pilgerfahrten (S. 50-52).

Der Poet M. Skobla führt im Interview „Der große Liebhaber des Lebens" ein interessantes Gespräch mit dem bekannten polnischen Regisseur K. Zanussi über die Wechselwirkung verschiedener Kulturen (S. 53-56).

Der belarussische Orgelspieler J. Gabrusj erzählt im Essay „Franz Liszt…" über den berühmten europäischen Komponisten, der am Ende seines Lebens die niederen Weihen empfing (S. 57-59).

„Die künstlerische Sprache der Architektur moderner katholischen Kirchen in Belarus" heißt der Artikel der Doktorin der Kunstwissenschaft T. Gabrusj über neue katholische Kirchen in verschiedenen Regionen von Belarus (S. 60-66).

Im Artikel „Ars incognita" erzählt der Plakatmaler U. Krukouski zum ersten Mal über unbekannte Seiten des Schaffens von M. Seuruk – über seine sakrale Kunst zum Lob Gottes (S. 67-69).

In der Rubrik „Im Bücherregal" macht G. Schautschenka das Lesepublikum mit dem neuen Buch von J. Januschkewitsch „Der Apostel von Polessje: der heilige Andrej Bobolja in den Poemen von Janka Kupala" und mit dem Buch der Schwester Nune Zitajan „Kreuz und Ostern" („Pro Christo", 2013) bekannt (S. 70-71).

## PODSUMOWANIE

Bieżący numer czasopisma otwierają materiały poświęcone nowemu papieżowi Franciszkowi (s. 2-4).

W wywiadzie «Licencja na zbawienie» z polskim teologiem W. Dawidowskim OSA są podjęte trudne pytania odnośnie rozumienia Kościoła i możliwości zbawienia bez formalnej przynależności do niego (s. 5-7).

Jubileuszowym uroczystościom w Budsławiu z okazji 400-lecia obecności obrazu Matki Bożej Budsławskiej został poświęcony artykuł o. Wiktora Burłaki OFM. Temu samemu wydarzeniu są poświęcone wiersze J. Malca i I. Samatoj, a także rozważanie ks. Władysława Zawalniuka i Jadwigi Raj o sensie pielgrzymek postnych do Budsławia (s. 8-15).

Znawca sztuki Walery Bujwał w rubryce «Galerejka» opowiada o powszechnie znanym dziele Karla Briułowa «Ostatni dzień Pompei» (s. 16-17).

Kleryk Wyższego Pińskiego Seminarium Duchownego M. Grakow w artykule «Jak w Rzymie zjawiło się chrześcijaństwo» w ciekawy sposób opowiada o starożytnym Wiecznym mieście (s. 18-21).

Na dalszych stronach zamieszczony jest kolejny, VIII rozdział pracy Stefana Świeżawskiego «Święty Tomasz na nowo odczytany» pt. «Przymioty Boże» w tłumaczeniu A. Żłutki (s. 22-24).

Tenże autor w artykule «Droga do Słowa: od Konstantego Filozofa do Konstantego Presławskiego» opowiada o początkach chrześcijanskiej oświaty (s. 25-29).

Osobowości legendarnego kardynała Kazimierza Świątka jest poświęcony artykuł restauratora sztuki sakralnej A. Szpunta «Przywitanie z tamtego świata» (s. 30-32).

Literaturoznawca E. Lawonawa w artykule «Aniołowie w poszukiwaniu ciebie...» omawia pojęci anioła w twórczości austriackiego poety R. M. Rilke (s. 33-37).

Z kolei historyk A. Szpunt, w artykule «Rycerz Chrystusa», opowiada o życiu jednego z najbardziej ciekawych księży na Białorusi — biskupa Zygmunta Łozińskiego (s. 38-42).

«Cztery miłości» —to tytuł pracy angielskiego pisarza i teologa K. S. Lewisa; ciąg dalszy tej lektury proponujemy czytelnikom w tłumaczeniu J. Szedźko (s. 43-45).

W rubryce «Poezja» drukujemy wiersze A. Czobata (s. 46-47).

Pisarz F. Siwko proponuje czytelnikom fragment swojej powieści «Międzyczas» (s. 48-49).

Pisarka I. Żarnasiek w wywiadzie «Kiedy pociąga droga…» rozmawia z chirurgiem A. Gulko na temat nieodpartego ludzkiego pragnienia pielgrzymowania (s. 50-52).

Poeta M. Skobła w wywiadzie «Wielki miłośnik życia» w ciekawy sposób rozmawia ze znanym polskim reżyserem K. Zanussim o wzajemnym oddziaływaniu różnych kultur (s. 53-56).

Białoruski organista J. Gabruś w eseju «Ferenc Liszt…» opowiada o znanym kompozytorze węgierskim, który pod koniec swego życia przyjął stan duchowny (s. 57-69).

«Język sztuki architektonicznej współczesnych kościołów Białorusi» — taką nazwę nosi artykuł doktora sztuki T. Gabruś o nowych świątyniach w różnych regionach Białorusi (s. 60-66).

W artykule «Ars incognita» plakacista U. Krukowski po raz pierwszy opowiada o nieznanych stronach twórczości M. Sieuruka — o jego sztuce sakralnej na chwałę Bożą (s. 67-69).

W rubryce «Na książkowej półce» A. Szewczenko zapoznaje czytelników z nową książką J. Januszkiewicza «Apostoł Polesia — święty Andrzej Bobola w poematach Janki Kupały» oraz z książką s. Nune Citajan «Krzyż i Pascha» («Pro Christo», 2013) (s. 70-71).

## SOMMARIO

Questo numero inizia con pubblicazioni dedicate al nuovo Papa Francesco (p. 2-5).

Nell'intervista con il teologo polacco V. Davidowski OSA "La licenza per una redenzione" vengono esaminati i problemi della vita cristiana nella Chiesa Cattolica e al di fuori della Chiesa.

Alle celebrazioni in occasione del 400° anniversario dell'apparizione dell'icona della Madonna di Budslau sono dedicati monologo del Padre Viktar Burlaka OFM, poesie di J. Maletz e I. Samatoj e riflessioni del parroco Uladzislau Zavalniuk e di Jadwiga Rai sul senso dei pellegrinaggi di digiuno a Budslau.

Il critico dell'arte V. Bujval nella rubrica *Piccola galleria* racconta dell'opera di una fama mondiale di Karl Brulov "L'Ultimo giorno di Pompei".

Nell'articolo "Come nacque il cristianesimo a Roma" il chierico del Seminario di Pinsk M. Grakau racconta dell'antica Città Eterna.

Continua la pubblicazione della traduzione dell'opera di Stefan Swiezawski "San Tommaso riletto" eseguita da Ales Žlutka. Si pubblica la parte VIII "Qualità divine".

L'articolo di Ales Žlutka in cui l'autore racconta dell'inizio dell'istruzione cristiana si chiama "Un cammino verso la Parola: da Costantino Filosofo a Costantino di Preslav".

Alla personalità del Cardinale K. Świątek è dedicato l'articolo del restauratore A. Špunt.

Nell'articolo "Gli angeli in cerca di te..." il critico letteratio E. Liavonava analizza il concetto dell'angelo nell'opera del poeta austriaco R.M. Rilke.

Nell'articolo "Il cavaliere di Gesù" lo storico racconta della vita di uno dei più noti sacaerditi in Bielorussia vescovo Zygmund Łoziński.

Un altro brano del libro dello scrittore e teologo inglese C. S. Lewis «Quattro Amori» viene proposto ai lettori nella traduzione di J. Šedzko.

Nella rubrica *Poesia* si pubblicano i versi di A. Čobat.

Lo scrittore F. Siuko propone ai lettori un brano della sua novella "Tra i tempi".

La scrittrice I. Žarnasek parla con il chirurgo A. Gulko dell'insuperabile voglia umana di pellegrinare nell'intervista "Quando attrae la strada...".

Nell'intervista "Grande amante della vita" il poeta Mikhas Skobla parla con il famoso regista polacco K. Zanussi dell'interazione di varie culture.

L'organista bielorusso J. Gabrus racconta del famoso compositore europeo che alla fine della sua vita ricevette la tonsura nel saggio "Ferenc Liszt…".

L'articolo della Dottoressa di ricerca in arte T. Gabrus si chiama "La lingua dell'arte nell'architettura di oggi delle chiese cattoliche bielorusse" e racconta delle chiese nuove nelle diverse regioni della Bielorussia.

Nell'articolo "Ars incognita" il pittore e l'autore dei poster U. Krukovski per la prima volta racconta degli aspetti sconosciuti dell'attività di M. Seuruk come la sua arte sacra in laude del Signore.

Sotto la rubrica *Nello scaffale* G. Šauchenka presenta ai lettori i nuovi libri: "Un Apostolo di Palesse: il Santo Andrej Babolia nei poemi di Janka Kupala" di J. Januškevič e "Croce e Pasqua" della sorella Nune Titojan ("Pro Cristo", 2013).

---

На 1-й ст. вокладкі — Будслаў. Мастак Сяргей Шэмет.

*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 2 (64)/2013.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 17.06.2013 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 580.*

*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.*

*Вул. Каліноўскага, д 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

